РЭДАКТАР
доктар філалагічных навук
М. В. БІРЫЛА

**Сцяцко П. У.**

**С92** Народная лексіка. Мінск, «Навука і тэхніка», 1970.

176 с. 1400 экз. 18 к.

У кнізе адлюстравана бытавая лексіка гаворак Зэльвеншчыны; аналізуюцца назвы яды, пітва, адзення і абутку, падаюцца звесткі пра паходжанне слоў, паказваецца іх утварэнне, ступень ужывальнасці і інш. Бібліягр.: с. 172—174.

**7-1-5**
**59-70**

4с(Бел.)

# УВОДЗІНЫ

Вывучэнне лексікі народных гаворак мае важнае тэарэтычнае і практычнае значэнне. У гаворках захоўваецца шмат старажытных слоў — праславянскіх ці праіндаеўрапейскіх, якія па розных прычынах не трапілі ў пісьмовыя помнікі. Гэтыя словы вельмі каштоўныя для этымалагічных пошукаў, для ўзнаўлення моўнага стану мінулых эпох.

Даследаванне народнай лексікі дае неацэнны матэрыял для параўнальнага вывучэння лексічнай сістэмы славянскіх моў, для вырашэння пытанняў узаемаўплыву суседніх роднасных і няроднасных моў.

У лексіцы народных гаворак знаходзіць свой адбітак шматвяковая гісторыя народа ва ўсіх яе мясцовых праявах. Таму апісанне народнай лексікі можа даць шмат карыснага гісторыку, археолагу, этнографу.

Літаратурная мова ўвесь час узбагачаецца за кошт народнай лексікі. Я. Колас пісаў: «Мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе» [1]. Вывучэнне народнай лексікі дапаможа далейшай нармалізацыі слоўнікавага складу літаратурнай мовы, дасць магчымасць пазбавіцца «няўдалых слоў, механічных перакладаў тых ці іншых слоў іншых моў» [2].

---

[1] Я. Колас. Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Мінск, 1957, стар. 309.

[2] К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы. Збор твораў у 3-х тамах, т. 2. Мінск, 1956, стар. 501.

Лексіка народных гаворак Беларусі яшчэ вельмі слаба вывучана. Пры апісанні лексікі мы трымаемся тэматычнай групоўкі слоў. Вывучэнне лексікі гаворак па асобных тэмах дазваляе аналізаваць самыя разнастайныя словы як сваім паходжаннем, так і сферай ужывання, дае магчымасць разгледзець лексічныя адзінкі ў іх узаемадзеянні і ўзаемаабумоўленасці, дазваляе ў якойсьці ступені вывучаць лексічную сістэму гаворак.

У кнізе апісваецца бытавая лексіка гаворак Зэльвеншчыны.

У бытавой лексіцы захоўваецца найбольш традыцыйных слоў, цікавых даследчыку лексічнай сістэмы гаворак. Разам з вытворчай бытавая лексіка вызначае характар лексічнага складу гаворак. Даследаванне гэтай лексікі — актуальная задача сучаснай дыялекталогіі.

У гаворках Зэльвеншчыны выяўлена шмат праславянскіх лексем, а таксама запазычанняў з польскай, нямецкай і іншых моў. Лексіка Зэльвеншчыны — пагранічнай з Польшчай тэрыторыі — дае магчымасць паўней вывучыць некаторыя пытанні беларуска-польскіх моўных кантактаў.

Пры аналізе лексікі гаворак мы імкнемся па магчымасці даць геаграфію даследаваных слоў, іх пашырэнне ў іншых славянскіх мовах, асабліва ў рускай, украінскай і польскай. Такі матэрыял будзе карысны ў вырашэнні задачы «аддзяліць найбольш старажытны слоўнік, агульны для ўсіх моваў гэтай сям'і, ад лексічных адзінак, характэрных толькі асобным дыялектам» [3].

У кнізе падаюцца звесткі пра паходжанне слоў, прыводзяцца думкі розных вучоных пра этымалогію слоў, паказваецца іх утварэнне.

---

[3] О. С. Ахманова, В. В. Виноградов, В. В. Иванов О некоторых вопросах и задачах описательной, исторической и сравнительно-исторической лексикологии. «Вопросы языкознания», 1956, № 3, стр. 21.

Кожнаму слову прысвечаны асобны слоўны артыкул. Слоўныя артыкулы пабудаваны па агульнай схеме: тлумачыцца семантыка слова (шляхам падбору сінонімаў з беларускай літаратурнай мовы або апісальна), высвятляюцца адносіны прааналізаванага слова да лексічнай сістэмы літаратурнай мовы, паказваецца ступень ужывальнасці слова і г. д.

Бытавая лексіка — шырокае кола слоў, што адлюстроўвае паўсядзённае жыццё, побыт людзей. Гэта назвы пабудоў, мэблі і посуду, гаспадарчых прылад, назвы адзення і абутку, упрыгожанняў і аздобаў, назвы страў і пітва, назвы сваяцкіх адносін, абрадаў, гульняў і г. д.

У кнізе аналізуюцца назвы яды, пітва, адзення і абутку. Разглядаюцца ўсе словы названых тэматычных груп, зафіксаваныя ў гаворках Зэльвеншчыны, а не толькі дыялектныя. Гэта абумоўлена тым, што, па-першае, пра некаторыя словы цяжка сказаць — яны рэдкаўжывальныя літаратурныя ці дыялектныя, а па-другое, семантыка дыялектнага слова, аб'ём значэння яго часта залежыць ад існавання іншых слоў, у прыватнасці і недыялектных; важна пры гэтым і ступень унармаванасці мовы.

Матэрыялам паслужылі запісы народных гаворак Зэльвеншчыны, зробленыя аўтарам — ураджэнцам гэтай мясцовасці — у 1950—1960 гадах. Запісы рабіліся ад прадстаўнікоў розных узростаў, але найбольш матэрыялаў з традыцыйнай гаворкі, бо яна — галоўны аб'ект дыялекталогіі. Выкарыстаны дыялектныя слоўнікі, апублікаваныя і неапублікаваныя дыялекталагічныя матэрыялы, этнаграфічныя крыніцы, творы мастацкай літаратуры, лексічныя матэрыялы кандыдацкіх дысертацый па беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, а таксама этымалагічныя даведнікі і слоўнікі розных славянскіх і некаторых неславянскіх моў.

# КАРОТКІЯ ЗВЕСТКІ З ГІСТОРЫІ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Зэльвеншчына ляжыць на захадзе БССР, між Слонімам і Ваўкавыскам Гродзенскай вобласці, мяжуе з Польшчаю.

Тэрыторыю сучаснай Зэльвеншчыны ў эпоху першабытнаабшчыннага ладу займалі дрыгавічы[4]. У XII ст. Зэльвеншчына ўваходзіла ў Полацкае княства, якое аб'ядноўвала заходнія землі з гарадамі Ваўкавыскам, Навагрудкам, Нясвіжам і інш. Тэрыторыя Чорнай Русі, да якой належала Зэльвеншчына, была спачатку вольная ад татара-мангольскай і літоўскай залежнасці, потым трапіла пад уладу Літвы, а пазней Польшчы. Насельніцтва гэтай тэрыторыі зведала нашэсце шведаў, а пазней Напалеона.

З XVI ст. Зэльва адносілася да ліку каралеўскіх двароў, потым перайшла пад уладу Сапегі[5]. Мястэчка Зэльва належала князю А. Сапегу да 1832 г. Продкі яго ў пачатку XVIII ст. заснавалі кірмаш, які ў канцы XVIII ст. лічыўся найважнейшым пасля Лейпцыгскага як сваім абаротам, так і колькасцю купцоў і гандляроў[6]. Кірмаш працягваўся цэлы месяц — з 25 ліпеня да 25 жніўня. Сюды прыязджалі купцы з розных краін Еўропы і з Расіі.

У 1585 г. у мястэчку Дзярэчын, што на Зэльвеншчыне, Сапегі заснавалі друкарню.

У час першай імперыялістычнай вайны амаль палова насельніцтва Зэльвеншчыны эвакуіравалася ва ўсходнія раёны Расіі — Маскоўскую і іншыя губерні. У 1915 г.

---

[4] Россия. Под редакцией В. П. Семенова, т. 9. СПб., 1905, стр. 57.

[5] Энциклопедический словарь Ф. А. Брокгауза и А. И. Ефрона. СПб., 1894, т. 12, стр. 393.

[6] Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Составил П. Бобровский, ч. II. СПб., 1863, стр. 429—430.

тэрыторыя была занята кайзераўскай Германіяй, а пазней буржуазнай Польшчай, пад уладай якой Зэльвеншчына знаходзілася да верасня 1939 г.

## ФАНЕТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРАК

Для больш поўнага і глыбокага разумення лексічнага матэрыялу, высвятлення пытанняў этымалогіі слоў нельга абысціся без характарыстыкі найбольш важных фанетычных асаблівасцей гаворак.

Гаворкам Зэльвеншчыны ўласцівы: а) моцнае яканне: *бядавацъ, лясніке* (але ненаціскная часціца **не** вымаўляецца як **ні**); б) захаванне канцавога ненаціскнога **о**: *мясо, балото, много, кепско;* в) **о** (ё) на месцы **е**, **а** (**я**) літаратурнай мовы: *снéданё, грабільнё, тапарышчо;* г) выбухны **г** на месцы спалучэння **кр**: *грамýшка* (крэмень), *памяргоўны* (памяркоўны); д) адсутнасць падаўжэння зычных на месцы «зычны +**ьj**»: *насенё, ключо, раля;* е) прыстаўны **г**: *гарацъ гарэх, ганучa*; ж) **г** на месцы **в**: *гуліца, гузёл;* з) адпадзенне пачатковых **в**, **г**: *Ла́дзё* (Уладзя), *ляк, ладыш;* і) ужыванне **й** на месцы **в**, **л**: *яёрка, юргіня, юстэрко, фэйчар;* к) азванчэнне зычных пад уздзеяннем суседніх галосных: *бáса* (<*паса* <нямецк. *fasa*), *гэдык (гэтак);* л) спалучэнне **чн** у традыцыйных словах вымаўляецца як **шн**: *яешня, рушнік;* м) спалучэнне **тр** раздзяляецца галосным **а**: *літар, мэтар*; н) гук **ф** у традыцыйнай лексіцы замяняецца гукамі **п**, **х**, **хв**: *пасоля, хунт, хвартух.*

## БУДОВА СЛОЎНАГА АРТЫКУЛА

Загалоўнае слова падаецца ў арфаграфічным запісе, у дужках — вымаўленне, калі яно разыходзіцца з напісаннем слова. Абазначаецца род назоўнікаў, лік паказваецца толькі ў множналікавых ці адзіночналікавых назоўніках. Пасля гэтага падаецца значэнне слова, калі

яно не супадае ў гаворках і літаратурнай мове; пры іх супадзенні раскрыццё семантыкі слова апускаецца (яго можна знайсці ў «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 г.). Значэнне слова ілюструецца прыкладамі з мясцовай мовы; скарочана абазначаецца вёска, дзе запісаны прыклад. Ілюстрацыйны матэрыял прыводзіцца ў спрошчанай транскрыпцыі. Значэнні дыялектных слоў, якія сустракаюцца ў прыкладах-ілюстрацыях, у кнізе не тлумачацца, іх можна знайсці ў нашым «Дыялектным слоўніку. З гаворак Зэльвеншчыны» (Мінск, 1970).

З новага абзаца падаюцца формы і значэнні слова ў іншых гаворках, а ў дужках пасля іх — скарочанае абазначэнне крыніцы, адкуль узята слова, а таксама формы слоў, зафіксаваныя мастацкай літаратурай, фальклорнымі матэрыяламі, слоўнікамі 20—30-х гадоў XX ст., слоўнікам Насовіча і іншымі крыніцамі.

Даныя «Руска-беларускага слоўніка» 1953 г. і «Беларуска-рускага слоўніка» 1962 г. прыводзяцца асобна, з абзаца.

З чырвонага радка з працяжнікам паказваецца пашырэнне слова ў іншых славянскіх мовах. Пасля гэтага высвятляецца паходжанне слова, яго ўтварэнне, прыводзяцца меркаванні вучоных пра этымалогію слова. У асобных выпадках паказваецца значэнне слова ў старажытнай беларускай мове. Адзначаецца, да якога лексікону ў гаворках — пасіўнага ці актыўнага адносіцца слова, прадстаўнікі якога пакалення часцей (ці радзей) яго (слова) ужываюць.

Тлумачэнне значэння слова, запазычанае з крыніц (акрамя РБС-53 і БРС-62) цалкам, падаецца ў двукоссі.

Алфавітны парадак падачы слоўных артыкулаў унутры тэматычнай групы не захоўваецца, тут улічваецца ступень важнасці паняцця, пашыранасць слова і інш. Алфавітны пералік разгледжаных слоў даецца ў дадатку — індэксе.

## НАЗВЫ ЯДЫ І ПІТВА

Лексіка гэтага раздзела[7] будзе размеркавана ў наступныя семантычныя групы: 1) агульныя назвы ежы; 2) назвы хлебных вырабаў; 3) назвы бульбяных страў; 4) назвы малочных прадуктаў; 5) назвы мяса паводле частак тушы; 6) назвы страў з яец; 7) назвы супаў; 8) назвы пітва.

### Агульныя назвы ежы

**Ядá** ж. Тое, што ядуць, чым харчуюцца. *Яды ні бракуя, ешча адно здаровянькія.* Ст. С.

*Яда*: 1) пища, еда; 2) кушанье; 3) (действие) еда (БРС-62); *яда* — еда (действие) (РБС-53).

Агульнаславянскае слова, паходзіць ад *ѣdťi : ед-а* (ҚЭСРЯ, 102).

**Ёча** ж. Слова адзначаецца толькі спарадычна як назва працэсу яды і мае адценне зламоўнасці; сустракаецца часцей у фраземе *коньска еча. От выпярло зь яго, адным швом крычыць —́ есьці яму давай. Нека коньска еча напала.* Гр. *От еча на яго напала: усё ідзе пат каталку.* Ст. С.

[7] Значэнне асобных слоў-назваў страў знайшло сваё апісанне ў артыкуле аўтара «Назвы некаторых страў у гаворках Гродзеншчыны». — Беларуская мова. Даследаванні па лексікалогіі. Мінск, 1965, стар. 134—142.

*Еча* — ідаць, фанетычны варыянт слова *ежа* ў яго форме *еджа.*

**Харчы́** (*харчэ́*) толькі мн. Ежа, запас яе, харч, харчы. *Харчоў на два-ньні набраў, а ўжэ трэйці дзень — і німа яго дахаты!* Гр. *Як харчэ добрыя, то хутко паправіцца* (хворы). Ст. С.

*Харча́*: 1) 'харч', 'харчы'; 2) агульная назва супаў, Мсцісл. (Юрч.).

*Харч*—'питание'; *харчы*—'харчи' (РБС-53), *харч, мн. харчы —'съестные припасы, продовольствие, харчи'* (БРС-62).

Слова бытуе (у адз. і мн. ліках) ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Паходзіць з турэцк. *Xardž*, якое з арабскай мовы (КЭСРЯ, 358).

**Пачны́** (*пачнэ́*) толькі мн., зламоўн. Страва (руск. блюдо). *Німа, кап паеў аднаго чаго, што дасі, ды годзі. Так не, дзесяць пачноў яму давай.* Гр.

*Пачны* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *пачын,* якое ад *пачынаць: пачн-ы.* Параўн. у старабеларускай мове *пачинок* — 'пачатак'; у Даля: *початок* — 'пачатая, не цэлая рэч' (II, 370—371); у Мельнічэнкі: *починки*—'нядаўна разараная цаліна' (КЯОС, 161).

Літаральнае значэнне слова *пачны* — 'тое, што пачынаюць' (кожная новая страва).

**Ва́ра** ж. Гарачая рэдкая страва. *Ва́ры як ні пахлёбаяш, то яг галодны ўсяроўно.* Ст. С.

*Ва́ра* — 'варыва', Маст., Слон., Ваўк., Бераст. (П. С.), Карэл. (Мат., 152); *вара* — «кушанье вообще, щи из кислой капусты» (СБН), варыва (СБН); *прыварак* — 'гатава-

ная страва', Глушч. (ДС-60); *варыва* — 'боршч'; 'варэнне' (працэс), Мсцісл. (Юрч.).

*Варыва* — варево (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *варево,* дыял. *варя* — тс. (Даль, I, 165, Падвысоцкі, Івашка і інш.), *варя* — 'месца, дзе варылі' (Даль, I, 165), *вар* — 'напітак, страва, звараныя за адзін раз' (СРНГ, III, 40), укр. *вариво.*

Помнікі ўсходнеславянскай пісьменнасці фіксуюць гэта слова толькі са значэннем 'месца, дзе варылі страву' (Сразн., I, 230). Відаць, больш старажытным было значэнне слова *вара* 'згатаваная страва', якое ў помнікі пісьменнасці не трапіла [8].

У старабеларускай мове *вара* мела значэнне — 'варэнне як працэс' (АУСБС).

*Вара* — ад *вар*, якое А. Праабражэнскі разглядае як невытворнае (ЭСРЯ, I, 66). Аформлена, як назоўнік жаночага роду пад уплывам слова *яда.*

**Пахлёбка** (*пахлёпка*) ж. Кепскае, нясмачнае варыва з празмерна вялікай доляй поліўкі (вадкасці). *Хіба гэто зацерка? Адна вада, пахлёбкі наварыла — і еш!* Гр. *Ужо сербануў дворнай пахлёбкі* (Пр.).

— Руск. *похлёбка* — 'рэдкая страва, суп з бульбы ці круп' (не бацвінне); *похлёбка* — "суп картофельный з говядиной или салом" (СОС, 690).

Утворана слова ад *пахлёбаць* 'паесці рэдкай стравы': *пахлёб-к-а.* Магчыма, што слова

---

[8] Такую думку знаходзім і ў кандыдацкай дысертацыі Л. А. Івашкі «Лексика печерских говоров» (Л., 1955).

*пахлёбка* прыйшло ў гаворкі з рускай мовы, дзе яно мае сваё пэўнае значэнне і выступае як нейтральнае.

**Не́смаш** ж. Нясмачная яда (страва). *Хто гэто хоча несмаш есьці, усе смакóў шукаюць.* Гр.

Утворана слова *несмаш* бязафіксным спосабам ад *нясмашны* (<*нясмачны*): *несмаш(ны)*. Параўн. *несмак* — "безвкусие" (Грынч., II, 558) ці аднаструктурныя *неруш, неслух.*

**Не́дасаль** ж. Недастаткова пасоленая (менш, як трэба) ежа. *Нісмашна капуста, нека недасаль.* Гр.

У беларускай, рускай і ўкраінскай літаратурных мовах бытуе *недасол* са значэннем недастатковай салёнасці, слабога засолу.

Паходзіць *недасаль* ад *недасаліць*, утворана бязафіксным спосабам: *недасал-іць* — *недасаль,* параўн. аднаструктурныя *неруш, несмаш* (гл.).

**Смакі́** толькі мн. Смачная ежа, ласункі, прысмакі. Выкарыстоўваецца часцей як дакорлівае, калі хочуць папракнуць у пераборцы пры ядзе, выбары смачных страў. *Ні есьць, што падасі, а ўсё смакóў шукая.* Св.

*Смакі́* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), *смак* — "особый вареный состав, очень пахучий для начинки колбас" (БС).

У старабеларускай мове *смаки* мела значэнне "вкушения"[9].

*Смакі* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *смак* (бытуе ва ўсходнеславянскіх

[9] Гл.: М. Р. Суднік. Да гісторыі беларускай лексікаграфіі (XV—XVI стст.). Канд. дыс. Мінск, 1953, стар. 283.

і заходнеславянскіх мовах), апошняе з германскіх моў: шведск. *smaka*, дацк. *smage*, сярэдненіжненямецк. *smak*—'смак, пах' (ЭСРЯ, II, 334).

**Прысма́кі** толькі мн. 1. Прыправы. *І бяс прысмакаў зьзясі, ні велькі пан!* Кр. 2. Тое, што і **смакі** (гл.). *На прысмакі ласыя ўсе сабакі.* Гр.

*Прысмакі* — "сласти" (КСЧ), "все дополнения, от которых кушанье становится вкуснее и питательнее" (Нікіф.).

*Прысмакі* — лакомство (РБС-53); *прысмакі*: 1) лакомство; сласти; разносолы; 2) приправа (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *присмак* — 'прысмак'; *присмачка* — 'прысмакі' (Даль, III, 442), укр. *присмака* — 'прыправа'.

Утворана слова ад *смак (і): пры-смак(і).*

**Шчо́лак** м. Рэдкая частка варыва. *Шчолак сам зьзеў, а гушчу мне аддае.* Гр.

*Шчолак* — тс., Маст. Слон., Ваўк. (П. С.), Радун. (МДСБМ); *шчолак* — 'расол з агародніны', Віц. (ВКС).

*Шчолак* — абл. 'луг' (БРС-62).

— Руск. *щелок* — 'луг, усякі раствор у вадзе шчолачаў ці едкай солі'.

Магчыма, што слова *шчолак* прыйшло ў гаворкі з рускай мовы. Развіццё значэння магло ісці наступным шляхам: шчолак (луг) → вадкасць, якую зліваюць са стравы → рэдкая частка варыва.

Аўтары КЭСРЯ (стар. 386) адносяць *щелок* да суфіксальнага ўтварэння ад таго кораня, што і стараскандынаўскае *skola* — 'праць' (бялізну).

**Гушча** ж. Густая частка варыва. *На дне адна гушча, лошкаю ні павярнуць, а зьверху— шчолак.* Гр.

*Гушча* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.); *гушча* — 'звараныя ячменныя крупы', Чэрв. (КСЧ), *гушча* — 'куцця', Віц. (Нікіф.); *густыш* — 'густая частка варыва', Чэрв. (КСЧ). *Гушчу з'еў, а жыжку на кагал* (Рап., 140).

*Гушча* — 'асадак у варыве'; гушчар (РБС-53, БРС-62).

— Руск, *гуща* — 'гушча', дыял. гуща: 1) 'асадкі ад квасу', 2) 'яда з абдзертага ячменю', 3) 'густая, добра прыпраўленая яда' (СОС, 155); *густыш* — 'густая частка варыва' (Даль, I, 410); укр. *гуща* — 'гушча', польск. *gąszcz* — 'гушчар'.

Агульнаславянскае слова, утворана ад *густы: густъ—ja>гушча*; параўн. *густ-ыш.*

**Нішчымніца** ж. Посная, без тлушчу ежа. *Бало аб адной нішчымніцы жылі, сала таго ні бачылі, адно на сьвято велько ўжывалі.* Ст. С.

*Нішчымніца:* 1) постная пища; 2) постные дни (БРС-62).

Утворана слова суфіксальным спосабам (суфікс **-іц-а**) ад *нішчымны: нішчымн-іца,* апошняе ад *ні з чым>ні с чым.*

Літаральнае значэнне — 'ні з чым, без прыправы'.

## Назвы ежы ў залежнасці ад часу яе спажывання

**Снéданне** (*сьнéданё* і *сьнядáнё*) н. Страва, прыгатаваная для яды раніцай, у 7—8 гадзін. *Сьнеданё ужэ гатово, давайця сьнедаць да пойдзям жаць жыто.* Пл.

Акрамя таго, слова *снеданне* мае значэнне самога прыёму ежы — снедання. *Хутко сьнеданё закончылі.* Гр.

*Снеданне* — завтрак (РБС-53, БРС-62).

— Руск. (дыял.) *снеданье* — 'завтрак' (Даль, IV, 250), укр. *снідання,* польск. *śniadanie,* чэшск. *snidaně* — тс.

А. Будзіловіч адносіць слова да праславянскіх. Утворана ад *снедаць: снеда-нне.* Страва атрымала сваю назву ад прыёму ежы раніцай — снядання.

**Абе́д** (*абе́т*) м. Страва, прыгатаваная для яды ў 9—10 гадзін. *Яг дзесяць гадзін — нясе гаспадыня жанцом абет.* Вар. Акрамя таго, *абед* — гэта 'працэс прыёму ежы', 'час гэтага прыёму'.

*Абед, обед, обид:* 1) «основной, второй приём пищи в 12—14 часов»; 2) «основной утренний приём пищи в рабочие дни» (ЛП, 391).

*Абед:* 1) прыём ежы ў сярэдзіне дня; 2) страва, прыгатаваная для гэтай яды; 3) час гэтай яды (БРС-62).

Утворана слова з дапамогай прыстаўкі *аб-* ад *ѣдъ* (параўн. *мяса-ед*) (КЭСРЯ, 228). У гаворках, відаць, захавалася больш старажытнае значэнне гэтага слова, параўн. старaславянскае *обѣдъ* — 'снеданне; закуска; абед [10].

**Палу́дзень** (*палу́дзянь*) м. Страва, прыгатаваная для яды ў 14—15 гадзін. *Гаспадыня палудзянь нясе, то канчаймо касіць, пойдзям палуднаць.* Гр.

---

[10] А. М. Селищев. Старославянский язык, ч. II. М., 1952, стр. 41.

*Палудзень* — гэта і назва прыёму ежы ў 14—15 гадзін, і час яе прыёму — сярэдзіна дня, і напрамак свету — поўдзень.

*Полудень, полудэнь, полудзень:* 1) 'лёгкая пасляабедзенная яда'; 2) 'абед'; 3) 'абед на полі' (ЛП, 398).

*Полудзень* — полдник (БРС-62, РБС-53).

— Руск. *полдник* — 'полудзень', дыял. *полудень*—'сярэдзіна дня, 12 гадзін, абед' (Даль, III, 250); укр. *полудень, полуденок.*

Страва атрымала сваю назву ад часу яе прыёму.

**Падвячо́рак** м. Страва, прыгатаваная для яды пад вечар. *Кап падвячорак зьзеў, то дажаў бы мо, а так аслабеў.* Ст. С.

*Падвячорак* — 'полудзень', Чэрв. (КСЧ); *подвичорок* (ЛП, 397).

*Павячорак* — разм. полдник (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *подвечерок* — "полдник, еда между обедом и ужином" (Даль, III, 164), польск. *podwieczorek* — 'полудзень'.

Утворана слова ад спалучэння *пад вечар: пад-вячор-ак.*

**Вячэ́ра**. *Вячэра слабая, каб ночу ні ўставаць есьці. Мо яшчэ што зьзесьці?* Кр.

Агульнаславянскае слова, утворана ад *вечар*, суфікс *-j-a* [11].

## Назвы хлебных вырабаў

**Хлеб** (*хлеп*) м. Харчовы прадукт, які выпякаецца з жытняй мукі. *Распанелі ўжэ, хлеба ні хочуць есьці, да давай пірага.* Гр. Акрамя

[11] А. Мейе. Общеславянский язык. М., 1951, стр. 289.

таго, слова *хлеб* абазначае: 1) цеста, з якога пякуць хлеб, 2) пражытак, харчаванне, сродак існавання. 1. *Пара печ напальваць: хлеп патходзіць.* Зл. 2. *На чужом хлебі сядзіць і ішчэ агрызаяцца. От чалавечына!* Ст. С.

Ва ўсходнеславянскай мове слова *хлеб* мела наступныя значэнні: 1) хлебная расліна, збожжа; 2) зерне з хлебных злакаў; 3) прадукт харчавання — печаны хлеб; 4) ежа, харчаванне, гасцінец; 5) сродкі існавання (Сразн., III, 1371—1373).

У старой беларускай мове гэта слова (*хлеб*) захоўвала ўсе значэнні ўсходнеславянскай пары [12].

У сучаснай беларускай літаратурнай мове слова *хлеб* мае больш вузкае значэнне ('прадукт харчавання; ежа і сродкі існавання').

Звужэнне семантыкі слова адбылося ў выніку таго, што некаторыя значэнні слова *хлеб* сталі перадавацца асобнымі словамі: 'зерне' і 'расліна' — лексемай *збожжа*, 'белы хлеб'— лексемай *пірог*.

Такім чынам, асноўнае значэнне слова хлеб у гаворках — 'чорны, жытні хлеб' [13]. Новае значэнне 'печаны прадукт з мукі' развіваецца пад уплывам літаратурнай мовы, у прыватнасці састаўных назваў *белы хлеб* і *чорны хлеб.*

*Хлеб* — агульнаславянскае слова, уласцівае і старагерманскім мовам. Этымалогія яго

---

[12] Е. С. Мяцельская. Лексіка Супрасльскага летапісу. Канд. дыс. Мінск, 1958, стар. 150.

[13] З такім вузкім значэннем бытуе гэта слова і ў рускіх народных гаворках. Гл.: В. П. Строгова. Лексика говоров по течению реки Мсты. Канд. дисс. М., 1955.

спрэчная. Адны аўтары (Брукнер, 179; Бернштэйн, СГСЯ, 96) лічаць слова *хлеб* праславянскім запазычаннем з германскіх моваў, другія (аўтары КЭСРЯ; Чарных, «Очерк», 67) — той думкі, што гэта сваё, спрадвечнае слова, агульнае ў славянскіх і германскіх мовах. Ф. Слаўскі сцвярджае, што *хлеб* — слова і прадмет — запазычаны ў праславянскую пару ад германцаў, адсюль і латышск. *klaips* — 'вялікі бохан' (Сл., I, 66).

**Паламя́нка** ж. Нізкі хлеб (у форме тоўстага бліна, падзеленага на квадраты), спечаны перад полымем. *Калі напальваюць печ хлеп саджаць, то пякуць паламянку, калі старого хлеба ўжэ німа, усей зьзелі.* Гр.

Утворана слова ад дыялектнага *поламянё*—'полымя', суфікс—**-к**-а: *паламян-ка.*

**Падпаламя́нка** (*патпаламя́нка*) ж. Тое, што і **паламянка.** *Патпаламянку на скавaрадзе сьпякла, як печ напальвала на хлеп.* Едн.

*Падпаламянка* — прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад таго слова, што і *паламянка: пад-паламян-ка.* Літаральнае значэнне — 'тое, што пячэцца пад полымем' (пад яго ўздзеяннем).

**Піро́г** (*піро́х*) м. Дамашняе печыва з пшанічнай мукі, мае форму бохана. *Пірох ні хлеп, кажан дзень ні е́сьцімяш.* Ст. С.

*Піроaccess* — "пшеничный хлеб, кулич" (КСЧ), *пірог* — "калач вообще, копеечный пирог" (СБН).

*Пірог* — пирог (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *пирог* — 'печаны выраб з тонкага раскачанага цеста з начынкаю', дыял. *пирог*— 'хлеб жытні, сітніца'; 'хлеб ячменны'; 'хлеб

пшанічны'; 'сітны хлеб без прыправы'; 'пшанічнае печыва з начынкаю'; у тамбоўскіх, курскіх, разанскіх, маскоўскіх гаворках *піроз* — 'пшанічны хлеб без начынкі' (Даль, III, 112; Бурнашов, Опыт словаря...); укр. *пиріг* — 'піро г', польск. *pieróg* — тс.

А. Сабалеўскі адносіць *піроз* да *пыро* 'пшаніца': *pyrog* — 'пшанічны хлеб'; форма *піроз* узнікла пад уплывам *пір* (РФВ, 66, 348). А. Праабражэнскі зазначае, што санскрыцкае *pūras* таго кораня, што і славянскае *пыро* — 'пшаніца', і мае значэнне — 'піроr, ляпёшка' (ЭСРЯ, II, 60).

А. Брукнер лічыць, што *піроз* паходзіць ад *пір*, суфікс **-ог**, як і ў слове *тварог* (стар. 410). Гэтай думкі і аўтары КЭСРЯ. П. Я. Чарных сцвярджае, што *піроз* ад *пыро*[14].

**Сітня́к** м. Фабрычнае печыва з пытляванай жытняй мукі. *На́тто смашны сітняк, як сьвежы.* Гр.

*Сітняк* — 'сітны хлеб', Маст., Ваўк., Слон., Бераст. (П. С.), *сітніца* — тс., Глушч. (ДС-60), Чэрв. (КСЧ); *сітніца* — 'сітны рыначны хлеб' (СБН).

*Сітніца* — ситник (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *ситник,* укр. *ситник,* польск. *sitniak* — тс.

Паходзіць слова *сітняк* ад *сіта*, суфіксальнае ўтварэнне: *сіта* — *сітны* — *сітняк.*

Літаральнае значэнне — 'з-пад сіта' (з мукі, прасеянай на сіта).

Магчыма, што ў форме *сітняк* слова замацавалася ў гаворках пад уплывам польскай

[14] П. Я. Черных. Очерк русской исторической лексикологии. Древнерусский период. М., 1956, стр. 67.

мовы (польск. *siłniak*), якая выконвала функцыю дзяржаўнай у Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.).

**Ба́бка** (*ба́пка*) ж. Салодкі пшанічны хлеб, мае форму куліча. *Бапку на малацэ рашчыняям, яйца б'ем, цукяр сыплям; пячэм адно на ве́лько сьвято.* Гр.

*Бабка* — тс., Ваўк., Маст., Слон. (П. С).

*Бабка* — кулич, баба (БРС-62).

— Руск. *баба* — 'род піражнага', дыял. *баба* — 'булка з пшанічнай мукі', мае цыліндрычную форму (СОС, 18); *баба* — 'здобнае печыва на дражджах, род высокага куліча, каравая' (Даль, I, 32); *бабка* — 'здобная булка' (ПОС, 84); укр. *баба*, польск. *babka* — 'печыва круглай формы' (Карл.).

Паходзіць слова ад *баба*, суфікс -**к**-а. А. Брукнер адносіць *баба* да пераноснага ўжывання слова *баба* — 'жанчына' (Брукн., 9), параўн.: *бабайка*: 1) старуха, бабушка; 2) кушанье из гречневой муки, запеченное в небольшой глиняной форме в виде усеченного конуса (СРНГ, II, 16).

**Карава́й** м. Вясельнае здобнае печыва з пшанічнай мукі, якім маладыя абдзельваюць гасцей. *Каравай бяс шышак ні бывая. Кожнаму кусочак караваю ш шышкаю даюць маладыя.* Гр.

*Каравай* — 'белы пірог, які дзеляць на апошняй вясельнай бяседзе: рэжуць на кусочкі і прадаюць гасцям і чужым' (КСЧ).

*Каравай* — 'абрадавы хлеб' (БРС-62).

— Руск. *каравай* — 'вялікі круглы хлеб'; *каравай* — 'вясельны пірог' (СОС, 345), *каравай* і *коровай*: 1) наогул непачаты цэлы хлеб

ці круглы камяк (хлеба, сыру); 2) пшанічны хлеб на малацэ, з яйцамі і маслам, печаны ў пасудзіне клінам (каравайніку); 3) прэсны хлеб, праснак; 4) круглы пірог з курыцаю; 5) круглы падводны камень (Даль, II, 89); укр. *коровай*—'вясельны хлеб', стараруск. *коровай*, старасл. *кравай*—'род хлеба', славенск. *kravâj*, балг. *кравай* — 'круглы хлеб' (на вяселлі і інш.), с.-х. *краваљ* — 'каравай, які прыносяць госці маладым'.

А. Праабражэнскі паходжанне слова *каравай* лічыць няясным. М. Фасмер і аўтары КЭСРЯ дапускаюць магчымым утварэнне яго ад *карова*, суфікс **-ай** (параўн. *малачай*), бо назвы жывёлін часта скарыстоўваюцца для назвы печыва з цеста (Фасм., II, 332).

**Пы́шка** ж. Салодкае печыва з пшанічнай мукі, мае выгляд аладкі. *Пышкі бало пяклі дзецям на блясі ў печы.* Ст. С.

*Пышка* — 'ляпёшка з пшанічнай мукі або з ячменнай ці грэцкай', Малар. (МДСБМ); *пышка*: 1) тонкая аладка з белай мукі; 2) варэнік з мясам, Бых. (МДСБМ), Радашк. (МДСБМ).

*Пышка* — пышка (БРС-62).

— Руск. *пышка* — 'пухлая круглая булачка'; перан. пра пухлае, поўнае дзіця, жанчыну; дыял. *пышка* — "оладка, рыхлая хлебная перепечка, пряжица" (Даль, III, 546).

А. Праабражэнскі адносіць *пышка* (булачка) да *пыхаць, пышу* — 'гарэць, награвацца', ад *пухнуць* (ЭСРЯ, II, 161). Аўтары КЭСРЯ (271) бачаць у слове *пышка* суфіксальнае ўтварэнне ад той самай асновы, што і *пыхцець, пышны.*

**Суха́рык** м. Здобнае печыва з пшанічнай мукі, мае выгляд добра падсушанай аладкі. *Мо сухарыкаў сьпякчы с таго цеста, што ад бапкі асталосё.* Гр.

*Сухарык* — 'коржык з прэснага цеста на смятане' (ЛП, 407).

Утворана слова ад *сухар: сухар-ык*; параўн. *сухарыш* — 'хлебны сухар' (Даль, IV, 366.) Печыва атрымала сваю назву паводле ўласцівасці (добра падсушанае печыва).

**Бо́ндачка** ж. Невялікая булачка, якую пякуць дзецям з рэшткаў хлебнага цеста. *Ішчэ трохі асталосё цеста, то бондачку дзіцяці сьпяку.* Ст. С.

Гэта слова ўжываецца таксама са значэннем 'кусочак цеста, што пакідаюць у дзяжы для закваскі'.

Спарадычна сустракаецца і **бо́нда**, але толькі як жартаўлівае са значэннем 'каравяк'.

*Бо́нда* — 'булачка на дражджах', Слон. (МДСБМ), 'выпечка з хлебнага цеста', Навагр. (МДСБМ), 'скавароднік, перапечка' (Сцяшк.); *бонда*: 1) бочка, кадушка; 2) хлеб; 3) выслужаная доля зямлі (СБН), *бондачка* — 'маленькая булачка хлеба, спечаная спецыяльна дзецям' (СБН).

*Бондачка* — памяншальнае ўтварэнне ад *бонда* (суфікс **-ачк**-а), якое, як заўважае Я. Карскі, з літоўскай мовы: літоўск. *bandos* — 'прысевак' [15].

---

[15] Е. Карский. К вопросу о влиянии литовского и латышского языка на белорусское наречие. РФВ, т. XIX. Варшава, 1903. А. А. Вяржбоўскі адносіць *бонда* да

**Падскрэ́буха** (*пацскрэ́буха*) ж. Маленькая баханка хлеба з аскробкаў цеста. *Пацскрэбуха адна засталася, то каб языка ні застраміў ядучы́.* Кр.

*Поскрибуха, паскрэбушка, пашкребуха, поскребка*: 1) паскробак (булка); 2) кусочак цеста на закваску (ЛП, 399).

*Падскробак*: 1) маленькая булачка з аскробкаў цеста ў дзяжы; 2) апошняе дзіця (СБН).

*Паскрэбак* — 'саскрэбеныя астаткі ежы', *паскрэбкі* — поскрёбки, оскрёбки (БРС-62).

— Руск. *поскрёбыш, проскрёбки* — 'паскрэбак', дыял. *подскрёб, подскрёбки, подскрёбыш* — 'астаткі цеста з дзяжы' (Даль, III, 204); укр. *вишкребок, вишкребки* — тс.

*Падскрэбуха* — ад *падскрэбці*; суфіксальнае ўтварэнне; *падскрэб-уха.*

**Ляпня́к** м. Няўдалы, сыраваты, ліпкі хлеб. *Ні ўдáўсё хлеп, ляпняк некі.* Гр.

*Лэ́пеш, ляпе́ш, ляпёшка*: 1) лепёха; 2) толстый блин из тертого картофеля с мукой; 3) о неукислом, неудавшемся хлебе (ЛП, 387).

Відаць, *лямпяк* паходзіць ад *ляпаць* — абыяк рабіць што-небудзь: *ляп-няк.* Хлеб мог атрымаць назву і паводле ўласцівасці ліпнуць да зубоў. У такім разе: *ліпн-як*, якое ў выніку прыпадабнення галоснага **і** да **а**(**я**) дало *ляпняк*, параўн. *лепень* — 'мокры снег' (Даль, II, 248).

**Бо́хан** м. *Яг бáло то ўсё дома пяклі хлеп, боханаў с п'яць ці боляй у печыві.* Гр.

---

ўсходнелітоўскага *banda* — булка (гл. яго канд. дыс. «Беларуска-літоўскія лексічныя ўзаемасувязі». Мінск, 1960, стар. 129).

— Руск. дыял. (заходн.) *бохан, боханец* — ”коровай хлеба, букатка, коврига” (Даль, I, 120); *бохон* — ’каравай хлеба’ (СРНГ, III, 139); укр. *бухан, буханець* — ’бохан’; польск. *bochenek, bochen* — тс., чэшск. *bochník* — тс.

Я. Карскі лічыць гэта слова запазычаным з польскай мовы, дзе *bochen* ад нямецк. *Bache*. А. Брукнер разглядае слова *bochen* як новае ў польскай мове, якое паходзіць ад старога *bochnek* (як *tanc* ад *taniec*), якіе з нямецк. *fochenz* (*e*) <лац. *focacia* ад *focus* — ’агонь’ (Брукн., 33). Ф. Слаўскі і М. Фасмер адносяць гэта слова да сярэдневерхненямецкага *vochenz* (*e*) — ’белы хлеб, род выпечкі’ (Сл., I, 38, Фасм., I, 254).

**Баха́нка** ж. 1. Невялікі дамашні бохан хлеба. *Каб бохан быў, то хваціло п, а баханкі замáло.* Кр. 2. Булка чорнага хлеба фабрычнага вырабу. *Яг будзяш у лаўцы, то і мне купіш баханкаў дзьве хлеба.* Ст. С.

*Баханка* — каравай, буханка (БРС-62); *буханка* — каравай хлеба (РБС-53).

— Руск. *буханка*, укр. *буханка*, польск. *bochanek*, чэшск. *bochanek.*

Аўтары КЭСРЯ (стар. 50) лічаць слова *буханка* ў рускай мове ўтварэннем дыялектна-прастамоўнага характару ад *бухонъ*, запазычанага рускай мовай з польскай.

*Баханка,* на нашу думку, — ад польскага *bochanek*, перааформленае пад уплывам назоўнікаў жаночага роду *бондачка, булка.* Можна дапусціць і ўласнае памяншальна-ласкальнае ўтварэнне гэтага слова ад *бохан:* на ўзор *бонда* — *бондачка* (гл.): *бахан-ка* (*баханачка*).

**Бу́лка** ж. 1. Пшанічнае печыва дзецям (звычайна з астаткаў цеста ад пірага). *Сьпякла шэсць пірагоў і дзьве ішчэ булкі вышло.* Гр. 2. Фабрычны пшанічны хлеб. *Узяў у лаўцы дзьве баханкі чорнага й булку.* Кр. 3. Баханка фабрычнага чорнага хлеба. *Булак со́тры возьмяш* (хлеба) Ст. С.

Найбольшае пашырэнне мае слова *булка* з першым значэннем. З апошнімі двума значэннямі слова ўспрымаецца як новае.

*Булка* → 'жытні хлеб, невялікі' (СБН, ВКС).

*Булка*—'хлеб з пшанічнай мукі' (РБС-53); *булка* — 'булка'; 'хлеб, каравай' (БРС-62).

— Укр. *булка* — тс., руск. *булка* — тс.; *булка*: 1)"пшеничный хлеб в Южной России; 2) „хлебец немецкого печенья" (Даль, I, 140).

*Булка* — запазычанне з польскай мовы. Польск. *bułka*, як сцвярджае Я. Карскі, з нямецк. *Beule.* Ф. Слаўскі параўноўвае *bułka* са шведскім *bulle* — 'хлеб, булка' (Сл., I, 50). А. Брукнер адносіць слова да лац. *bulla*—'гуз, пухір', адкуль і *бульба.* Паводле яго слоў, у старапольскай мове ўжывалася састаўная назва *bułka chleba; булка* ў сучасным яго значэнні — з XV ст. (Брукн., 48). М. Фасмер дапускае роднаснасць слова *булка* са словамі *булава, булдырь* і параўноўвае з лац. *bulla* — 'выпукласць, пухір' (Фасм., I, 239). Думка Фасмера заслугоўвае ўвагі. У даследаваных гаворках *булка* — гэта і назва гарбатага чалавека. Магчыма, у слове *булка* трэба бачыць індаеўрапейскі корань — *bul*, параўн. стараінд. *bulis* — 'зад', сярэднелітоўск. *bulis* — 'ягадзіцы', лац. *bulla* — 'пухір'.

## Назвы частак бохана

**Акра́ец** (*акра́яц*) м. *Каб ні так крышыўсё ў дарозі, вазьмі акраяц* (хлеба). Св.

*Акраец* — першая, крайняя луста хлеба, Чэрв. (КСЧ); *акрай* — тс., Віц. (КСВ); *краец* і *акраец* (СБН); *скрайчык* — акраец, Малар. (МДСБМ).

*Акраец* — горбушка, краюха (БСР-62).

— Руск. *краюха* — 'акраец, скібка, луста', дыял. *окраец* (заходн.) — краюшка, горбушка; *окраек* — тс. (Даль, II, 590); укр. *окраєць*.

Даль адносіць *акраец* да *абкроіць*. А. Праабражэнскі звязвае гэта слова з *край*, якое ад *краяти* (шматкратнае трыванне ад кроіць; ЭСРЯ, I, 376).

Утворана слова *акраец* прыставачна-суфіксальным спосабам ад *край: а-край-эц;* параўн. аднаструктурныя *асушак, аполак.*

**Скі́бка** (*скі́пка*) ж. Луста, скіба. *Рас мяне дома німа, сама аткрой скіпку хлеба, намаш маслам і еш. Чаго быць галоднаму*! Ст. С.

*Скібка* — 'луста', Ваўк., Маст., Слон., Бераст. (П. С.); *ськіпка* — тс., Бял. (Мат., 50); *скібка* — памянш. ад *скіба* (СБН).

*Скіба, скібка* — краюха, краюшка (РБС-53); *скіба*: 1) краюха, ломоть; 2) пласт земли (при пахоте); *скібка* — краюшка, ломтик (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *скиба, скибка* (курск., арлоўск., смаленск.) і *скепка, скебка, скипа* — 'шчэпка, луста, асабліва хлеба'; *скиба*—'пласт зямлі' (Даль, IV, 195—196); укр. *скиба, скибка*; польск. *skiba* — 'пласт зямлі, луста хлеба'. А. Праабражэнскі адзначае гэта слова і ў чэш-

скай і верхня- і ніжнялужыцкай мовах і лічыць старым запазычаннем з германскіх моў (ЭСРЯ, II, 297—298). А. Брукнер мяркуе, што *skiba* з польскай мовы прыйшло ва ўсходнеславянскія, а ў польскай яно з нямецк. *Sciba.* Я. Карскі таксама гэтай думкі, але першакрыніцай лічыць ісландск. *skifa.*

Заслугоўвае ўвагі паметка Даля, які бачыць роднаснасць слоў *скіба* і *скепать, счепать* (IV, 195—196). Гэту думку пацвярджае М. О. Коген, які адносіць *скіба* да таго кораня, што і *аскепак*[16]. Відаць, слова *скіба (скібка)* — агульнаславянскае, таго кораня, што і *скепка* (*шчэпка*).

*Скібка* — памяншальнае ўтварэнне ад *скіба*; у сувязі са знікненнем апошняга *скібка* перастала ўсведамляцца як памяншальнае, стала нейтральным, ад яго ўтварылася памяншальнае **скібачка.**

**Лу́ста** ж. Тоўская, вялікая скіба хлеба (пірага). *Лусту атпу́дзіў і жарэ папоўніцы, а другія хай сьлінку пускаюць.* Кр.

*Луста* — 'скібка', Чэрв. (КСЧ); *луста*: 1) скіба, 2) ежа, якую бяруць з сабой, калі едуць куды-небудзь на працяглы час, Докш. (Мат., 74); *луста, лустачка* — 'скіба хлеба, пірага' (СБН).

*Луста* — ломоть (РБС-53); *луста* — (преимущественно о хлебе) ломоть (БСР-62).

— Руск. (дыял.) *луста, лустка, лусточка* — "ломоть, срезок, скосок" (Даль, II, 274).

---

[16] М. О. Коген. Этымалагічныя нататкі. — Працы класа філалогіі. Запіскі аддзела гуманітарных навук, т. I. Мінск, 1928, стар. 236—237.

Я. Карскі адносіць *луста* да запазычанняў з літоўскай мовы. Думку Карскага пацвярджае А. Вяржбоўскі[17]. У. Даль і А. Брукнер лічаць, што *луста* і *лушчыць, луска* — роднасныя словы. А. Брукнер вылучае ў слове *луста* корань *лу-* (той, што і ў словах *лупіны, лупа*) са значэннем — 'абцінаць, абрэзваць' (Брукн., 315).

**Абе́ртуха** ж. Вялікая, на ўвесь бохан, скіба хлеба (пірага). *Рука адломіцца ад гэтае абе́ртухі.* Гр.

*Обэртуха* — 'вялікая скібка хлеба' (ЛП, 51). Паходзіць слова ад *абвярнуць* — 'кругом бохана абрэзаць лусту'; *абверт-уха*>*абертуха.*

**Кусо́к** м. 1. Кавалак хлеба, пірага. *Мо табе кусок адламаць хлеба да зьзясі, га?* Св. 2. Недаедзены (закушаны) кавалак хлеба (пірага). *Хай сам даядая, ніхто яго кусок ні е́сьціме.* Гр.

*Кус:* 1) колькасць адкушанага хлеба, 2) кусок, 3) яда; *кусочкі* — "милостынное подаяние" (СБН); *кусанак* — 'недаедзены кавалак' (хлеба, булкі), Бял. (Мат., 32); *кусанак* — 'агрызак', Віц. (ВКС).

*Кусок* — кусок (БРС-62).

— Руск. *кусок*: 1) асобная частка чаго-небудзь, 2) адрэз тканіны; кусок: 1) частка адкушанага; 2) частка наогул, луста, скіба; 3) цэлае прынятай велічыні (Даль, II, 225); укр. *кусок*, чэшск. *kousek*, польск. *kąsek* і інш.

*Кусок* — ад ранейшага *кус*, вядомага ў славянскіх і іншых індаеўрапейскіх мовах

---

[17] А. Вяржбоўскі. Беларуска-літоўскія лексічныя ўзаемасувязі. Канд. дыс. Мінск, 1960.

(ЭСРЯ, I, 419): *кус-ок;* суфікс **-ок** страціў памяншальнае значэнне; памяншальным да *кусок* выступае цяпер слова **кусóчак.**

**Асýшак** м. Адрэзаны засохлы кавалак хлеба. *І асушку рад быў бы ў вайну, да ні было яго.* Кр.

*Асушак* — сухарь (РБС-53); *асушак* — сухая корка хлеба (БРС-62).

— Руск. *сухарь*; укр. *сухар.*

*Асушак* — прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *суш* (*суша*): *а-суш-ак*, параўн. аднаструктурнае *акраец, аполак.*

**Сухáр** *м.* Высушаная скібачка хлеба, якую ядуць размачыўшы; слова бытуе часцей у форме множнага ліку — **сухары́** (*сухарэ́*). *Хоць сухар які размачы да зьзеш, як хлеп вышаў.* Кр.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Утворана ад *сухі*: *сух-ар.*

**Скары́нка** ж. *Хлеп атпёксё, уся скарынка адвальваяцца.* Дзяр.

*Скарынка* — корка, корочка (БРС-62).

— Руск. *корка,* дыял. *скоринка* (Даль, VI, 204, Пособ., 197), *скорка* (Даль, IV, 204); укр. *скорина, скоринка*; польск. *skórka.*

*Скарынка* ад *скарына*, якое ад агульнаславянскага (*с*)*кора* — 'скарынка, скура'; корань той, што і ў слове *кара* (ЭСРЯ, II, 306). Літаральнае значэнне слова *скарынка* — 'кара хлеба', параўн. руск. *корка.*

**Мя́кіш** м. *Адно мякіш яму давай, скарынкі ўжэ ні ўкусіць.* Св.

Агульнаславянскае слова. Паходзіць ад ранейшага *мякъ* — 'мяккі', суфікс **-іш** (ЭСРЯ, I, 582; ЧЭСРЯ, 211).

## Назвы бульбяных страў

**Картóплі** толькі мн. Бульба як страва. *От, картопяль з малаком паеў — і ўжэ ні гóлат.* Гр.

Люблю я слухаць шум ад таркі: дзяруць *картофлю* на бліны (Я. Колас, V, 72). Можа вайна пачнецца, дык апошнюю *картоплю* з пограба забяруць (К. Чорны, Раманы і аповесці, 24); у форме *картоплі* — у Ц. Гартнага, З. Бядулі і інш. (КТСБМ).

Слова *картоплі* (*картофлі, картопля*) займае палову тэрыторыі Беларусі; яно ўласціва гаворкам паўднёва-заходняга дыялекту (ДАБМ, карта 277). З. Верас яго падае ў «Беларуска-польска-расійска-лацінскім батанічным слоўніку» (Вільна, 1924).

— Руск. *картофель,* дыял. *картопля* (Даль, II, 94; СОС, 314); укр. (дыял.) *картопля, картоплі* (Лыс.), польск. *kartofle, kartofel*; (дыял.) *kartopli.*

Слова *картоплі* прыйшло ў гаворкі з польскай мовы, дзе *kartofla* з нямецк. *Kartoffel,* першапачаткова *tartuffel* з італ. *tartufo, tartofolo*—'труфель' (на аснове падабенства клубняў назва перанесена на бульбу (Фасм., II, 204).

Страва атрымала сваю назву ад прадукта, культуры (параўн. *капуста, гарбуз*).

**Кунáды** толькі мн. Слова сустракаецца спарадычна з тым значэннем, што і *картоплі* (гл.). *Трохі кунáдаў паеў* і *бяжы бацьку памажы каравэ пасьвіць*! Гр.

У форме адзіночнага ліку — *кунада* — гэта слова падае З. Верас у «Беларуска-поль-

ска-расійска-лацінскім батанічным слоўніку» са значэннем — 'бульба'.

*Кунада* — ад назвы краіны Паўночнай Амерыкі — Канада, якая лічыцца радзімай гэтай культуры[18]. Форма множнага ліку — *кунады* ўтварылася пад уплывам слова *картоплі* (гл.).

**Адваро́нкі** толькі мн. Вараная з шалупіннем бульба, якую лупяць перад ядой. *Натто смашныя адваронкі сь сяляццом.* Ст. С.

*Адваронкі* — тс., Маст. (П. С.); *адвароніцы* — тс., Слон. (П. С.), *адвараныя* — тс., Слон. (МДСБМ).

— Руск. (дыял.) *воронки*—тс. (КОС, 142).

Спарадычна сустракаюцца з гэтым значэннем састаўныя назвы: **адвара́ныя картоплі** і **картоплі з мундзірамі** (жартаўлівае). Гр., Ст. С.

Узнікла слова *адваронкі* ад састаўной назвы *адвараныя картоплі*; суфіксальнае ўтварэнне: *адваран-кі*>*адваронкі*, параўн. слова *паронкі* з тым самым значэннем на Глушчыне (ДС-60), Віцебшчыне (ВКС) і Магілёўшчыне (СБН).

**Салёнкі** толькі мн. Бульба, якую соляць і чысцяць перад гатаваннем. *Салёнкі завем, як скрабем і солімо да варэння, а як ніскрэбеныя варым — гэто адваронкі.* Гр.

*Салёнкі* — тс., Слон. (МДСБМ); *салоніцы* — тс., Слон. (П. С.); *салонікі* — 'скрэбеная вараная бульба', Пар. (Мат., 168), *пасоланкі*, Бяр. (Працы, V, 132): *солонцы, солоники, солонци, салёнки* — тс. (ЛП, 406).

---

[18] П. Я. Черных. Очерк русской исторической лексикологии. Древнерусский период, стр. 61.

Утворана слова ад *салёныя* (картоплі): *салён-кі*; мадэль тая, што і *адваронкі*, параўн. *солянка* — 'булачка, прысыпаная соллю' (Даль, IV, 268).

**Пячо́нкі** толькі мн. Печаная ў прыску бульба. *Як каравэ пасем, то ўсё пячонкі пячэм у по́пялі.* Ст. С.

*Пячонікі, пэчонкі, печонцы, печонкі* — тс. (ЛП, 395).

Польск. *pieczonka* — тс. (Карл.).

*Пячонкі* ад *печаныя* (картоплі): *печан-кі*>>*пячонкі*, параўн.: печенка — "что-либо печеное (не вареное, не жареное), изготовленное на углях, в горячей золе, в вольном духу печи" (Даль, III, 109).

**Асмалё́нкі** толькі мн. Бульба з прыгаркамі. *Малы́ наш натто асмалёнкі любіць, паскрабе прыгаркі і хрумстая.* Гр.

Утворана слова ад *асмаленыя* (картоплі): *асмален-кі*>*асмалёнкі*.

**Смажо́нкі** толькі мн. Смажаная бульба. *Ні хоч салёнак, так я табе смажонак насмажу на маслі, добро?* Гр.

*Смажонкі* — тс., Глушч. (ДС-59).

Слова не з'яўляецца яшчэ актыўным ва ўжыванні; замест яго часцей скарыстоўваецца састаўная назва **смажаныя картоплі.** *Смажонкі* ўзнікла таксама ў выніку «сціскання» састаўной назвы, як і *адваронкі, салёнкі, пячонкі, асмалёнкі*.

Для абазначэння адной бульбіны ўжываюцца формы адзіночнага ліку гэтых слоў: **адваро́нка, салёнка, пячо́нка, асмалёнка**. Аднаструктурныя ўтварэнні бытуюць і ў рускай народнай мове, параўн.: *жаронка* — 'яечня'

(КОС, 342); *сушонка* — 'сушаная рэпа ці бручка'[19].

**Ка́ша** ж. Тоўчаная бульба, прыпраўленая маслам, звычайна запечаная ў форме конуса. *Як вечарам, то і кашы натаўку, паясьце з малаком — і на ноч будзя з вас.* Гр. Паралельна бытуе і састаўная назва **картапляна(я) каша.** Гр., Зл., Пл. Ужыванне састаўной назвы абумоўлена, відаць, тым, што слова *каша* мае і іншае значэнне — 'куцця'.

*Каша* — тс. (ЛП, 381).

Калі прыеду ў вёску нашу і папрашу ў цябе паесці — стаўчы мне *бульбяную кашу*, засквар, чым маеш ты, нарэшце (П. Броўка, гл. «Полымя», 1962, № 2, стар. 16).

— Руск. (дыял.) *кашник* — картофельная запеканка (Пособ., 194); укр. *кортопляна каша* (Лыс., СЛЛ, 26).

*Каша*—'густая страва з круп'—агульнаславянскае слова. Аўтары КЭСРЯ і Фасмер адносяць яго да ўтварэнняў з суфіксам *-j-* ад той асновы, што і латышскае *kãst* — 'цаджу' (Фасм., II, 214).

Першапачатковае значэнне слова — прадукт з тоўчанага зерня.

**Камя́к** м. Слова сустракаецца спарадычна з тым значэннем, што і **каша** (гл.). *Салёнкі будзям есьці ці камяку патаўкчы?* Едн.

*Камяк* — тс., Слон., Маст. (П. С.), Случ. (Мал., БНП); *камакі́* — 'бульбяная каша'— Глушч. (Мат., 114); *камы* — тс., Шкл. (МДСБМ), Докш. (Мат., 72); *камы* — 'густое цеста' (СБН).

[19] См. Диалектологический сборник. Под редакцией Ягодинского. Вологда, 1941, стр. 40.

*Камякі*, толькі мн., абл.— картошка (мятая), пюре (картофельное) (БРС-62); *камы*, толькі мн., абл.— картофельное пюре (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *комы* — 'яда: шарыкі з расцёртага гароху і тоўчанай бульбы' (СОС, 338), укр. *кома, ковма* — 'бульбяное пюрэ' (Лыс., СЛЛ, 26).

*Камяк* — суфіксальнае ўтварэнне (суфікс **-як**) ад *ком*, якое бытуе ва ўсходнеславянскіх і балтыйскіх мовах (параўн. латышск. *kams* — 'камяк'). Літаральнае значэнне слова *камяк*— 'сціснуты, скамечаны'; параўн. *комчыць* — 'есці' (у гаворках), *комъкати* — 'прычашчацца' (Сразн., I, 1267).

Для абазначэння страў, прыгатаваных з бульбы і мукі, бытуюць словы *бабка, блінец, блін, аладка, картаплянік, падкалочаныя*.

**Ба́бка** (бапка) ж. Печыва (звычайна цыліндрычнай формы) з дранай бульбы, прыпраўленай мукою і скваркамі. *На дзень сьпяку бапку, надраўшы картопяль.* Вар.

*Бабка* (страва з цёртай бульбы) — бабка (БРС-62). Бульбяная страва атрымала сваю назву ад хлебнага вырабу на аснове агульнасці формы.

**Блінéц** м. Тонкая перапечка з рэдкага цеста (звычайна з дранай бульбы, прыпраўленай мукой), спечаная на скавародзе. *Каму блінец, а каму алатку даць, хлопцы?* Пл.

*Блінец* — блинок (СБН); *блінец* — блин (РБС-37); *блінец, блін* — блин (РБС-53); *блінец* — блин, блинчик (БРС-62).

— Руск. (дыял.) — *блинцы* (Даль, 1,97); *блинец* — 'блін' (СРНГ, III, 25); укр. *мли-*

*нецъ,* дыял. *блинец* (Лыс., СЛЛ, 10); славенск. *mlinec*; в.-л.*mlinc, blinc,* н.-л. *mlync.*

Слова ўтворана ад *блін* з дапамогаю былога памяншальнага суфікса **-ец** (параўн. *кубел* і *кубелец*), які страціў сваё ранейшае адценне ў выніку дыферэнцыяцыі слоў *блін* (гл.) і *блінец.*

**Блін** м. Тоўсты блінец са скваркамі (звычайна ў дарогу). *Як паедзяш у балото, то блінной напяку на дарогу.* Кр. Акрамя таго, слова *блін* мае і значэнне літаратурнага *млын. Паехаў да бліна пшаніцу малоць.* Гр.

*Блін* — 'тоўсты блінец са скваркамі', Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Віц. (Нікіф.). *Блін* — блин (БРС-62).

— Руск. *блин,* стараруск. *блинъ, млинъ,* укр. (стар.) *блин,* (сучасн.) *млинець,* балг. *млин,* польск. *blin.*

*Блін* з ранейшага *млін* як вынік дысіміляцыі, якое ад *малоць; мъл-инь,* суфікс **-ін**. Літаральнае значэнне — 'прыгатаванае з молатага, мукі' (КЭСРЯ, 38).

**Блі́нчык** м. Тоненькі невялікі блінец (пякуць звычайна дзецям). *Вам блінцэ, а Коліку блінчык.* Ст. С.

*Блінчык* — тс., Маст., Слон., Ваўк. (П. С.); *блінчык* — 'невялікі тонкі блінец на малацэ і яйцах', Чэрв. (КСЧ); *блінчык* — 'тонкая аладка', Малар. (СДСБМ); *блінчык* — у А. Карпюка (Дзве сасны), А. Кулакоўскага і інш. (КТСБМ); *блінчык* — блинчик (РБС-37).

Слова *блінчык* утворана ад *блінец* з дапамогаю памяншальнага суфікса **-ік**.

**Картапля́нік** м. Блінец, спечаны амаль з адной цёртай бульбы (з вельмі нязначнай ча-

сткай мукі). *Сёніка ўжэ адных картаплянікаў вам напякла, раз з мукі нісмашныя.* Гр.

Як жартаўлівае *картаплянік* сустракаецца і са значэннем — 'той, хто любіць бульбяныя бліны'.

*Картафлянікі* — 'картофельные блины' (КСЧ).

— Руск. (дыял.) *картофельник:* 1) ахвотнік да бульбы; 2) прадавец бульбы; 3) страва з бульбы (Даль, II, 94).

Утворана слова *картаплянік* ад састаўной назвы *картапляны блінец (картаплян -ік)* шляхам „сціскання“ словазлучэння.

**Ала́дка** (*ала́тка*) ж. *На скварадзе алатак с п'яць пячэцца.* Гр.

*Алатка* — 'аладка', Маст., Ваўк., Слон. (П. С.); *аглатка,* Ваўк. (Сцяшк.), *латка,* Радашк. і Радун. (МДСБМ); *ладка,* Чэрв. (КСЧ), Мсцісл. (Юрч.); *аладок,* Малар. (МДСБМ).

— Руск. *оладья,* дыял. *оладка* (Даль, II, 670); укр. *оладка*; польск. *oładka* (Брукнер).

Я. Карскі адносіць слова *аладка* да запазычанняў з грэчаскай мовы: грэч. *eladion* ад *elaion* — 'алей'. А. Брункер разглядае яго ў польскай мове як украінізм і таксама набліжае да *алей* (Брукн., 686).

*Аладка* — уласна беларускае ўтварэнне з дапамогай суфікса **-к**-а ад запазычанага (грэч.) *eladion.* Літаральнае значэнне — 'алейнае печыва'.

## Назвы бульбяных і малочных супаў

**Галу́шкі.** Бульбяныя клёцкі, звараныя ў вадзе ці малацэ. *Асталосё цесто ад блінцоў, то мо галушкаў наварыць, га?* Ст. С.

*Галкі* — 'вараная непакрышаная бульба', Мсцісл. (Юрч.).

*Галушка:* 1) галушка, клёцка; 2) катыш (БРС-62).

— Руск. *галушка*; укр. *галушка* — тс.

*Галушкі* — лексікаваная форма множнага ліку ад *галушка*, якое лічыцца запазычаннем з украінскай мовы; *галушка* ад *гал* — 'невялікі шар', суфікс — **-ушк-**а (ҚЭСРЯ, 73).

Як назва стравы слова *галушкі* малаўжывальнае. Часцей яно сустракаецца ў форме адзіночнага ліку са значэннем мучнога шарыка ў заціркы. Гр., Кр.

**Клёцкі.** Слова сустракаецца толькі спарадычна як сінонім да *галушкі* (гл.). *Бало мяшча́ня на галушкі ўсё клёцкі казалі.* Гр.

Як стылізацыя пад польскую мову, ужываецца слова і ў форме **клюцкі**. *Еш, пан, клюцкі і будзь люцкі.* Ст. С.

*Клёцкі* бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх літаратурных мовах. Запазычана праз польскую мову (*kloska*, *kluska*) з нямецк. *Kloss* — 'скіба, клёцка' (Сл., II, 244).

**Шчалачо́нкі** толькі мн. Бульбяны суп. *Наскрабеш картопяль, парэжаш на дро́мно й зварыш шчалачонак на вячэру, добро?* Гр.

*Шчолакі* — тс., Слон. (П. С.).

Спарадычна сустракаецца і састаўная назва **карто́плі з шчо́лакам.** *Хай картопяль ш шчолакам пахлёбая.* Гр.

Утворана слова *шчалачонкі* ад *шчолак* 'вадкая частка супу': *шчалач-онк-і*, відаць, пад уздзеяннем слоў *пячонкі, адваронкі* і г. д. Літаральнае значэнне — (бульба) 'са шчолакам — рэдкая, з поліўкаю'.

**Падкало́чаныя.** Бульбяны суп, запраўлены перацёртаю ў галушкі мукой. *Як картоплі зварацца, тагды сыплям пярацёртую муку і прываpваям — от і паткалочаныя.*

Зрэдку адзначаюцца састаўныя назвы **падкалочаныя картоплі** і **шчалачонкі з падкалоткаю.**

*Падкалотка* — тс., Радун., Малар., Навагр. (МДСБМ).

*Падкалочаныя* — субстантывіраваны дзеепрыметнік, утвораны ад *падкалаціць* — 'заправіць (суп) перацёртаю мукою'.

**Заце́рка** ж. Зацірка. *Як на хутко трэба, то зацерку найхучэй зварыш: пярацёр мукі з вадою і вары.* Кр.

*Зацерка* — 'зацірка', Слон., Маст., Шчуч. (П. С.), Ваўк. (Сцяшк.), Навагр. (МДСБМ), Скідз. (ХБД, 138), Івац. (МДАБМ, 711); *зацірка,* Віц. (ВКС); *зацярыха,* Віц. (ВКС).

*Зацірка* — суп мучной (РБС-53, БРС-62). — Руск. (дыял.) *затирка* — 'прыправа да ежы ці падкалотка; здоба, асабліва сала'; *затирка* — 'лапша, якую не крышаць, а качаюць шарыкамі'; "пшеничная саламатка, болтушка"; *затерка* — 'кадушка, у якой заціраюць' (Даль, І, 649); *затирка* — "похлёбка" (СОС, 255); укр. *затерка* і *затиерка, стеранка, стиранка* — 'зацірка' (ЛАУГ, II, карта 167); польск. *zacierka* — тс.

І. Дзендзялеўскі адносіць слова да агульнаўсходнеславянска-польскіх утварэнняў [20].

---

[20] Й. О. Дзендзелівський. Лінгвістичний атлас українських народних говорів Закарпатської області УРСР. Докт. дис., ч. І. Ужгород, 1961, стор. 247.

Слова *зацерка* ўтворана ад *зацерці*: *зацер-ка*. Літаральнае значэнне — 'зацертая' (мука).

**Макарóны** толькі мн. Страва з пшанічнай мукі ў выглядзе палосак цеста. *Накрышыла макаронаў, звару і будзяця есьці. Макароны смашныя, як сьвежыя.* Ст. С.

*Макароны* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Віц. (Нікіф.); *макарон* — лапша (СБН).

*Макарона* — макароны (РБС-53); *макарона*: 1) макароны, 2) лапша (БРС-62).

— Руск. *макароны* — трубчатая лапша, укр. *макарони,* польск. *makaron,* чэшск. *makarony, makaron.*

Слова запазычана з італьянскай мовы, італ. *maccaroni* ад грэч. *makaria* — 'страва з ячменнай мукі ці круп' (ЭСРЯ, I, 503).

*Макароны* — ад *макарона,* што бытуе ў гаворках са значэннем 'раскачанае цеста, якое крышаць на макароны'.

## Назвы крупяных страў

**Крýпнік** м. Суп з ячных ці грэцкіх круп. *Крупнік забеляны от сёрбаюць дзеці.* Пл.

*Крупнік* — 'суп з крупаў ці з бульбай, з гарохам' — Малар. (МДСБМ); *крупнік* — 'густы суп з крупаў', Віц. (ВКС); *крупень* — 'крупнік', Чэрв. (КСЧ); *крупеня* — 'крупнік', Віц. (ВКС), Бых. (Мат., 87); *крупеня* ці *крупнік* — 'суп з ячных, грэцкіх і жытніх круп', Віц. (Нікіф.).

*Крупнік* — крупяной суп (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *крупеник* — 'грэцкая каша, запраўленая тварагом'; дыял. *крупеник* — 'кру-

тая каша', *крупеня* — "кашица, размазёнка, похлёбка с крупою" (Даль, II, 202), *крупеня* — 'ячны суп, суп з крупою' (СОС, 361); укр. *крупник* — 'грэцкая каша, запраўленая тварагом'; польск. *krupnik*: 1) суп з круп, 2) той, хто робіць крупы, прылада рабіць крупы (Карл.), чэшск. *krupice* — 'манныя крупы'.

Утворана слова ад *крупы*; суфікс **-нік**; літаральнае значэнне — 'крупяны' (суп).

**Куцця́** (*куця́*) ж. Каша з ячных круп, прыпраўленых тлушчам (салам). *Мо на дзень куці наварыць з ячменных крупоў?* Св.

Акрамя таго, слова *куцця* абазначае: 1) спецыяльную страву з круп (звычайна ячных), якую варацъ на каляды; 2) рэлігійнае свята, калі ядуць куццю.

*Куцця* — 'каша з ячных круп', Чэрв. (КСЧ); *куцця* — 'каша з пшанічных зярнят, з ячных круп', Віц. (ВКС).

*Куцця:* 1) этнаграф. "кутья"; 2) рэліг. "сочельник" (БРС-62).

— Руск. *кутья* — 'сухая ячная каша ці пшанічная, рысавая з разынкамі'; укр. *кутья*, старасл. *кутия, куцця*, польск. *kucia, kutja*.

Ва ўсходнеславянскіх помніках—з XII ст. (Сразн., I, 1382). Запазычанне з грэчаскай мовы, дзе *kukki*, мн. *kukia* — 'боб' (ЭСРЯ, I, 423).

Карловіч адносіць гэта слова ў польскай мове да запазычанняў з украінскай мовы. Аднак, улічваючы адсутнасць цекання ў украінскай мове і фанетычнае аблічча слова ў пагранічных з польскімі беларускіх гаворках (*куця*), можна бачыць, на наш погляд, у польскім *kucia* беларускае пасрэдніцтва.

## Назвы страў з агародніны

**Гарбу́з** (*гарбу́с*) м. Рэдкая страва з гарбуза і пшанічнай мукі ці прасяных круп. *Гарбус лупім, выкідаям насеннё і варым, тагды працэджваям, пацсыпа́ям мукі або крупоў, заварваям — і гарбус гатоў, можно есьці.* Гр.

*Гарбуз:* 1) тыква, 2) тыквенник (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *арбузяха* — "каша из тыквы" (СРНГ, I, 270).

З беларускай мовы слова *гарбуз* запазычыла польская мова (Брукн., 169).

Страва атрымала сваю назву ад культуры, параўн. укр. *гарбузова каша* — 'гарбуз' (страва).

Як назва культуры *гарбуз* з цюркскіх моў: татарск. *karpuz,* кум. *Xarbuz* < персідск. *Xarbuza* — 'дыня' (Фасм., I, 83).

**Бацві́нне** (*бацьві́нё*) н. Рэдкая страва са сцябла і лісця маладых буракоў. *На палу́дзянь бацвіня навару, ужэ бураке падрасьлі.* Кр.

Зрэдку гэтым словам называюць і страву з клубняў буракоў. *Накапала буракоў, бацьвіня звару.* Гр. Акрамя таго **бацвінне** — гэта і само сцябло буракоў. Гр.

*Бацвінне* — тс., Докш. (Мат., 67), Віц. (Нікіф.); *бацвінне* — "щи свекольные" (СБН).

*Бацвінне* — щи зеленые (РБС-53); *бацвінне*: 1) ботва свеклы; 2) суп из молодой свеклы; борщ; ботвинья (БРС-62).

— Руск. *ботвинья* — 'халодная страва з квасу з адвараным бацвіннем, цыбуляй, ры-

сам'; дыял. *батвинья* — 'буракі, квас з буракоў' (СРНГ, III, 134), укр. *ботвина* — 'сцябло буракоў', польск. *boćwina, botwina* — тс.

А. Праабражэнскі звязвае гэта слова з ніжненямецк. *Beete* — 'бурак' (ЭСРЯ, I, 39). М. Фасмер выступае супраць такога меркавання (т. I, 200). А. Брукнер адносіць польск. *boćwina* да запазычанняў з беларускай мовы, беларускае *бацвінне* ад *буцвець* — 'разрастацца', адсюль *бацвінне* літаральна значыць — 'зеляніна, якая разрастаецца' (Брукн., 33, 51). У беларускіх народных гаворках слова *бацвінне* значыць 'зеляніна' наогул. Таму думка А. Брукнера заслугоўвае ўвагі этымолагаў.

*Бацвінне* — суфіксальнае ўтварэнне (суфікс *-ьj-*) ад *бацвіна,* якое ад *батва* (суфікс **-ін-**): *бацв-ін-j-э.*

Страва атрымала сваю назву ад сцябла маладых буракоў, з якіх яна гатуецца.

**Буракі́** (*буракé*) толькі мн. Суп з накрышаных буракоў, прыпраўленых бульбай і цыбуляй. *Буракоў наеўсё, боляй нічого ні хачу.* Кр.

*Буракі* — 'боршч', Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Чэрв. (КСЧ), Случ. (Серж.).

Пані Даміцэля любіць гарох і бульбу, а пан Зыгмусь *буракі* і капусту (Я. Колас, Зб. тв., т. II, 1951, 345).

*Буракі* — 'боршч' (РБС-28).

— Руск. *бурак* — "красная свекла", дыял. *бураки* — "свекла и борщ" (Даль, I, 142); *бураки* — "похлебка, сваренная из свежей или квашеной свеклы" (СРНГ, III, 280), *бурачки* — 'борщ' (СРНГ, III, стар. 281); укр. *бу-*

*раки* — 'страва са смажаных буракоў' (Грынч., I, 115), польск. *burak* — 'бурак' (агародніна).

Боршч атрымаў сваю назву ад культуры, з якой ён гатуецца. Як назва агародняй культуры слова *бурак* запазычана з польскай мовы, дзе яно з італьянскай (Сл., I, 50).

**Капу́ста** ж. *Мо забяліць капусту ці так есьцімяш?* Гр.

*Капуста*: 1) капуста; 2) щи (БРС-62).

— Руск. *капустник* — "род щей"; дыял. *капуста* — "щи"; укр. *капусняк* — 'капуста' (страва); польск. *kapusta* — 'капуста', *kapuśniak* — тс.

А. Брукнер адносіць слова *капуста* (назва стравы) ва ўсходнеславянскіх мовах да запазычанняў з польскай, дзе яно з італьянскага *composta* < лац. *composita* — 'сумесь'. Агародніна, паводле яго слоў, атрымала назву ад стравы (Брукн., 218).

**Мо́рква** ж. Суп з бульбы і драбкоў морквы. *Даўно ўжэ морквы ні елі, трэ наварыць, да пахлёбаяця забяліўшы.* Гр. *Морква смашна забеляная, як картоплі лошкаю патрэш у місцы і забеліш.* Ст. С.

Спарадычна сустракаецца і састаўная назва **картоплі з моркваю** (ці **морква з картоплямі**) як дакладная назва саставу, з якога прыгатавана страва. *Налі мне палмісак морквы с картоплямі.* Кр.

*Морква* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.); Віц. (Нікіф.); *морка* — тс., Слон. (П. С.).

— Руск. *морковник* — 'суп з морквы і бульбы' (Даль, II, 347), укр. *морквяник* — тс.

Страва атрымала сваю назву ад агародніны, з якой яна гатуецца.

Як назва культуры *морква* — агульнаславянскае слова, утворана ад *морка,* якое бытуе ў народных гаворках: *морк-в-а.*

**Пасо́ля** ж. Суп з бульбы і фасолі. *Мо, табе, сынку, пасолі наліць, пахлёбаяш, га?* Гр. Спарадычна сустракаецца састаўная назва **пасоля з картоплямі**, як дакладная назва саставу, з якога прыгатавана страва.

*Пасоля* — тс., Маст., Слон. (П. С.), Чэрв. (ҚСЧ).

Суп атрымаў назву ад агародніны. *Пасоля* — вынік скарачэння састаўной назвы, з яе ўзята тое слова, якое адрознівае адзін від стравы ад другога, параўн. *морква.*

*Пасоля* — з *фасоля,* запазычанага праз польскую мову з сярэдневерхненямецк. *fasôle* < грэч. *fasēlos* (ҚЭСРЯ, 355).

**Гаро́х** м. Суп з бульбы і гароху. *Малы Лёнік натто любіў гарох есьці: нальеш місачку — от хлёбая, падушыўшы картоплі.* Гр. Зрэдку сустракаецца і састаўная назва **карто́плі з гаро́хам**, ад якой — у выніку скарачэння — узнікла назва *гарох,* параўн. *пасоля, морква.*

**Шчаве́й** м. Рэдкая кіслая страва, прыгатаваная са шчаўя. *На палўдзянь прынясла шчаўю пахлёбаць.* Зл.

*Шчавей* — тс., Слон., Маст., Ваўк. (П. С.); *шчавей, шчавух* (ЛП, 413).

*Шчаўе* — щавель (БРС-62).

— Руск. *щавель,* дыял. *щавей,* укр. *щавель,* дыял. *щавій,* славенск. *ščavja* (ЭСРЯ, II, 1253).

*Шчавей* — ад *шчаў,* якое ад *шчы,* корань той, што і ў слове *сок* (ҚЭСРЯ, 385, 387).

Страва атрымала назву ад расліны, з якой

яна прыгатавана, параўн. польск. *szczaw* — 'страва са шчаўя' (Карл., VI, 576).

**Лебяда́** (*лябада́*) ж. Суп з лебяды. *Лябяды́ пахлёбаў бы, каб была, да ні наварыш ніяк.* Гр.

З гора, з бяды паеў *лебяды* (Рап., 38).

Страва атрымала назву ад расліны, з якой яна гатуецца. Як назва расліны слова *лебяда* — агульнаславянскае, корань той, што і ў слове *лебедзь* (*леб-*); параўн. лац. *albus* — 'белы'; расліна атрымала назву ад колеру лісця (сподняй часткі) (КЭСРЯ, 179; Фасм., II, 469).

**Радзі́ска** ж. Страва са сталовай рэдзькі, прыпраўленай смятанай і цыбуляй. *Радзіскі паем, кап апяціт быў.* Кр.

Страва атрымала назву ад агародніны. *Радзіска* — запазычанне з франц. *radis* ад лац. *radix* — 'корань' (ЭСРЯ, II, 194).

**Гуро́к** м. *Гурка якого зьзясі с хлебам і ўжэ ні галодны.* Кр.

Для абазначэння рознага віду гуркоў як стравы ці прыправы бытуюць састаўныя назвы: 1) **салодныя гуркі** і 2) **мочаныя гуркі**. Першая назва ўжываецца са значэннем літаратурнай *салёныя (а)гуркі,* другая — *маласольныя. Салодных ні любіць, а вот мочаныя панара́віў: есьць і ішчэ просіць, каб насаліла.* Гр.

*Гурок* — суфіксальнае ўтварэнне (суфікс **-ок**) ад ранейшага *огуръ*, запазычанага з грэчаскай мовы: грэч. *agouros* — 'агурок' (КЭСРЯ, 229).

**Паміндо́ры**, адз. **паміндор** м. Салат з паміндораў. *Хай гаспадыня паміндораў з палмісак*

*наробіць да мяса.* Кр. *Нарабі паміндорaў: паміндоры есьцяка, пяратры сольню і залі смятанаю.* Гр.

*Паміндоры* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *паміндор* — фанетычнага варыянта слова *памідор*, якое паходзіць з італьянскай мовы: *pami doro* літаральна значыць 'залатыя яблыкі' (ЭСРЯ, II, 103).

**Расóл** м. Рэдкая халодная страва з агуркоў. Накрышаныя агуркі пераціраюцца часнаком і соллю і разбаўляюцца вадой і квасам (радзей — кіслым малаком). *Як натто гарачó, од добро расолу паесьці, яг · гурке родзяць.* Гр.

Акрамя таго, слова *расол* называе сок з квашанай капусты ці салёных агуркоў, а таксама вадкасць ад пасоленага мяса.

*Расол, росол, росил, росул:* 1) расол у кіслай капусце, агурках; 2) расол, у якім соляцца агуркі; 3) селядцовы лёк; 4) квашаная капуста, агуркі (ЛП, 401).

*Расол* — агульнаславянскае слова, утворанае бязафіксным спосабам ад *рассаліць*: *рассол(ить) > расол.*

**Цыбýля** ж. Салат з зялёнай цыбулі. *Цыбулі нарабіла: нарвала шчыпяроў, пацерла с сольню і сьмятанаю заліла — ешча на здарóё.* Гр. Салат атрымаў назву ад агародніны.

*Цыбуля* — запазычанне праз польскае пасрэдніцтва з нямецкай мовы < лац, *caepula* — 'цыбуля'.

**Шчыпяры́** (*шчыпярэ*), адз. **шчыпéр** м. Пер'е цыбулі. *От вы́пярло, шчыпярэ з хлебам папоўніцы есьць.* Ст. С.

*Шчыпяры* — тс., Маст., Слон. (П. С.); *шчыпары* — тс., Ваўк. (Сцяшк.).

— Польск. *szczypiór*: 1) сцябло цыбулі, 2) часнок (Карл., VI, 596).

Відаць, у гаворкі слова трапіла з польскай мовы, дзе яно агульнавядомае і выступае з больш шырокім семантычным аб'ёмам.

**Сала́та** ж. Накрышанае лісце салаты, прыпраўленае соллю і смятанай. *Нічого ні хочацца есьці, мо салаты нарабіць, ужэ салата нарасла.* Гр.

Страва атрымала назву ад расліны.

*Салата* — запазычанне з французскай мовы, дзе *salade* ад італ. *salata* (салёная зяляніна) < лац. *salare* — 'саліць' (ЭСРЯ, II, 247).

**Зяле́ніва** (*зяленіво*) н. Агульная назва садавіны і агародніны. *То яблыкі, то паміндоры ці моркву рве і есьць нашчо. У нас зяленіва ні бракуя.* Ст. С.

*Зяленіва — зелен*ь (овощи) (РБС-53, РБС-28); *зяленіва* — 'зелень' (у розных значэннях) (БРС-62).

Утворана слова пры дапамозе суфікса **-ів**-а ад *зелень*, якое бытуе ў рускай, украінскай і польскай мовах, параўн.: балг. *зеле* — 'капуста', с.-х. *зелье* — 'шчаўе', чэшск. *zeli* — 'капуста'.

Слова паходзіць ад назвы колеру (зялёны).

**Сыры́нішча** (*сырынішчо*) н. Сырая агародніна, садавіна (у процілегласць варыву). *Сырынішчам жывот напхаў, а сілы ні дасць яно. Лепяй скварку якую зьзеў бы, то трывуляй было п.* Гр.

*Сырызна* —'сырая агародніна', Віц. (ВКС).

*Сырызна* — зелень, овощи (БРС-62, РБС-28).

Утворана слова пры дапамозе ўскладненага суфікса **-ынішч**-а ад *сыры*: *сыр-ын-ішча*.

## Назвы некаторых іншых страў

**Саладýха** ж. *Дайней, як посьцілі, то ўсё саладуху елі: набоўтаюць мукі, і яна, як пастайіць, саладжáя.* Гр.

*Саладуха*—усходнеславянскае слова, утворана пры дапамозе суфікса **-ух**-а ад усходнеславянскага *солодъ*, якое А. Праабражэнскі адносіць да індаеўрапейскага кораня **salt* — 'соль'. Першапачатковае значэнне слова *солад* → 'салёны'; адсюль — 'прыпраўлены, смачны, салодкі' (ЭСРЯ, II, 318—319), параўн. у гаворках: *салодны* — 'салёны'.

**Булён** м. *У нас рэтко хто булён той варыць.* Кр.

— Руск. *бульон*, белар. *булён*, укр. *бульон*, польск. *bulion*, чэшск. *bujon*, славацк. *bouillon* (бытуе і ў іншых мовах).

Слова запазычана, відаць, праз польскую мову з французскай: франц. *bouillon* — адвар — ад *bouillir* — 'варыць, кіпець' (КЭСРЯ, 48; Фасм., I, 240).

**Ляк** м. 1. Юшка з рыбы. 2. Квашаніна з рыбы. *Як налóвімо рыбы — ляку наварым.* Кар. Акрамя таго, *ляк* → гэта і 'селядцовы расол'. *От салодны ляк, у рот ні ўзяць, а сялядзéц ні натто.* Гр.

У маленстве лепшым для мяне ласункам быў *лёк* (гэта тая юшка ад селядцоў) (І. Гурскі).

*Лёк*—'селядцовы расол' (РБС-53, БРС-62).

Слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы, дзе *lak* з нямецк. *Lacke* ад *Lache* — 'мокрадзь, вадкасць' (Брукн., 289).

**Гармýшка** ж. Рэдкая страва—накрышаны ў малако ці пасоленую ваду хлеб. *Як пост быў, гармушку рабілі с хлеба з вадою, а так крышым хлеп у малако.* Гр.

*Гармушка* — тс., Слон., Ваўк., Маст. (П. С.); *гармушка* — 'страва з вады, хлеба і солі', Радун. (МДСБМ); *хармушка* — 'страва з хлеба з вадою ці малаком', Слон. (МДСБМ), Случ. (Серж.).

Слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы; польск. *farmuszka, faramuszka, warmuszka:* 1) поліўка з вады, піва і хлеба; 2) густая поліўка з мукі і інш.— з сярэдневерхненямецк. *warmuos* — 'цёплая поліўка, развараная каша' (Карл., I, 720; Сл., I, 219).

**Казякí** (*казяке*), адз. **казя́к** м. Агульная назва грыбоў (сырых, смажаных, салёных, марынаваных). *Добрыя, смашныя сёні казяке, хоць грыбоў і мало.* Гр. *Цэлу кадушку насаліла казякоў.* Кр.

*Казякі* — 'грыбы', Маст., Слон., Ваўк. (П. С.), Пруж. (Зян.); *казляк* — 'любы харчовы грыб, акрамя баравіка' (ЛП, 84).

Паходзіць слова ад *казлякі*, параўн. у БРС-62: *казляк* — маслёнок (грыб).

**Дрыгвá** ж. Застылы адвар (з галавы ці ног каровы, свінні) разам з кусочкамі мяса ці без яго. *Пасмаліў цялячыя ногі і голаў, дрыгвы наварым.* Ст. С.

*Дрыгва* — тс., Маст., Ваўк., Слон., Бераст. (П. С.). Чырв. (Бір.), Віц. (ВКС); *драгва, дрига, дрыгли, драгли* — тс. (ЛП, 376).

*Дрыгва* — трясина, топь (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *дрегва, дрягва* — "говяжий или рыбий застуженный отвар, студень, холодец" (Даль, I, 494; КОС, 317); укр. *дрігва* — 'студзяністая маса' (Грынч., I, 444); *дриглі* — 'квашаніна' (Шыла, ПЗГ, 544).

Утворана слова пры дапамозе суфікса **-в**('а) ад кораня *дрыг-* (параўн. *уздрыгнуць*): *дрыг-ва.*

Страва атрымала назву ад уласцівасці (застылы адвар дрыжыць, калі да яго дакрануцца).

**Квашаніна** ж. Слова сустракаецца спарадычна з тым значэннем, што і **дрыгва** (гл.). *Хай застыня квашаніна, тагды будзем есьці.* Ст. С.

— Руск. (дыял.) *квашенина* (заходн.) — "холодец с говядины, который едят с квасом" (Даль, II, 103); польск. *kwaszenina* — 'квашаніна'.

А. Брукнер адносіць яго да *квас* (Брукн., 286—287).

Суфіксальнае ўтварэнне: *кваш-анін-а.*

**Юшка** ж. Суп з крыві вепрука і перацёртай мукі. *Кроў з паршука мяшаям з мукою, пяраціраям і варымо юшку.* Ст. С. Радзей слова *юшка* ўжываецца са значэннем 'кроў'.

*Юшка* — тс., Слон., Ваўк., Маст. (П. С.); *юшка* — 'кроў', Чэрв. (КСЧ); *юшка*: 1) сок ад варыва; 2) рыбная юшка; 3) кроў (СБН, Юрч.).

*Юшка* — уха, ушица (из рыбы) (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *юшка*: 1) памянш. ад *уха*; 2) кроў (СОС, 1016); *юшка* — 'навар мясны, з рыбы, наогул поліўка; *юшник* — 'по-

ліўка з гусінай ці свіной крыві і расолу з буракоў' (Даль, IV, 670); польск. *juszka* — 'суп з крыві і мукі'.

А. Брукнер лічыць слова *юха* (*юшка*) праславянскім, якое толькі ў рускай мове не мае пачатковага *j* (*уха*); слова бытуе і ў іншых індаеўрапейскіх мовах: старапруск. *juse* — 'расол', літоўск. *jûšė* — 'суп з рыбы', лац. *jūs* — 'поліўка', індыйск. *jūsz* і *juszan* — 'поліўка'.

## Назвы малака і малочных страў

**Малакó** н. *Мо якого малака даць — прагаияціміяш картоплі, га?* Кр.

*Малако* — агульнаславянскае слова, адпаведнасці ёсць і ў іншых індаеўрапейскіх мовах: параўн. нямецк. *Milch*. Праславянскае **melko* роднаснае латышск. *malka* — 'піццё', літоўск. *malkas* — 'глыток'. Бясспрэчнай этымалогіі няма (гл. Фасм., II, 645—646).

Для абазначэння рознага віду малака ў гаворках бытуюць састаўныя назвы.

**Салóдкае** (*салóтко*) **малакó**. *С кубачак салоткаго выпі зáмяст вады.* Гр.

**Кіслае** (*кісло*) **малакó**. *Як мой стары, то нігды с салёнкамі салоткаго ні есьць, адно кісло малако.* Ст. С.

**Малако з-пад каровы**. Сырадой. *Кажуць, натто добро, яг дзіця п'е малако с-пат каровы, яно памагая ад усіх хваробаў.* Гр.

— Укр. *молоко з-під корови* — 'сырадой'.

Літаральнае значэнне — 'толькі што падоенае'. Часам у гэтым значэнні ўжываецца і **цёплае** (*цёпло*) **малако**. Кр., Дзяр.

**Па́ранае** (*па́рано*) **малако́**. *Яг горло баліць, п'ем парано малако, зь мёдам, з маслам.* Гр.

*Паранае* — ад *парыць* 'даводзіць да кіпення, кіпяціць'.

**Адто́пленае** (*атто́пляно*) **малако́**. *Як сыр робімо, аттопліваям малако, у клінок зьліваям аттопляно малако і яно сьцякая.* Ст. С.

*Адтопленае* — ад *адтапіць*: *адтопл-ен-ае.*

**Мало́дзіва** (*малодзіво*) н. 1. Малодзіва. *Надайіла малодзіва, ужэ, муся́ць, Жучка хутко ацеліцца.* Св. 2. Страва з малодзіва, мукі і масла. *Смашно малодзіво, еш, сынок!* Пл.

*Малодзіва* — агульнаславянскае слова. Утворана пры дапамозе суфікса **-ів-**а (параўн. *прадзіва, печыва, мліва*) ад той асновы, што і старасл. *млъзу* — 'даю', *млъсти* 'даіць', параўн. літоўск. *milžti* — 'даіць' (ЭСРЯ, І, 550; Фасм., II, 644—645).

*Малодзіва* з ранейшага *малозіва*<*мълзиво*. Зычны **дз** замест **з** узнік, відаць, пад уплывам польскай мовы, дзе такая з'ява назіраецца часта (параўн. *звон* і *dzwon*), хоць узнікненне **дз** на месцы першапачатковага **з** магчыма і ў выніку кантамінацыі слоў *малозіва* і *малады* (гл. ЭСРЯ, І, 550).

**Смята́на** (*сьмятана*) *ж. Кап сьмятана была, паеў бы з блінцамі.* Вар. Гэтым словам абазначаецца смятана як кіслая, так і салодкая.

— Славенск. *smetana* → 'смятана' і 'смятанка'; балг. *сметана* — тс., чэшск. *smetana* — тс. Часам для дыферэнцыяцыі скарыстоўваюцца састаўныя назвы.

**Салодкая** (*салотка*) **смятана́.** Смятанка. *Яг у банцы ацстойвая — гэто салотка сьмятана, бо малако сьвежо, ні кісло.* Гр., параўн. у КТСБМ (510) *салодкасметанковае* масла (салодкасметанковае — ад *салодкая смятана*).

**Кіслая** (*кісла*) **смята́на.** *Блінцэ любіць аммачаць у кіслу сьмятану.* Кр. Зрэдку ў гэтым значэнні ўжываецца слова **вяршок** (м). *Пазьбірай вяршке: масло біцімям.* Гр.

*Смятана* — агульнаславянскае слова, паходзіць ад *сьметати; смятана* — былы дзеепрыметнік залежнага стану прошлага часу жаночага роду (КЭСРЯ, 310). Літаральнае значэнне — 'сабранае, знятае', параўн. руск. *сливки* (ад *сливать*).

**Ма́сла** (*масло*) н. Масла з кіслай, салодкай смятаны. *Ці с кіслае, ці с салоткае сьмятаны — усяро́ўно масло ў нас.* Гр.

*Масла* — агульнаславянскае слова, паходзіць ад *мазаць*: **mazslo*; у выніку спрашчэння групы зычных **зсл** — *мазсло>масла* (Фасм., II, 578; КЭСРЯ, 194).

**Масля́нка** ж. Маслёнка. *Мой малы любіць піць масьлянку, адно сьвежу, як масло б'еш.* Св.

*Маслянка* —'маслёнка', Маст., Слон., Ваўк. (П. С.), Радашк., Шкл. (МДСБМ), Бял. (Мат., 34); *маслянка, маслёнка, масленка* — тс. (ЛП, 389); *маслёнка* — тс., Бял. (Мат., 34), Чэрв. (КСЧ); *маслянка* — 'маслёнка', Я. Колас (На ростанях), Ф. Багушэвіч (Выбраныя творы, 1952, стар. 127), А. Васілевіч (Шляхі-дарогі).

*Маслёнка* — пахта (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *маслянка* — ’маслёнка’, дыял. *масляник* — тс. (ЛАУГ, II, карта 174); польск. *maślanka* — тс., стар. *maślonka*; руск. *маслёнка* — ’пасудзіна на масла’.

Утворана слова ад *масла*, суфікс **-янк-**а. Літаральнае значэнне — ’масляная вадкасць’.

**Тваро́г** (*творох*) м. *С тварагу сыр зробімо, а яг зьзясі — ні будзя.* Вар.

Агульнаславянскае слова, утворана пры дапамозе суфікса **-огъ** ад той асновы, што і *творить* (КЭСРЯ, 330).

**Сыр** м. *Жджы да Пятра, то сыру зьзясі.* Кр. Для абазначэння сыру рознага віду бытуюць састаўныя назвы: *завяты сыр, свежы сыр, сушаны сыр, смажаны сыр.*

**Завя́ты сыр.** Крыху падсохлы, пасолены сыр. *Сьвежаго німашака, мо хіба завятаго прынясьці — есьцімяш.* Ст. С. *Завяты смажым сыр.* Гр.

**Сма́жаны сыр.** *На масьлі гатуям смажаны сыр: крышым і смажым у масьлі, накрыўшы ў саганчыку.* Гр.

**Су́шаны сыр.** *На зіму сушаны сыр робімо, тагды добро зьзесьці, ні псуецца.* Гр.

*Сыр* — агульнаславянскае слова, мае адпаведнікі ў іншых індаеўрапейскіх мовах: старапруск. *suris* — ’сыр’, нямецк. *sauer* — ’кіслы’. Літаральнае значэнне — ’сыры’ (КЭСРЯ, 327).

**Сыро́ватка** ж. *Трохі зьлі, а астатня сыроватка ў клінку сьцячэ.* Кр. *Сыроватку п’е, як малако аттопліваям.* Гр.

Слова агульнаславянскае. Паходзіць ад *сыроватая вода* (*сыроват-ка*), *сыроваты* — ад *сыр*; руск. *сыворотка* — вынік метатэзы *ров*>*вор* (КЭСРЯ, 326).

## Назвы каўбас і мяса

**Мя́са** (*мясо*) н. *Капусты зь мясам наварыла.* Яр. *Мясо смашно, ďля чаму ты яго бяс хлеба ясі?* Кр. *Мяса* ўжываецца і са значэннем 'мякаць пладоў' (гарбуза і інш.).

Агульнаславянскае слова, адпаведнікі ёсць і ў іншых індаеўрапейскіх мовах. А. Праабражэнскі адносіць да індаеўрапейскага **menso* (ЭСРЯ, I, 584).

**Бара́ніна** ж. Мяса барана як прадукт, страва. *Барана зарэзалі, то капусты з баранінаю наварылі.* Св. *Бараніны кусок купіў.* Кр.

Слова ўласціва ўсходнеславянскім, польскай, славацкай і іншым мовам.

Утворана пры дапамозе суфікса **-ін-**а ад *баран.*

Спарадычна сустракаецца і састаўная назва **баранова мяса**, параўн. славацк. *baranie mäso.*

**Аве́чына** ж. Мяса авечкі як прадукт, страва. *Неко натто сыто гэто мясо. Авечына, кажуць, ні такая смашна, як бараніна.* Ст. С. Слова ўжываецца рэдка, замест яго скарыстоўваецца састаўная назва **авечае** (*авечо*) **мяса**. *Хай авечаго мяса возьмя да капусты.* Гр.

Утворана слова ад *авечы*, суфікс **-ін-**а: *авеч-ына.*

**Ялавічына** ж. Мяса каровы, якая не доіцца, а адкормліваецца на мяса (ялавіцы). *На вяселё зарэзалі ялавіцу. Нат ні кепска ялавічына была.* Гр.

*Ялавічына* — говядина (БРС-62, РБС-53).

— Укр. *яловичина* — 'мяса з каровы' (з быка — *волове м'ясо*).

Такім чынам, слова *ялавічына* захавала ў гаворках сваё першапачатковае значэнне — 'мяса ялавіцы'.

Утворана *ялавічына* пры дапамозе суфікса **-ін-**а ад старабеларускага *ялавіца*[21] — 'няцельная карова': *ялавіц-ына*>*ялавічына*.

У значэнні літаратурнага *ялавічына* скарыстоўваецца ў гаворках састаўная назва.

**Каро́віна мя́са** (*каровіно мясо*). *Авечаго ні хоча, да дай яму каровінаго мяса. Распанеў натто!* Вальк.

**Вало́віна** ж. устар. Мяса з быка. *Яг бало трымалі быка, то валовіну елі.* Ст. С.

Вядома ў гэтым значэнні і састаўная назва **валовае мяса** (*валово мясо*).

— Укр. *волове м'ясо* — 'мяса з быка'.

Узнікла *валовіна* ў выніку скарачэння састаўной назвы *валовае мяса: валов-іна.*

**Цяля́чына** ж. Цяляціна. *Як цяля зарэзалі, то папаелі тае цялячыны.* Гр. Паралельна скарыстоўваецца і састаўная назва **цялячае мяса** (*цялячо мясо*). *Цялячо мясо адно хворым есьці.* Пл. Як новае бытуе і **цяляціна**, але сустракаецца пераважна сярод інтэлігенцыі і моладзі. Відаць, прыйшло ў гаворкі з літаратурнай мовы.

Вельмі добра пачаставалі там яго салодкаю *цялячынаю* (К. Чорны. Раманы і аповесці, 31).

*Цялячына* ад *цялячае* (мяса), суфікс **-ын-**а; *цяляч-ына.*

---

[21] *Ялавіца* фіксуецца, напрыклад, у грамаце караля Аляксандра (1494 г.).

**Кура́чына** ж. *Булёну наварыла с курачынаю.* Паралельна бытуе і **кура́ціна**. *Можно, хоць і жывот хворы, кураціны зьзесьці.* Ст. С.

*Курачына* — 'кураціна', Глушч. (ДС-59).

Найчасцей скарыстоўваецца састаўная назва **курачае мяса** (*курачо мясо*). Адсюль і *курачына* (*курач-ына*).

**Петушы́на** (*пятушы́на*) ж. Мяса з пеўня. *Велькі і сыты пятух быў, много пятушыны зь яго наварылі.* Гр.

Утворана *петушына* ад *пятух* (у гаворках яно бытуе са значэннем літаратурнага *певень*), суфікс **-ін-**а: *пятуш-ына.*

**Гуся́чына** ж. Мяса з гусі. *Гусей трымаць ні хочаш, а гусячыну любіш. От якая ты!* Гр. *Гусячына мне нісмашна, вадою дае.* Ст. С. Паралельна ўжываюцца назвы **гусяціна** (Зл., Дзяр.), **гусячае мяса** (*гусячо мясо*) і **гусінае мяса.**

*Гусячына* — ад *гусячы*: гусяч-ына.

**Гусачы́на** ж. Мяса з гусака. *Гэты гусак натто кусьлівы быў, много бегаў — і гусачына худая.* Гр.

*Гусачына* ад *гусак*, суфікс **-ын-**а.

**Свіні́на** ж. Слова ўспрымаецца як новае; прыйшло ў гаворкі з літаратурнае мовы. Замест яго скарыстоўваецца ў гаворках састаўная назва **свіное мяса** (*сьвіноё мясо*). *Сьвіноё мясо варыласё, то і капуста наварылася, смашна.* Гр.

Утворана слова ад *свіння*, суфікс **-ін-**а: *свін-іна.*

**Каўбаса́** ж. *Госьць прышоў, пячы, жонка, каўбасу.* Яр.

*Каўбаса* і *кілбаса* — колбаса (БРС-62).

— Руск. *колбаса*, укр. *ковбаса*, болг. *кълбаса*, сербска-харвацкае *кобасица*, славацк., чэшск. *klobasa*, польск. *kiełbasa*, в.-л. *kolbasa*, н.-л. *kjalbasa*.

У помніках усходнеславянскай пісьменнасці слова адзначаецца з XIII ст. (Сразн., I, 1349).

Этымалогія спрэчная. Бернекер адносіў яго да запазычанняў са стараяўрэйскай мовы. Н. Дзмітрыеў лічыць больш магчымым цюркскае паходжанне гэтага слова[22], параўн. турэцк. *külbasty* — 'мяса, смажанае на рашпіры, смажаныя катлеты'. У апошні час слова *каўбаса* набліжаюць да *колаб*, *кола* (П. Я. Черных. Очерк, 66—67—зноска; КЭСРЯ, 155). Гэта думка заслугоўвае ўвагі, параўн.: *калянка* — 'драбок каўбасы', ад *кола*.

У гаворках сустракаецца (як жартаўлівае) і састаўная назва каўбасы — **крывое мяса**.

**Вантраба́нка** (і *вантраблянка*) ж. Каўбаса з унутранасцяў (пячонкі, лёгкіх, сэрца). *Як сьвежа, от смашна вантраблянка.* Кар.

*Вантрабянка* — (колбаса, сделанная из внутренностей) вантрабянка (БРС-62).

Слова, відаць, запазычана з польскай мовы, польск. *wątrobianka* ад *wątroby* — 'пячонка'. Можна дапусціць і ўласнае ўтварэнне пры дапамозе суфікса **-янк**('а) ад запазычанага з польскай мовы слова *вантробы* — 'унутранасці', параўн. *патрошанка* — 'вантрабянка' (ЛП, 399) ад *патрахі*.

[22] См.: Н. К. Дмитриев. О тюркских элементах русского словаря. — Лексикографический сборник, вып. III, 1958.

Слова *вантрабянка* не мае пашырэння ў гаворках. Часцей ужываецца састаўная назва **каўбаса з пячонкі** ці **тоўстая каўбаса.** Апошняя дадзена вантрабянцы па той прычыне, што гэтыя каўбасы робяць у тоўстых кішках. У процілегласць ім мясныя каўбасы называюць **тонкія каўбасы** або **каўбасы з добрага мяса**. Гр., Ст. С.

**Крывя́нка** ж. Каўбаса з крыві вепрука, прыпраўленая мукою ці крупамі. *Крывянка да халеры смашна, як сьвежа, адно сьпячэцца.* Гр.

*Крывянка* — тс., Чэрв. (КСЧ); *крываўнікі* — 'каўбасы-крывянкі', Віц. (Нікіф.); *крыв'янка, крывянка, крываўка* — тс. (ЛП, 385).

Паралельна бытуе і састаўная назва **крываная каўбаса**, ад якой — у выніку скарачэння — узнікла *крывянка*: *крывян-ка.*

**Каля́нка** ж. Драбок каўбасы. *С калянку і мне дай каўбасы.* Гр.

*Калянка* — суфіксальнае ўтварэнне ад *кола* суфікс **-янк**-а; параўн. *дзялянка* з тым самым значэннем на Глушчыне (Мат., 113). Літаральнае значэнне — 'частка кола' (круга каўбасы).

Як памяншальнае бытуе і **каляначка**. *Адрэш хоць каляначку каўбасы пакаштаваць, ні шкадуй!* Ст. С.

## Назвы сала і тлушчаў

**Са́ла** (*сало*) н. *Хоць кусочак сала зьзясі, і ўжэ трывуляй, ні так есьці хочацца.* Св.

*Сала* — агульнаславянскае слова. Утворана ад асновы *сад-* (*садзіцца*) пры дапамозе

суфікса *-dlo*: *sadlo*>*сала*; параўн. польск. *sadło*. Першапачатковае значэнне слова — 'тое, што насела на мясе' (ЭСРЯ, II, 247).

**Лой** м. *Лою натапіла много, як кішке пярабірала каровіныя.* Гр. *Сыты баран, много лою.* Кр.

— Руск. (дыял.) *лой* — 'тлушч, нутраное сала' (СОС, 379); *лой* — 'топленае сала, сала на свечкі' (Даль, II, 264); укр. *лій* — тс., славенск. *loj* — 'тлушч', балг. *лой* — тс., с.-х. *лоj* — 'сала, тлушч', чэшск. *loj*—'сала', польск. *łój* — 'лой'.

*Лой* — агульнаславянскае слова, паходзіць ад *ліць* (Брукн., 311). У ўсходнеславянскіх помніках *лой* мела значэнне — 'сала, тлушч' (Сразн., II, 44). У сучаснай беларускай і ўкраінскай (а таксама польскай) слова *лой* выступае як літаратурнае, у рускай яно не ўжываецца (замест яго — *говяжий* (бараний) *жир*, *баранье сало*).

**Здор** м. *Много здору с кішок паршука надралі.* Вар. *Здорам паттоўчана капуста — і смашна.* Гр.

*Здор* — нутряное сало (свиное) (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *сдор* — 'нутраное сала з чэрава, кішак' (Даль, IV, 167); укр. *здір* — 'здор'.

Паходзіць слова *здор* ад *здзіраць*, бязафіксное ўтварэнне з чаргаваннем **і—о**, параўн. *ліць* — *лой*. Літаральнае значэнне — 'тое, што здзіраюць' (што садрана).

**Шмáлец** (*шмаляц*) м. 1. Гусіны тлушч. *Як тушыш* (гусь), *то шмальцу нацячэ много,* Св.

2. Тлушч, які застывае наверсе квашаніны. *З дрыгвы шмаляц лошкаю скрабе і ўсё ў рот. От любіць яго.* Гр.

*Шмалец* — 'гусіны тлушч' (БРС-62).

— Укр. *смалець* — 'топлены тлушч' (гусіны, свіны); польск. *smalec* — 'тлушч' (топленае сала).

Я. Карскі адносіць слова *шмалец* да запазычанняў праз пасрэдніцтва польскай мовы з нямецкай. Нямецк. *Schmalz* ад *schmelzen* — 'тапіць' (Брукн., 551).

**Клу́стасць** (*клустасць*) ж. Тлушч са скваранага сала. *Сало натто топко, гунь колькі клустасьці нацякло, а скваркі малыя-малыя сталі.* Ст. С. *Аммачай блінцэ ў клустасьць.* Гр.

*Клустасць* — тс., Ваўк., Маст., Слон., Бераст., Шчуч., Свісл. (П. С.); *тлустасць* — тс., Ваўк. Навагр., Радун., Радашк. (МДСБМ); *тлустасць*—'тлушч', *Чэрв.* (КСЧ); *тлустасць*— 'тлушч' (СБН); *тлустасць* — 'тлушч, топленае сала' (Шпіл., 58).

*Тлустасць:* 1) жир ; 2) жирность (БРС-62).

— Польск. *tłustość* — 'тлушч' (Карл., VII, 70).

Слова запазычана з польскай мовы. *Клустасць* з ранейшага *тлустасць* як вынік дысіміляцыі **тл**>**кл**, параўн. *kłusty* у польскіх гаворках (Карл., VII, 71, Брукн., 572).

*Тлустасць* ад *тлусты*, якое таго кораня, што і ўсходнеславянскае *толстый.*

**Ска́лка** ж. Кропля тлушчу на паверхні вадкай ежы. *Кажаш, мало сала. Гунь скалак колькі плавая ў капусьці.* Гр.

*Скалка* — тс., Глушч. (Мат., 118); Чэрв. (КСЧ); *скалка, скалька* — тс. (ЛП, 403).

А як пеніцца вада, як гуляе на ёй *скалка.* (Я. Колас. Паэмы, 1946, стар. 447).

— Укр. *скалка* — 'кропля тлушчу ў вары-ве' (Грынч.), польск. *skałka*: 1) кропля тлу-шчу; 2) плямка на рагавіцы вока і інш. (уся-го 6 значэнняў) (Кар., VI, 127).

Відаць, у гаворкі слова прыйшло з поль-скай мовы, дзе яно выступае і як тэрміналагіч-ная назва. І. Карловіч адносіць яго да *skała.*

**Сква́рка** ж. *Перш блінцэ аммачаям, а таг-ды скваркі ямо.* Вар.

— Рус. *шкварка* — 'скварка', дыял. *сквара, скварка* (заходн., паўдн.) — "вытапки или пе-регорелые остатки на салотопне" (Даль, IV, 194); укр. *шкварка* — 'скварка', старасл. *скваръ, сквара* — 'жар, агонь', чэшск. *škvar* — 'выгаркі'; *škvarek* — 'скварка'; польск. *skwar-ka* — 'скварка'.

Слова ўтворана пры дапамозе суфікса **-к-**а ад дзеяслова *скварыць*—'пячы сала': *сквар-ка.*

**Све́жаніна** (*сьвежаніна*) ж. Свежае мяса, сала. *Сёні сьвежаніны паямо ў смак, паршука закалоўшы.* Гр.

*Сьвяжына́* — тс., Віц. (ВКС); *свежына* і *свежаніна* — тс. (БРС-62).

— Руск. *свежина* — 'несалёнае мяса на-огул, свежае мяса, сала'; *свеженина* — тс., а таксама 'свініна' (Даль, IV, 156).

Утворана слова *свежаніна* ад *свежы* пры дапамозе суфікса **-анін**-а пад уплывам слоў *квашаніна, смажаніна.*

## Назвы мяса і сала па частках тушы

**Паршу́к** м. 1). Вяпрук. 2). Туша вепрука. *Паршука ледзьвя ўходарылі да вечара.* Гр.

*Паршук* — тс., Маст., Ваўк., Слон., Свісл., Бераст., Лід., Гродз. (П. С.), Пруж. (Зян.; ХБД, 282), Івац. (МДАБМ — 711), Быц. (МДАБМ—705); *парсюк* — тс., Чэрв. (КСЧ), Віц. (Нікіф).

Мы купілі сабе *паршучка* на зельну — (Цётка. Навагодні ліст, Хрэст., II, 237).

*Парсюк* — кабан (РБС-53); *парсюк* — боров, кабан (БРС-62).

— Польск. (дыял.) *poršuk, paršuk*[23].

В. Курашкевіч адносіць слова паршук у польскай мове да запазычанняў з літоўскай мовы ці *'pochodzenia jadźwińskiego'*[24].

У беларускіх гаворках яно таксама, як сведчыць Я. Карскі, з літоўск. *paršas* → 'кабан'.

**Каляда́** ж. 1. Хвост вепрука, які вараць у куцці і ядуць на "багатую каляду". *Трэба ўжэ каляду даставаць з гаршка.* Ст. С. 2. Вяпрук, якога колюць на каляды; туша з яго. *Мы сваю каляду ўжэ закалолі і каўбасы парабілі.* Гр.

Каляда — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Маладз. (Мат., 99).

Назва рэлігійнага свята была перанесена на яду ў гэты час, а потым на кабана, прызначанага на каляду. Як назва рэлігійнага свята слова *каляда* — праславянскае запазы-

---

[23] H. Horodyska. Slownictwo Warmii i Mazur. Hodowla. PAN. Wrocław, 1958, str. 58.

[24] W. Kuraszkiewicz. Domniemany ślad Jadźwingów na Podlasiu. Warszawa, 1955, str. 127.

чанне (*kolęda* — Новы год) з лац. *calendae*— 'першы дзень месяца' (Сл., II, 353—354).

**Каля́днік** м. Тое, што і **каляда** ў II значэнні. *Сыты наш калязднік: пальцаў на пяць сало на сьпіні.* Гр. *Ра́шку мяса наклалі с каляднік-ка.* Св.

Слова *каляднік* утворана ад *каляда* пры дапамозе суфікса **-нік**.

**Апо́лец** (*апо́ляц*) м. Вялікі кавалак сала. *Апольцаў с п'яць сала было·с калядніка таго.* Кр.

*Полць* — 'палоска свінога сала, выразаная ў даўжыню' (СБН); *полоть* — "полоса свиного сала" (АУСБС); *польць, пульць* — 'вялікі кусок тоўстага сала' (ЛП, 398).

Энзэ і сапраўды грунтоўны — *аполец* сала, бохан хлеба, пара каўбас, кошык бульбы і яблыкі (Я. Брыль. На Быстранцы, 1955, стар. 105). А на тым банкеце камара забілі, чтэры *полці* з камара сланіны злупілі (Р. Шырма. Беларускія народныя песні, т. I, 362). Тлусты *полаць* няма чаго шмараваць (Ф. Янкоўскі. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, 198).

А. Праабражэнскі адзначае гэта слова ў многіх славянскіх мовах: руск. *полоть* — 'палавіна тушы' (свініны); укр. *полоть*, белар. *полць*, стараруск. *полоть* — 'палавіна тушы' (ці цэлая?), старасл. *платъ* — 'палавіна', славенск. *plat* — тс., чэшск. *polt* і *polťa* —' палавіна вэнджанай тушы', польск. *połeć* — 'палавіна тушы' (свініны); в.-л.—*polč* і адносіць да *полъ* — 'палавіна'; утварэнне: *пол-ть*, як локаць з локь-тъ (ЭСРЯ, II, 97).

*Аполец* — прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад кораня *пол-*(палова): *а-пол-ец*, параўн. аднаструктурнае *аполак, азадак.* Літаральнае значэнне — 'палавіна тушы' (свініны).

І. Насовіч лічыў, што *полць* паходзіць ад *пол* (палова) і *цяць*. Але такую этымалогію хутчэй можна лічыць народнай.

**Падчаро́вак** (*пачаровак*) м. Сала з падбрушша вепрука. *Пачаровак доўго ні ляжаціме, каб ні сапсаваўсё, трэба пякчы яго.* Ст. С.

*Падчаровак* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.); *падчэрава* — тс., Чэрв. (КСЧ); *подчерёвок* — 'падбрушная частка сала' (СБН); *падчаровок* — "брюшина у свиней" (БС); *падчыровына* — 'слой сала з жывата свінні, кабана' (ЛП, 64); *подчеравине, подчиривье* (ЛП, 397).

*Падчаровак* і *падчарэўе* — подбрушье (РБС-28); *падчарэўе* — подбрушье (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *подчеревье, подчерёвок* — "подбрушье, подживотье, от пупа до тазу" (Даль, III, 215); *подчерёвык* (СОС, 636); укр. *підчерев'я*—'падбрушша'; *підчеревник* — 'павязка на жывот'.

Слова *падчаровак* утворана прыставачна-суфіксальным спосабам ад чэрава — 'жывот, кішкі, унутранасці' (ЭСРЯ, II, 1205); *пад-чаров-ак.*

Літаральнае значэнне слова — 'тое (сала), што пад чэравам' (жыватом).

**Трыбухі́** (*трыбухе*) толькі мн. *Сёні трыбухоў насмажыла, мо і нісмашныя будуць, бо натто кішак много.* Гр.

*Трыбухі* — требуха (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *требуха* — 'страўнік з кішкамі, брушныя ўнутранасці' (Даль, IV, 427), укр. *тельбухи* — тс., польск. *telbychi* — тс.

*Трыбухі* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *трыбух*—'страўнік', якое А. Брукнер лічыць агульнаславянскім — **trьbuchъ* (Брукн., 567, 568, 576).

Першапачатковае слова мела значэнне 'страўнік', потым — 'унутранасці наогул'.

**Кумпя́к** м. *Сало кладзем у рашку, а купмяке вешаям пад бэльку.* Ст. С. *Кумпяка адрэш да еш, як есьці захацеў, ні меў сухама́ хлеп го́мджыць.* Гр.

*Кумпя́к* — 'сцягняк', Бял. (Мат., 32); *кумпя́к* — 'сцягно або філей' (Нікіф.); *кумпяк* — тс., Радашк. (МДСБМ); *кумпяк* — "окорок, бедро" (КСЧ).

*Кумпяк* — (часть туши) окорок; бедро (БРС-62).

Польск. *kump* — тс., літоўск. *kumpus*—тс.

Як заўважае Я. Карскі, слова *кумпяк* прыйшло ў гаворкі з літоўскай мовы.

Літоўскае *kumpus* было перааформлена ў беларускай мове на ўзор слова *сцягняк*. Параўн. польск *kump*, дзе захаваўся корань літоўскага *kumpus*.

**Ска́ба** ж. Рабрынкі. *Капуста с скабаю смашна і мясо смашно.* Гр.

*Скаба* — 'некалькі рабрынак'; *скабка* — 'рабрынка', Чэрв. (КСЧ); *скаба, скабіна, скабішча* — тс. (СБН); *скабіна* — 'невялікі кавалак мяса, сала', Мсцісл. (Юрч.).

І. Насовіч разглядае слова *скаба* як запазычанне з літоўскай мовы: літоўск. *skabs* — 'рабро' (СБН, 580).

**Паляндвіца** ж. *Паляндвіцу сырую ямо, як трохі паляжыць, насалеўшы.* Гр.

*Палянгвіца, палямбіца* — 'паляндвіца',Ваўк., Маст., Слон. (П. С.).

*Палянвіца* — 'філе, філей' (РБС-53); *паляндвіца* — 'філе, філей' (БРС-62).

— Укр. *палядвиця* — тс., польск. *polędwica* — тс.

Слова запазычана з польскай мовы (фанетычная прыкмета — **ян** на месцы польск. *ę*), у якой *polędwica* ад старапольскага *lędwica*— 'нырка' (Брукн., 297).

**Карко́віна** ж. *Карковіна цьвярдая есьці сырою.* Кр.

*Карковіна* — ошеек (БРС-62).

— Польск. *karkowina* — 'патыліца ў жывёлы', 'частка тушы'.

Слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы (фанетычная прыкмета—спалучэнне **ар** у корані слова), дзе *karkowina* ад *kark*. А. Брукнер набліжае яго да *корч, курчыць* (Брукн., 220, 283).

**Драма́к** м. Хвост свінні (авечкі) як ежа. *Вазьмі абяры драмака, тут мяса много.* Гр. Часцей слова скарыстоўваецца як жартаўлівае. Існуе павер'е, што пралля, якая з'есць драмак, не захоча спаць ноччу ў часе прадзіва. Гэта наводзіць на думку, што *драмак* звязана з *драмаць*, параўн. у Даля: *дремка, дремалка* — "склонный к дремоте, сонливый, дремлющий за делом не вовремя; соня, вялый" (т. I, 492). У такім разе *драмак* — суфіксаль-

нае ўтварэнне ад *драмаць*: *драма-к*. Спачатку, відаць, словам называлі чалавека, які драмаў за работаю, а затым назва была перанесена і на страву (каб не задрамаў, яму давалі абгрызаць хвост — *драмак*).

## Назвы яйца і стравы з яец

**Яйцо́** н. *Аблупі яйцо і еш с хлебам — ні голат*. Кр.

Агульнаславянскае слова, утворана суфіксальным спосабам (суфікс **-ц**-о **-ьц**-е) ад асновы *jaje* (параўн. польск. *jaje, jajko,* н.-л. *jajo*). Мяркуюць, што *jaje* ад той асновы, што і лац. *avis* — 'птушка' (ЭСРЯ, II, 1277).

**Бі́тка** ж. Пабітае яйцо, выйгранае ў часе велікоднай гульні ў яйцы. *Гаш сем біткаў мая, выбіў*. Гр.

*Біток* — 'моцнае яйцо ў ігральным «баі» яец' (СБН).

Утворана слова ад *біць* (*біцца*): *біт-к-а*.

**Скаралю́шча** (*скаралю́шчо*) н. Шкарлупіна яйца. *Ні еш яйца с скаралюшчам, аблупі*. Гр.

*Скалярушча* і *скаралюшча* — тс., Маст., Ваўк., Слон. (П. С.).

— Старасл. *скаралушта*, старарускі. *скоролуща*.

Слова фіксуецца помнікамі з XII ст. (Сразн., III, 382). А. Праабражэнскі разглядае яго як складанае: *скора* (скура́, кара) і *лушча* (ад *лушчыць*) (ЭСРЯ, II, 308).

**Смя́тка** (*сьмятка*) ж. Недавараная частка яйца. *Ты еш, дзетка, сьмятку, як любіш, а я тугоё зьзем*. Гр.

А. Праабражэнскі падае гэта слова як незарэгістраванае, ад якога ўтворана прыслоўе *всмятку*, і адносіць да *мять, смять*: *с-мят-ка* (ЭСРЯ, II, 343).

**Яе́шня** ж. Страва са спечаных яец (часам з дабаўленнем мукі, малака, скварак). *Як на хутко трэба — яешню пячэм.* Ст. С. Бытуюць і састаўныя назвы: **яешня з салам** (**скваркамі**), **яешня з малаком**.

*Яешня* — тс., Маст., Ваўк., Слон., Бераст. (П. С.), Чэрв. (КСЧ), Маг. (СБН).

*Яешня* — яичница (БРС-62, РБС-37, РБС-28), *яечня* (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *яичница*, дыял. *яешня* (СОС, 1018). укр. *яечня*, дыял. *яешниця, яечниця* (ЛАУГ, карта 62); польск. *jajecznia.*

Утворана слова *яешня* ад *яйцо*, суфікс **-н-я**; **ш** на месцы **ч**, як і ў словах *рушнік, смашны.*

## Назвы пітва і прыпраў да яго

**Чай** м. 1. Напітак з настоенага лісця чаю. *Мы чаю мало п'ем, малаком апходзімсё.* Зл. 2. Напітак з навару лекавых раслін. *Ат прастуды чай зь ліпы, маліны варым.* Гр. 3. Навар з садавіны. *От, яг бало посьцілі, то чай з грушаў сушаных варылі.* Гр.

Слова бытуе ва ўсіх славянскіх мовах. Паходзіць з кітайскай мовы; праз цюркскае пасрэдніцтва трапіла ў рускую мову, а з яе ў іншыя славянскія мовы (ЭСРЯ, II, 1192). У беларускую прыйшло таксама з рускай.

У 20-я гады слова *чай* ужывалася паралельна з *гарбата*[25].

**Кампо́т** м. Слова ўсведамляецца як новае, у гаворкі прыйшло з літаратурнае мовы. *Мы ўсё бало чай казалі, як варылі з грушаў ці вішняў, а цяпер кажуць — кампот.* Гр.

Слова паходзіць з французскай мовы: *compote* — 'кампот', відаць, праз нямецкае пасрэдніцтва: нямецк. *Kompott* — тс. (Фасм. II, 306); першакрыніца лац. *composita* — 'складзенае, змешанае' (Сл., II, 399).

**Ка́ва** ж. *Сягды-тагды кавы зварым з малаком.* Ст. С.

*Кава* — кофе (БРС-62).

— Укр. *кава* — 'кофе', польск. *kawa* — тс., руск. (дыял.) *кава* — тс. (Даль).

Яшчэ У. Даль разглядаў гэта слова ў рускай мове як запазычанае з польскай. Ф. Слаўскі адзначае яго ў розных славянскіх мовах і сцвярджае, што ў белар., руск. і ўкр. мовах яно з польскай, польск. *kawa* праз турэцкае пасрэдніцтва прыйшло з арабск. *kahwa* — 'кава' (Сл., I, 105).

**Квас** м. *Квас натто моцны сь цьвілого хлеба.* Ст. С. *Квас у капусту падліваям, як ні кісла.* Кр.

Помнікі ўсходнеславянскай пісьменнасці фіксуюць слова *квас* з чатырма значэннямі: 1) закваска; 2) асобы кіслы напітак; 3) кіслата; 4) выпіўка (Сразн., I, 1202, 1203). У сучаснай чэшскай мове яно таксама мае 4 зна-

---

[25] Германовіч Г. К. З гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай лексікі. — «Весці АН БССР», серыя грамадскіх навук, 1961, № 3, стар. 88—90.

чэнні: 1) закваска, 2) рэчыва, якое выклікае браджэнне; 3) квас; 4) банкет (устар.).

*Квас* — агульнаславянскае слова; у праславянскай мове *квасъ* утворана ад дзеяслова *кысати* — 'кіснуць'; корань той, што і ў словах *кісель, кіслы, кіснуць*; параўн. чэшск. *kysati* — 'кісніць', польск. *kwaśne* (*mleko*) — 'кіслае' (малако).

**Кісе́ль** м. *На велькі пост дайней кісель з айсу варылі.* Зл.

Слова *кісель* → агульнаславянскае. Ва ўсходнеславянскіх пісьмовых помніках адзначаецца з «Повести временных лет» (Сразн., І, 309).

Утворана слова *кісель* пры дапамозе суфікса **-ель** ад той асновы, што і *квас*: *кысати*. А. Праабражэнскі супастаўляе *кісель* з санскр. *kvathas* — 'адвар' (ЭСРЯ, І, 309).

**Сок** м. *З вішняў соку папіў — і адлягло, ні стало нудзяць.* Св. *Соку зь бярэзіны напусьціў цэлы збанок.* Гр.

Слова *сок* агульнаславянскае, адпаведнікі ёсць і ў іншых індаеўрапейскіх мовах: параўн. латышск. *sucus* — 'сок'.

А. Праабражэнскі выдзяляе ў слове *сок* корань * *seu* — 'выціскаць', суфікс **-к** (параўн. *сасаць*) (ЭСРЯ, II, 351).

**Піва** (*піво*) н. *Піва нарабі з буракоў.* Гр

У помніках усходнеславянскай пісьменнасці *пиво* адзначаецца з XI—XII стст. з наступнымі значэннямі: 1) піццё; 2) напітак; 3) піва; 4) струмень (Сразн., II, 930—931).

*Піва* — агульнаславянскае слова. Утворана ад *піць*, суфікс **-в**-а (**-ів**-а). Параўн. аднаструктурныя *печыва, мліва, варыва.*

Першапачаткова *піва* мела значэнне пітва наогул, любога напітку (ЭСРЯ, II, 56).

**Віно** н. *Ні п'еш гарэлкі, то хоць віна трохі вазьмі ў рот.* Пл.

У помніках слова адзначаецца з «Астраміра ва евангелля» і «Судзебніка» IX ст. са значэннямі: 1) вінаград; 2) напітак з яго (Сразн., I, 259).

*Віно* — агульнаславянскае запазычанне з лацінскай мовы (германскае пасрэдніцтва). Гэта слова лічаць старажытным міжземнаморскім тэрмінам, бо яго няма ў інда-іранскіх мовах і радзімай віна лічыцца Каўказ і Малая Азія (Фасм., I, 316).

**Гарэ́лка** ж. *У вайну ўсё самыя гарэлку гналі, а цяперака ў лаўцы купляямо.* Гр.

— Укр. *горілка,* дыял. *горівка, згорілка* (ЛАУГ, карта 61); польск. *gorzałka* (Сл., I, 322); руск. (дыял.) *горелка* (паўдн.)—'простае хлебнае віно, гарэлка' (Даль, I, 384).

Ф. Слаўскі выказвае меркаванне пра ўтварэнне ва ўсходнеславянскіх мовах слова *горелка* на ўзор польскага *gorzałka* — 'гарэлая вада', якое адпавядае чэшскаму *pálenka* — 'гарэлка' (Сл., I, 322). Гэтай думкі прытрымліваецца і І. Дзендзялеўскі [26].

У рускай мове *горелка* з XVII ст. Адсюль можна меркаваць, што сюды слова прыйшло з беларускай (украінскай) мовы.

Утворана слова *гарэлка* ад *гарэць: гарэ-л-ка,* параўн. аднаструктурныя *веялка, сеялка,*

---

[26] Й. О. Дзендзелівський. Лінгвістичний атлас українських народних говорів Закарпатської області УРСР. Докт. дис., т. I, стор. 97—98.

*качалка* і г. д. Літаральнае значэнне — 'вадкасць, якая гарыць'.

**Во́дка** (*вотка*) ж. Гарэлка. *Маладыя кажуць вотка, а старыя — гарэлка.* Гр.

*Водка* — гарэлка, Івац. (ХБД, 295), Малар. (ХБД, 312).

— Руск. *водка*, польск. *wódka*, укр. *водка* (*царська*).

Слова *водка* часта сустракаецца ў мастацкіх творах XIX ст. (гл. Хрэст., II, стар. 92, 102, 131, 143, 182) і пазнейшых выданнях (у Я. Купалы).

Тлумачыцца гэта ўплывам у мінулым польскай, а пазней рускай моў.

Пра паходжанне слова выказваюцца розныя думкі. А. Брукнер лічыць, што ва ўсходнеславянскіх мовах гэта слова з польскай (Брукн., 628). П. Я. Чарных пісаў: «...Дзіўнае па ўтварэнні слова *водка* ўзнікла спачатку на польскай глебе» (Очерк, 210). А Праабражэнскі адносіць *водка* да *вада* без тлумачэння, якім чынам магло ўзнікнуць гэта слова. Аўтары КЭСРЯ (стар. 63) адносяць слова *водка* да ўласнарускага ўтварэння пры дапамозе суфікса **-к-**а ад *вада.*

**Самаго́нка** ж. Самаробная гарэлка. *Цяперака самагонкі ўжэ ні гоняць, а ў вайну адно самагонка і была.* Ст. С.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Утворана складанасуфіксальным спосабам ад словазлучэння *самому гнаць: сам-а-гонка.*

**Пярша́к** м. Самаробная гарэлка вышэйшага гатунку. *Пяршак натто моцны, градусаў мо пад дзявяносто.* Кр.

Утворана слова ад *першы*: *пярш-ак*; параўн. руск. *первач*, укр. *первак* — тс. Літаральнае значэнне — 'першая' (самагонка), самая моцная.

Разгледзім тут і назвы прыпраў да пітва.

**Цу́кер** (*цукяр*) м. Цукар. *Бяс цукру і чай, як вада, а як цукяр е, то, пасаладзіўшы, усё смашнейшо.* Гр.

*Цукер* — 'цукар', Слон., Маст., Ваўк., Бераст. (П. С.); *цукар*, Чэрв. (КСЧ); *цукер* (РБС-24), *цукер* (СБН).

*Цукар* — сахар (РСБ-53, БРС-62).

— Укр. *цукор*, польск. *cukier*.

В. Вольскі падае слова ў форме *цукр* і адносіць да нямецкіх слоў у беларускай літаратурнай мове, але не паказвае, якім чынам яно прыйшло з нямецкай мовы ў беларускую [27]. Я. Карскі сцвярджае, што слова *цукар* трапіла ў беларускую мову праз польскую. Матэрыялы даследаваных гаворак пацвярджаюць гэту думку. У гаворках слова мае тое гукавое аблічча, што і ў польскай, параўн. *цукер* (*цукяр*) і *cukier*. У беларускай літаратурнай мове яно бліжэй да нямецкай, параўн. нямецк. *Zucker* і белар. *цукар*. А. Брукнер адзначае ўвесь шлях, які прайшло гэта слова, перш чым трапіла ў польскую мову: *cukier*<нямецк. *zucker*<італ. *zuchero*<арабск. *sukkar*; першакрыніцай з'яўляецца індыйскае *szarkara*, пазнейшае *sakkhara*, адкуль грэч. *sakchar* і руск. *сахар* (Брукн., 67).

Такім чынам, белар. *цукар* і руск. *сахар* з аднае крыніца — індыйск. *sakkhara*, толькі за-

[27] В. Вольскі. Пра словы нямецкага паходжання ў беларускай мове. — «Узвышша», 1929, № 10.

пазычанне гэтага слова ў беларускую і рускую мовы ішло рознымі шляхамі (праз розныя мовы-пасрэднікі). Ва ўкраінскай мове абодва словы прызнаюцца за літаратурную норму.

**Мёд** (*мёт*) м. *Зь мёдам адно чай п'ем у прыкуску.* Зл. *Гарэлка зь мёдам ат кашлю памагая.* Св.

У помніках усходнеславянскай пісьменнасці слова *мёд* фіксуецца і са значэннем 'пітво', 'віно' (Сразн., II, 122—123).

*Мёд* — агульнаславянскае слова, адпаведнасці ёсць у іншых індаеўрапейскіх мовах: літоўск. *médus* — 'мёд', латышск. *medus* — тс., стараіндыйск. *mádhu* — 'мёд, мядовы напітак', *madhuras* — 'салодкі' (Фасм., II, 588—589).

**Варэ́нне** (*варэнё*) н. *Мы варэнё ў чай кладзем, разьмешваям і п'ем так.* Пл.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Утворана ад *варыць: вар-энн-е.*

Для абазначэння розных відаў варэння ўжываюцца састаўныя назвы: **вішнёвае варэнне** (*вішнёво варэнё*), **яблычнае варэнне** (*яблычно варэнё*), **грушавае варэнне** (*грушаво варэнё*), **варэнне са сліў, варэнне з парэчак, варэнне з маліны** і іншыя.

**Паві́дла** (*павідло*) н. Слова ўсведамляецца як надта новае; у гаворкі прыйшло з літаратурнае мовы. *Неко павідло, кажа, зварыла, а ў нас яго ні вараць.* Гр.

Слова запазычана з польскай мовы, параўн. польск. *powidło* — тс. (КЭСРЯ, 254).

## НАЗВЫ АДЗЕННЯ І ЯГО ЧАСТАК

### Агульныя назвы адзення

Для абазначэння паняцця 'адзенне' ў гаворках бытуюць словы *адзежа, адзенне, убранне, уборы, плацце, лахманы, лэхі, шаты, неданоскі.*

**Адзéжа** ж. Слова выступае як найбольш ужывальнае і нейтральнае. Астатнія назвы маюць тут больш вузкае значэнне ці абмежаваны ў выкарыстанні. *У цябе, сынок, усялякае адзежы много.* Гр.

— Руск. *одежа, одежда;* укр. *одежда, одяг;* старасл. *одѣжда*; сербск. *одежда*; чэшск *dej, oděv, odivka;* польск. *odzież, idzieża* (Ліндэ).

Паходзіць слова *адзежа* ад таго кораня, што і *дѣти*, суфікс -j(*а*) (ЭСРЯ, I, 590); першапачаткова **odědja* — няпоўнае паўтарэнне кораня *děd*+суфікс- -j- (КЭСРЯ, 230).

**Адзéнне** (*адзенё*) н. Слова бытуе з тым значэннем, што і **адзежа**, але скарыстоўваецца галоўным чынам у мове старых ці як стылізацыя пад літаратурную мову. *У гэтай лаўцы адзенё прадаюць, а ў той — вобуй.* Зл.

— Польск. *odzienie* — 'адзежа'.

Утворана слова *адзенне* ад дзеяслова *адзець*, суфікс **-нн**(е): *адзен-нн*(*е*).

**Убрáнне** (*убранё*) н. Часцей слова выкарыстоўваецца са значэннем святочнага, выхадного адзення. *Чаму ты свайго ўбраня ў ша-*

*пу ні павесіш, да кінуў абы-дзе і валяецца, га?* Дзяр.

— Укр. *убрання* — 'адзенне'; польск. *ubranie* — 'адзенне', 'убор'.

Утворана слова *ўбранне* ад *убраць* (*убірацца*), суфікс — **нн**-е. Слова малаўжывальнае, скарыстоўваецца часцей у мове старэйшага пакалення.

**Убо́ры** толькі мн. Слова бытуе з тым значэннем, што і *ўбранне*, але выступае як больш актыўнае, ужываецца ў мове ўсіх пакаленняў. *Уборы пакідала абы-дзе, а сама хучэй спаць!* Ст. С.

*Прыборы* — 'уборы' (КСЧ).

Слова бытуе ў рускай і ўкраінскай мовах.

*Уборы* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *убор*, апошняе ад *убіраць* з чаргаваннем **і—о**: *убір*(аць) — *убор.*

**Ша́ты** толькі мн. Дарагое, пышнае адзенне. *Ты на яго і шаты адзень, то ў грась палезя, ні пашкадуя.* Гр.

У старажытнай беларускай мове *шаты* мела значэнне 'адзенне наогул' [28], у сучаснай літаратурнай мове *шаты* — 'пышнае адзенне'.

— Укр. *шати* — 'пышнае адзенне'; польск. *szaty* — 'адзенне, уборы'.

І. Сразнеўскі падае яго з паметкай "заходняе".

Я. Карскі адносіць *шаты* да ўласнапольскіх слоў. А. Брукнер лічыць, што слова *шаты* з польскай мовы пранікла ва ўсходнеславянскія (Брукн., 542). Новыя этымалагічныя по-

[28] В. Ф. Кривчик. Словарный состав белорусских переводных повестей II половины XVI в. Канд. дисс. М., 1952, стр. 98.

шукі[29] вядуць слова да прагерманскага **he-taz* — 'покрыва'.

**Лахманы́** (*лахманэ*), адз. **лахман**. 1. Старое, паношанае адзенне. *Лахманэ да ўбраня ні кладзі, хай на зáпяку ляжаць.* Гр. 2. непахв. Адзенне. *На лахманэ ўсе грошы зводзіць, а сама галадая.* Ст. С.

*Лахманы, лахмаце* — тс. (ЛП, 296).

— Руск. (дыял.) *лохман* — 'лахманы, рабочае адзенне' (Даль, II, 279); *лохмотье*; укр. *лахміття*; польск. *łachman* — 'рызман, старое адзенне'; чэшск. *lachman* — 'ануча'.

А. Праабражэнскі набліжае *лахман* да *лахмотье*, але паходжанне гэтых слоў лічыць няясным. Заслугоўвае ўвагі этымалогія І. Карловіча, які выводзіць *лахман* са старога нямецкага *Lach* — 'палатно' (ЭСРЯ, I, 472—473). У такім разе *лахман* — суфіксальнае ўтварэнне, суфікс **-ман**, параўн. *рыз-ман* (ад *рызз-ё*).

**Лэ́хі** толькі мн., зняважл. Падранае адзенне. *Чаго ты лэхамі трасеш? Што ў цябе німа чаго апрануць, ці што?* Св.

*Лахі* — тс. (ЛП, 296).

*Лэхі* — фанетычны варыянт ад *лахі*, якое з нямецк. *Lach* — 'палатно' (гл. **лахман**).

**Пла́цце** (*плацё*) н. Бялізна. *Сёніка сыбота, пакупаямсё, плацё зьменім.* Вар.

З такім значэннем гэта слова бытуе ў многіх беларускіх гаворках. Слоўнікі 20-х гадоў таксама падавалі *плацце* толькі са значэннем

---

[29] Гл.: В. Мартынаў, А. Міхневіч. Беларуская этымалогія. Старонкі слоўніка. — «Маладосць», 1969, № 5, стар. 143.

’бялізна’. Сучасныя слоўнікі — РБС-53 і БРС-62—фіксуюць яго і са значэннем ’сукенка’.

— Руск. *платье*: 1) сукенка, 2) адзенне (вопратка); укр. *плаття*: 1) сукенка, 2) бялізна (устар.), дыял. *платте, плаття* — ’бялізна’ (Лыс., СЛЛ, 42).

Помнікі ўсходнеславянскай пісьменнасці адзначаюць гэта слова з XVI ст. са значэннем ’адзенне наогул’ [30].

Паходзіць *плацце* ад усходнеславянскага *платъ*—’кусок тканіны’, суфікс **-ьјь**: *платьјь*> >*плацце*. Літаральнае значэнне слова — ’палатняны убор’.

## Агульныя назвы мужчынскага і жаночага адзення

**Сарóчка** ж. Частка бялізны—адзенне (часцей даматканае льняное) на верхнюю частку цела. *Старыя нігды маяк тых ні носяць, усё ў сарочках сваe работы ходзяць.* Кр. *Сарочка і споднія ганавіцы — і ўсё плацё.* Гр.

— Руск. *сорочка* — ’кашуля’; укр. *сорочка* — тс., старасл. *сракы, срачица* — ’кашуля, адзенне’; славенск. *srakica, sracja* — ’кашуля’.

*Сарочка* — усходнеславянскае ўтварэнне ад *сарока*, суфікс **-ьк**(’а). У помніках пісьменнасці *сарочка* фіксуецца з XI ст. са значэннем ’сподняя кашуля’.

У сучасных беларускіх гаворках яно займае значна большую тэрыторыю, чым *кашуля* (гл. ДАБМ, карта 328).

---

[30] Е. Н. Борисова. Из истории бытовой лексики рязанских памятников XVI—XVII вв. Канд. дисс. Рязань, 1958, стр. 263.

**Кашу́ля** ж. Слова бытуе з тым самым значэннем, што і **сарочка**, але скарыстоўваецца вельмі абмежавана, галоўным чынам у мове старых: *Мяшчаня ўсё бало кашуля на сарочку казалі.* Вальк.

Паводле ДАБМ (карта 328), слова пашырана ў гаворках паўночна-заходняй часткі Беларусі.

А. Праабражэнскі адзначае гэта слова і ў рускіх гаворках, украінскай, стараславянскай, славенскай, балгарскай, сербска-харвацкай, чэшскай, польскай, верхня- і ніжнялужыцкай мовах; першакрыніцай яго лічыць сярэднелацінскае *cosula*, але шлях у славянскія мовы яго няясны (ЭСРЯ, I, 374). А. Брукнер адносіць *кашуля* да агульнаславянскіх запазычанняў з лац. *casula* 'плашч з капюшонам', 'хата' — памяншальнае ад *casa* — 'хата' (Брукн., 260; Сл., II, 547).

В. М. Тамань разглядае *кашуля* як паланізм у рускай літаратурнай мове XVI — пачатку XVII ст.[31] Такі погляд даследчыка, відаць, заснаваны на тым, што слова *кашуля* не было характэрна рускай мове таго часу. Сучаснай рускай літаратурнай мове гэта слова зусім неўласціва, ва ўкраінскай выступае як абласное. Улічваючы гэта, можна меркаваць, што *кашуля* замацавалася ў беларускай мове пад уплывам польскай, у якой *koszula* мае тыя значэнні, што ў беларускай перадаюцца двума словамі — *сарочка* і *кашуля*.

---

[31] В. М. Тамань. О польской лексике в языке русских памятников XVI и первой половины XVII веков. Канд. дисс. Л., 1953, стр. 110.

**Супо́льніца** ж. Доўгая і шырокая споднян кашуля; слова скарыстоўваецца часцей як жартаўлівае і непахвальнае пра завялікае, зашырокае, нязграбнае адзенне. *Дзіцяці супольніцу шый, а ні мне.* Кр. *Сама насі гэту супольніцу, а я ні буду такую сукню класці на сябе.* Гр.

*Супольніца* — 'суцэльнае адзенне', Слон. (П. С).

Паходзіць слова *супольніца* ад *пала*; суфіксальна-прэфіксальнае ўтварэнне: *су-польніца.*

**Капта́н** м. Пра любое верхняе з рукавамі адзенне да пояса (часцей даматканае). *І ёй каптан замалы́ стаў: памажнела.* Св. *Апрані, Лёнічак, каптан, каб халадно ні было часам.* Гр.

*Каптан* — 'жаночая на ваце кофта', Чэрв. (КСЧ), 'кофта', Глушч. (Мат., 114), 'пінжак'— Рад. (МДСБМ); *каптан*: 1) куртка; 2) блузка (ЛП, 290).

Ён скінуў *каптан*, разуўся — думаў трохі падрамаць (А. Бажко. Перад вераснем). Маці палажыла ў фартух пад *каптан* кавалак пірага (Р. Тармола. Агатка).

Зрэдку слова выкарыстоўваецца ў зэльвенскіх гаворках і са значэннем 'адзенне наогул'. *От каптан які куплю і ўжэ ні голы хадзіціму.* Кр. Параўн. *Каптан* шык, а ў бруху пшык (Рап.).

Слова адзначаецца ў рускай, украінскай, балгарскай, сербскай, чэшскай і польскай мовах.

А. Праабражэнскі адносіць яго да запазычанняў з цюркскіх моў, дзе мае шмат значэнняў (ЭСРЯ, I, 302).

Ф. Слаўскі першакрыніцай лічыць персідск. *chäftan*, адкуль турэцк. *kaftan* — 'доўгае лёгкае адзенне' (Сл., II, 20).

**Камузэ́лька** ж. Кароткае адзенне без рукавоў, паверх якога апранаюць пінжак. *Дайней камузэлькі да касьцюмай шылі, а цяперака з айчыны шыям сабе, кап цяплей было.* Ст. С.

— Польск. *kamizelka, kamizela* — 'камзол, сялянская куртка'; чэшск. *kamizola* — 'куртка паляўнічая, вышытая кашуля'; руск. і ўкр. *камзол* — 'безрукаўка'.

А. Праабражэнскі адносіць гэтыя словы да запазычанняў з нямецкай мовы; *Kamisol* — 'куртка, камізэлька' (ЭСРЯ, I, 289). А Брукнер, Ф. Слаўскі лічаць, што *камізэлька* з французскага *camisole*<італ. *camiciola*, памянш. ад *camicia* — 'кашуля', якое з лац. *camisia* — 'сарочка' (Брукн., 215, 251; Сл., II, 38—39).

*Камузэлька* — фанетычны варыянт ад *камізэлька* (на месцы ненаціскнога **і** ўзнікла **у**), якое прыйшло ў беларускую мову з польскай.

**Швэ́дра** ж. Вязаная з рукавамі (ці без рукавоў) паддзёўка. *Маня сабе швэдру зьвязала і Мішы.* Гр.

*Швэдар* — 'світэр', Карэл. (Мат., 160); *свэдра, свэдэр, швэдор*—'вязаная кофта' (ЛП, 312).

— Руск. *свитер*, укр. *светр*, польск. *sweter*.

Паходзіць слова ад англ. *sweater*, якое ад *sweat* — 'пацець' (СИС).

Форма *швэдра* ад ранейшага *швэдар* у выніку афармлення слова на ўзор назоўнікаў жаночага роду *кофта, матроска*, зычны **т** азванчыўся у **д** (параўн.: *тудака—тутака, гэдак, гэтак*), гук **с** перад **в** перайшоў у **ш** (параўн. *шворань* з *сворань*).

**Пальто́** н. Паліто. *На зіму пальто сабе пашыў і Валіку.* Дзяр. У такой форме слова бытуе ў многіх беларускіх гаворках (гл. ЛП, 302 і інш.). Другі, у доўгім, чорным аблезлым *пальце*, дзяржаў на плячах барабан. (К. Чорны. Выбраныя творы, 1947, стар. 37).

— Руск. *пальто*, укр. *пальто*, польск. *palto*, у гаворках *palito, paleto.*

Паходзіць слова ад франц. *paletot* — ’паліто’. А. Праабражэнскі параўноўвае *пальто* з брытанскім *paltok*—’адзенне селяніна’ (ЭСРЯ, II, 10). У беларускай літаратурнай мове замацавалася *паліто* — ад польскага дыялектнага *palito*, якое ўзнікла ў выніку „літаральнага вымаўлення французскага слова, што ў польскай мове па традыцыі перадавалася ў транскрыпцыі арыгінала” [32].

**Ясёнка** ж. Дэмісезоннае паліто. *Ясёнку мáя Алена харошу.* Св. *Міхась у Дзярэчыні ясёнку сабе купіў.* Ст. С.

Слова *ясёнка* (*ясёнко*) адзначаецца паўсюдна на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Прыйшло яно ў гэтыя гаворкі з польскай мовы: польск. *jesionka* — ’асенняе паліто’ ’дэмісезоннае паліто’ — ад *jesień* — ’восень’. Цяпер яно

[32] Г. Н. Клюсаў. Асаблівасці словаўтварэння тэрміналагічнай лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы (па матэрыялах руска-беларускага слоўніка 1953 г.). Канд. дыс. Мінск, 1961, стар. 147.

бытуе ў мове старых. Маладое пакаленне ўжывае састаўную назву — **асенняе пальто.**

**Кажýх** м. Доўгая вопратка з аўчын (без пакрыцця аўчын тканінай). *Кажухе ўжэ выходзяць з моды, а бало і жанке і мужыке ўсё апратвалі кажухе.* Гр.

*Кажух* — агульнаславянскае слова. Утворана ад *кожа* (Фасм., II, 277), суфікс **-ух** (мадэль тая, што і ў *свінух, катух*).

**Кажýшак** м. 1. Паўкажушак. *На сьвято сабе пашыла кашужак.* Зл. 2. памян.-ласк. Кажушок. *Дзіцяці кажушак апрані!* Ст. С.

— Укр. *кажушок* — 'паўкажушак', польск. *kożuszek* — тс. РБС-53 таксама падае *кажушок* з гэтым значэннем.

Утварэнне: *кажух-ак*, дзе памяншальна-ласкальная форма набыла новае значэнне, лексікалізавалася.

**Палшýбак** м. Слова мае тое значэнне, што і **паўкажушак** (у I знач.), але ўжываецца куды часцей, чым апошняе. Звычайна палшубак больш тонкае работы, з упрыгожаннямі; носяць іх часцей у свята. *Палшубак на сьвято, а кажух на будзянь.* Гр.

У форме *паўшубак* яно адзначаецца ў шклоўскіх, быхаўскіх, навагрудскіх і іншых гаворках (МДСБМ), у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках (Мацк., МДК, 75; ЛП, 306—307); у мастацкіх творах (КТСБМ).

Слова запазычана з рускай мовы: руск. *полшубок* — 'паўкажушак' — ад *шуба: полшуб-ок,* параўн. укр. (дыял.) *повшубка* — 'кароценькі кажух' (Лыс., СЛЛ, 43).

**Фуфа́йка** ж. Ватняе адзенне ў выглядзе курткі; ватоўка. *У фуфайцы лю́цко на рабоці: і цяпло́, і лёхко.* Угр.

*Куфайка* — 'ватоўка' (Мат., 125); *кухвайка, кухайка, кугайка* — 'ватоўка' (ЛП, 316). Ведама, як раненых прымае, то і шынялёў, і *куфаек* і ўсяго ўсякага (М. Лобан. На парозе будучыні). Фуфайка — 'цёплая вязаная сарочка' (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *фуфайка* , руск. *фуфайка* — тс., дыял. *куфайка* — 'куртка' (Пос., 257).

У гаворкі *фуфайка* прыйшло ў час Айчыннай вайны, відаць, з рускай народнай мовы.

Аўтары КЭСРЯ мяркуюць, што *фуфайка* магло быць утворана суфіксальным спосабам (суфікс **-айк**-а) ад італьянск. *fofa* — 'фуфайка'.

**Плашч** м. Лёгкае, звычайна непрамакальнае паліто. *Бало плашчоў гэтых ніхто і ні насіў, усё капоты шылі ад дажджу.* Гр. Слова бытуе ва ўсіх славянскіх мовах. Паходзіць ад *пласт*, суфікс **-j-**. Прадмет атрымаў сваю назву ад накідкі, відаць, на аснове агульнасці функцый.

**Рукаві́цы** адз. **рукавіца** ж. Слова бытуе ў гаворках з больш шырокім, чым у літаратурнай мове, значэннем: ім называюць і рукавіцы, і пальчаткі. *Рукавіцы і з адным пальцам і на пяць пальцаў.* Гр.

Для дыферэнцыяцыі часам ужываюцца апісальныя выразы: **рукавіцы з адным пальцам** і **рукавіцы на пяць пальцаў** (пальчаткі).

*Рукавіцы* — 'рукавіцы, пальчаткі' — Бых. (МДСБМ), *рукавіца* — 'пальчатка' (Шпіл., 55).

— Руск. *рукавица*; укр. *рукавиця, рукавичка* — 'пальчатка'; польск. *rękawica* — 'рукавіца, пальчатка'; чэшск. *rukavice* — 'пальчатка, рукавіца'; балг. *рукавица*; страсл. *ржкавица.*

Паходзіць слова ад *рука*: *рук-ав-іца* (ЭСРЯ, I, 222—223), мадэль тая, што і ў *нагавіцы.*

У старажытнай беларускай мове, як і ў сучасных гаворках, слова *рукавіцы* мела значэнне — 'рукавіцы, пальчаткі' [33].

## Назвы мужчынскага адзення

Тут будуць разгледжаны словы-назвы мужчынскага адзення і галаўных убораў.

**Ганавíцы** толькі мн. Штаны (верхнія, споднія). *Ганавіцы дакупіш да пінджака — і касцюм будзя табе.* Св. *Панёс ганавіцы да краўца шыць.* Гр.

*Ганавіцы* — 'нагавіцы, штаны', Случ. (Серж.), Ваўк. (Сцяшк.), *ганавіцы* — 'рукавіцы', Чэрв. (КСЧ) [34], *гоновицы* — 'штаны', Бер. (Рам., МЭГ, 24). Паводле ДАБМ (карта 326), *ганавіцы* часцей за ўсё адзначаецца на захадзе і поўдні Гродзеншчыны. *Ганавіцы* — 'штаны' (РБС-28).

Форма *ганавіцы* ад ранейшага *нагавіцы* — у выніку метатэзы складоў **на — га** (параўн. *караўлотак* ад *калаўротак*).

**Нагавíцы** толькі мн. Слова сустракаецца толькі спарадычна са значэннем разгледжана-

[33] В. Ф. Кривчик. Словарный состав белорусских переводных повестей II половины XVI в., стр. 375.

[34] Я. Карскі ў сувязі з гэтым піша: «...звычайна ганавіцы — 'штаны'». «Труды по белорусскому и другим славянским языкам». М., 1962, стр. 501.

га **ганавіцы.** *Твая баба некалі ўсё казала нагавіцы.* Кр.

*Нагавіцы* — 'штаны', Чэрв. (КСЧ), Віц. (ВКС), Случ. (Серж.); *ноговицы* (СБН), *нагавицы* — 'простыя штаны' (Шпіл., 46).

Сучасныя беларускія слоўнікі па-рознаму кваліфікуюць гэта слова: РБС-53 падае яго без усякіх абмежаванняў, а БРС-62 — з паметкаю «абласное». Паводле ДАБМ (карта 326), яно пашырана на Брэстчыне і Случчыне[35].

— Руск. (дыял.) *ноговица* — 'калашына' (Даль), стараруск. *ноговицы* — 'штаны'; польск. *nogowica, nogówka* — тс., чэшск. *nohavice* — тс.; сербск. *ноговица,* харвацк. *nogavica*, славенск. *nohavice*, кашубск. *nagavice* — 'штаны'.

Слова вельмі старажытнае. А. Будзіловіч залічвае яго да праславянскіх. У праславянскай мове **nogavica* абазначала самастойную дэталь касцюма, якая пакрывала нагу ад калена, шчыкалаткі; на гэта паказваюць значэнні слова *нагавіца* ў некаторых славянскіх мовах: старачэшск. *nogavice*—'панчоха, шкарпэтка', польск. (дыял.) *nogawica* — тс.

Такім чынам, *нагавіцы* — лексікалізаваная форма множнага ліку ад *нагавіца* — 'калашына', якое ад *нага*: *наг-ав-іца.* Мадэль утварэння тая, што і ў слове *рукавіца.*

---

[35] Гл.: А. П. Груцо. Аб некаторых прадметна-бытавых назвах у беларускіх народных гаворках. — Беларуская мова. Даследаванні па лексікалогіі. Мінск, 1965, стар. 131—133. Тут паказваюцца назвы верхніх мужчынскіх штаноў і іх пашырэнне ў беларускіх гаворках.

**Штаны́** (*штанэ*) толькі мн. Слова скарыстоўваецца толькі як афіцыйнае; у мове моладзі і інтэлігенцыі сустракаецца часцей. *У нашум сяле штанэ кажуць адно вучыцяля да хіба працьсядацяль калхоза.* Гр.

— Руск. *штаны* (размоўнае), укр. *штани.* У рускай мове яно з'явілася не раней як у XVII ст. У той час яно было сінонімам да слова *портки*; пазней гэтыя словы разышліся значэннямі: *штаны* стала абазначаць верхняе адзенне, а *порткі* — ніжняе [36].

Слова *штаны* паходзіць ад цюркск. *іштон* (<*ічтон*) — кальсоны (**іч** — 'унутраны' і **тон** — 'адзенне, убор' — КЭСРЯ, 384).

Словы *ганавіцы* і *штаны* выступаюць як родавыя назвы. Для абазначэння штаноў розных відаў (фасонаў), прызначэння ўжываюцца словы *порткі, споднікі (сподніяя), падштанікі, майткі, кальсоны, галюфэ і клёш.*

**По́рткі** толькі мн. Штаны (звычайна галіфэ) з тоўстага, валенага сукна. *Порткі на зіму шылі, кап цяплей было.* Ст. С.

*Порткі* — 'цёплыя суконныя штаны', Случ. (Мал., БНП), Рудз. (Ж.—МДК, 51); *порткі* — 'штаны', Случ. (Серж.), Віц. (ВКС); *порткі* — "подштаники, холщовые штаны" (Шпіл., 51).

*Порткі* — 'штаны' (РБС-28); *порткі* — (разм.) штаны, портки, порты (РБС-53, БРС-62). Паводле ДАБМ (карта 326), яно пашырана на ўсходзе Гродзеншчыны і захадзе Міншчыны.

---

[36] Н. К. Соколова. Обиходно-бытовая лексика в языке воронежских грамот XVIII века. Канд. дисс. Воронеж, 1956, стр. 110.

— Укр. (дыял.) *портки* — 'палатняныя штаны'; руск. *портки, порты* — 'штаны'; *портки* — "холщовое исподнее мужское платье, гачи, шаровары; портяное исподнее бельё, подштаники" (Даль, III, 323). У сучасных рускіх гаворках слова *портки* мае значэнне як верхніх, так і споднiх штаноў [37].

Даследчыкі рускай мовы сцвярджаюць, што слова *порты* раней мела значэнне адзення наогул [38] і толькі з XVI ст. яно стала назвай штаноў [39].

Такім чынам, *порткі* — памяншальнае ўтварэнне ад *порты*, якое ад усходнеславянскага *портъ* — 'кусок тканіны, адзенне, покрыва' (Сразн., II, 1753).

Слова *порткі* больш уласціва рускай мове, дзе яно мае шмат вытворных (*порт, портной, портняжить* і г. д.). У даследаваных гаворках яно роднасна толькі слову *парцяны*, аднак цяпер гэтыя словы не маюць нічога агульнага ў значэнні (*парцяны* — 'льняны').

**Спóднія.** Кальсоны. *У споднiх спаць кладавімóсё.* Слова яшчэ поўнасцю не субстантывіравалася, таму можа ўжывацца і ў састаўной назве — **споднія ганавіцы.** Зрэдку можна сустрэць і **споднікі**, але яно выкарыстоўваецца як стылізацыя пад літаратурную мову.

*Споднія* — 'споднікі', Віц. (МДАБМ—24 і інш.), Гом. (МДАБМ—1025).

---

[37] В. П. Строгова. Лексика говоров по течению реки Мсты. Канд. дисс. М., 1955, стр. 151.

[38] А. Петров. Опыт Словаря древних славянских слов и речений. М., 1831.

[39] Н. К. Соколова. Обиходно-бытовая лексика в языке воронежских грамот XVIII в., стр. 110.

*Споднікі* — кальсоны (РБС-53), *споднікі* (разм.) — кальсоны (БРС-62).

— Польск. *spodnie* — 'штаны, кальсоны'; чэшск. *spodky* — 'райтузы, кальсоны'; укр. (дыял.) *сподни* — 'штаны' (Шыла, ПЗГ, 553).

*Споднія* ад *спод*: *спод-н-ія*. Параўн. *спадняк* — 'сподняя палатняная спадніца' (ЛП, 313).

**Ма́йткі** толькі мн. Слова бытуе з тым самым значэннем, што і **споднія**, але выкарыстоўваецца галоўным чынам як стылізацыя пад польскую мову. *Хавай майткі, а то пан ідзе*. Гр.

*Майткі* — 'штаны' (РБС-53), *майткі*—абл. 'штаны' (БРС-62). У беларускіх народных гаворках сустракаецца рэдка (гл. ДАБМ, карта 326).

— Польск. *majtki* — 'панталоны (жаночыя), штаны'. Слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы, у якой яно ад галандскага *maat*, *maatje* — 'марак' (Брукн. 319); як старое, слова *majtek* адзначаецца са значэннем 'марак' (Карл., II, 852).

**Кальсо́ны** толькі мн. *У кальсонах такі цяплей, як у трусох*. Зл.

Слова ўласціва ўсім усходнеславянскім мовам, польскай і інш. Паходзіць з франц. мовы, дзе *caleçons* — 'кальсоны' — перааформленне італьянск. *calzoni* — 'штаны' (споднія) (КЭСРЯ, 139) з лац. *calx, calcis* — 'пята' (Сл., I, 28).

У гаворкі слова трапіла, відаць, з літаратурнае мовы. Аўтары КЭСРЯ паказваюць на польскае пасрэдніцтва (польск. *kalesony*) пры запазычанні слова *кальсоны* рускаю мовай.

У беларускую яно магло трапіць як з польскай, так і з рускай. РБС-53 падае *кальсоны* як паралельнае са *споднікі*. У гаворках кальсоны ўсведамляецца як новае слова.

**Ма́йка** ж. Летняя кашуля без рукавоў і каўняра. *Майкі ўсё маладыя летам носяць пры рабоці, каб ні так гарачо было, а старыя ў сарочках ходзяць, як прыпячэ.* Гр. Слова ўласціва ўсім усходнеславянскім мовам. У беларускай запазычана з рускай, дзе яно — суфіксальнае ўтварэнне ад *май*: *май-ка* (КЭСРЯ). Літаральнае значэнне слова *майка* — 'майская кашуля', г. зн. на цёплую пару года. Спачатку *майка* мела значэнне 'спартыўная кашуля' (СРЯ-61).

**Трусы́** (*трусэ*) толькі мн. Кароткія штаны, якія носяць замест кальсонаў. *Маладыя дак кальсонаў і ні адзяваюць, усё трусэ.* Кр. Слова ўсведамляецца як новае. Бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. У беларускую мову прыйшло з рускай, дзе яно ад англ. *trousers*— 'штаны' (КЭСРЯ, 341).

**Галюфэ́**. Верхнія штаны галіфэ. *Пад боты ўсё было галюфэ шылі.* Гр.

*Галюфэ́* — фанетычны варыянт слова *галіфэ*, якое бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Штаны атрымалі сваю назву ад прозвішча французскага кавалерыйскага генерала *Qallifet* (Фасм., I, 388; СИС).

**Клёш**. *А мой і пад боты і пад чаравікі ўсё клёш носіць, галюфэ ні любіць.* Ст. С.

Слова бытуе ва ўсходнеславянскіх, польскай і іншых мовах. Паходзіць ад франц. *cloche* — 'звон'; перанос назвы адбыўся на асно-

ве падабенства формы штаноў да звона (КЭСРЯ, 150; Фасм., II, 249).

**Пінджа́к** м. Пінжак. *Апрані, дзецятко, пінджак, бо на дварэ халадно стало, а ты ў адной рубасцы ходзіш.* Пл.

У такой форме гэта слова бытуе ў многіх гаворках Гродзеншчыны, на Шклоўшчыне (МДСБМ); на Брэстчыне: *пынджак, пинджак, пинчак* (ЛП, 303).

— Руск. *пиджак,* дыял. *спинжак, пинжак;* укр. *піджак.*

А. Праабражэнскі разглядае слова *пиджак* як запазычанне з англійскай мовы; англ. *pea-jacket* (вымаўляецца *пі-джэкт*) — 'куртка, кароткае паліто з тоўстай, грубай тканіны' (ЭСРЯ, II, 57).

Форма *пінджак* — ад кантамінацыі *пінжак* і *піджак.*

**Касцю́м** м. Верхняе адзенне — штаны клёш і пінжак, пашытыя з аднаго матэрыялу. *Кап касьцюм быў, трэба, кап ганавіцы клёш былі і пінджак з аднаго тавару і таго самаго цьвету.* Гр.

У літаратурнай мове яно мае больш шырокае значэнне — 1) адзенне, 2) мужчынскае (штаны і пінжак) ці жаночае (жакет і спадніца) верхняе адзенне (БРС-62). З гэтым значэннем ужываецца ў рускай і ўкраінскай мовах. У польскай мове *kostium* абазначае, як правіла, толькі дамскі касцюм і спецыяльны ўбор (карнавальны, спартыўны).

Паходзіць слова з франц. мовы; франц. *costume* — 'касцюм, убор' ад італ. *costume* — 'звычай', 'касцюм' (Сл., II, 529).

**Руба́шка** ж. Верхняе адзенне (звычайна з тонкай тканіны) на верхнюю частку цела. *Чаго ты ў адной сароццы поўзаяш, ідзі рубашку нацягні наверх.* Кр. *Наверсі рубашка, а пацсподам — сарочка.* Ст. С.

З такім значэннем слова *рубашка* бытуе на Гродзеншчыне, Полаччыне, Віцебшчыне (ХБД, 14); *рубашка* — 'сарочка, кашуля' (ЛП, 310).

Ён намерыўся схаваць сала пад *рубашку* (К. Чорны. Зб. тв., т. II, 265). Не зарабіў у *рубашцы*, дык не заробіш і ў сярмяжцы (М. Танк. Выбр. тв., 1952, 499). Слова *рубашка* сустракаем у А. Васілевіч (Шляхі-дарогі, 1950, 258) і іншых пісьменнікаў (гл. КТСМБ). Сучасныя беларускія слоўнікі падаюць слова *рубашка* толькі як тэхнічны тэрмін (БРС-62).

— Руск. *рубашка* — 'кашуля, сарочка', славенск. *robača*, с.-х. *рубача* — тс.

Слова *рубашка* прыйшло ў гаворкі з рускай мовы. Лексемы *рубашка* з адзначанай семантыкай не ведаюць украінская, польская, беларуская літаратурная мовы [40].

У рускай мове *рубашка* — памяншальнае ўтварэнне ад *рубаха*, якое ад стараруск. *рубъ* — 'кусок тканіны, дрэнны ўбор' (ЭСРЯ, II, 219). Трываламу замацаванню лексемы *рубашка* ў гаворках садзейнічала імкненне пазбегнуць мнагазначнасці слова *сарочка* (параўн. у белар., руск. і ўкр. літаратурных мовах: *сарочка*: 1) верхняя кашуля, 2) сподняя кашуля).

---

[40] А. С. Аксамітаў. Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі. Мінск, 1958, стар. 21.

**Ку́ртка** ж. Верхняе адзенне з даматканага валенага сукна, без падкладкі, носяць паверх пінжака або замест яго (радзей). *У пальце загарачо будзя, за каравамі ходзячы, апрані бацькаву куртку.* Гр.

*Куртка* — тс., Малар. (МДСБМ); *курта* — тс., Пруж. (Зян.); *куртка, курта* — 'верхняе адзенне', Чэрв. (КСЧ); *курта, куртка* — 'кофта, блузка', Віц. (ВКС); *куртка* — 'кароткае верхняе адзенне з даматканага сукна' (ЛП, 295).

У беларускай літаратурнай мове *куртка* мае значэнне 'кароткая вопратка, якая наглуха зашпіляецца' (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *куртка* — тс., дыял. *куртка* — 'кароткая мужчынская адзежа, без полаў, камізэлька з рукавамі'; 'фуфайка', але куртка звычайна носіцца зверху (Даль, II, 225); укр. *куртка* — тс., польск. *kurtka* — тс., *kurtka* — 'звыклае будзённае адзенне', (Карл., II, 645).

Паводле Я. Карскага, слова *куртка* трапіла ў беларускую мову з польскай. У польскай мове *kurtka*, лічыць Я. Карскі, з цюркск. *k'ürté* — 'від кароткай кофты'.

М. Фасмер бачыць тут запазычанне (праз польскую мову) з лац. *curtus* — 'кароткі' (Фасм., II, 429).

**Паўпа́льта** (*паўпа́льто*) н. Кароткае зімовае паліто. *Паўпальто больш у цёплую зіму носяць. Яно каротко.* Зл.

— Руск. *полупальто,* укр. *півпальто.*

Утворана слова з дапамогаю прэфіксойда **паў-** ад *пальто: паўпальта.* Акцэнтуацыя слова паказвае на польскі ўплыў.

**Паўпа́льтка** (*паўпа́льтко*) н. Паўпаліто. *Паўпальтко апрануў, то цяплей за скацінаю хадзіць, як у пінджаку.* Пл.

*Паўпальтак, паўпальтко* — 'паўпаліто', Ваўк. (Сцяшк.), Слон., Маст. (П. С.).

Бо яму зрабілі новыя боты, пашылі *паўпалітка*, купілі зімовую шапку (А. Карпюк. Дзве сасны). *Паўпальтка* (А. Карпюк. Данута).

*Паўпальтка* — памяншальнае ўтварэнне ад *паўпальта*, але цяпер слова *паўпальтка* не ўсведамляецца як ацэначнае, а выступае як нейтральнае поруч з *паўпальта.*

**Капо́та** ж. Доўгая без падкладкі вопратка з самаробнага валенага сукна, служыць як плашч. *Мо дошч будзя — капоту накінь на плечы.* Гр. *Капоту па кажусі апрані, каб кажух ні прамок.* Вальк.

*Капота* — 'доўгае адзенне', Рад. (МДСБМ); *капота* — 'капот', Чэрв. (КСЧ); *капота* — 'верхняе адзенне, прыгожае' (Шпіл., 43); *капота*: 1) старадаўняе жаночае адзенне, доўгае, прамое, 2) блузка (ЛП, 289).

Дарма што бедны, дарма што ўбогі,— трэба *капоту*, лапаць на ногі (Я. Купала, Выбр. тв., 1952, 61). Глядзіць, аж дзядзька сядзіць на зямлі, раскінуўшы полы доўгай *капоты* (З. Бядуля, IV, 549).

*Капота* — 'жаночае дамашняе адзенне свабоднага крою, халат' (БРС-62); *капота* — 'доўгае няскладнае адзенне' (БРС-62).

—Руск. *капот*—'жаночае дамашняе адзенне свабоднага крою, халат'; дыял. *капот* — 'доўгі сялянскі армяк, кафтан, шынель, плашч' (Даль, II, 83); укр. *капот* — 'капота'; польск.

*kapota*: 1) капота, 2) старадаўні сурдут; *kapota* — 'доўгая сялянская вопратка без падкладкі' (Карл., II, 248); сербск. *kapot*; чэшск. (дыял.) *kapot* — 'плашч з каптуром ад дажджу' (Сл. I, 59).

Н. Гарбачэўскі лічыць слова *капота* старапольскім са значэннем 'сурдут', 'верхняе адзенне ў старажытных палякаў' [41].

Улічваючы супадзенне значэння слова *капота* ў даследаваных гаворках і польскай народнай мове, можна меркаваць, што слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы, дзе *kapota*, паводле А. Брукнера, ад нямецк. *Kapote* (Брукн., 211). Ф. Слаўскі і М. Фасмер адносяць яго да франц. *capote* — 'плашч-дажджавік' (Фасм., II, 187; Сл., I, 58—59).

**Балахóн** м. жартаўл. 1. Тое, што і **капота** (гл.). *Хай гэты балахон нацягня, каб дошч за карк ні ліў.* Дзр. 2. Няўмела пашытае, шырокае і доўгае адзенне. *Трэба пярашыць, а то хто яго* (паліто) *насіцімя, балахон гэты.* Кр.

*Балахон* — 'балахон', 'шырокае верхняе адзенне', Чэрв. (КСЧ); *балахон*: 1) няўмела сшытая, шырокая і доўгая вопратка; 2) бальнічны халат, Глушч. (ДС-60).

Са значэннем свабоднага доўгага халата, кепска сшытага зашырокага адзення слова *балахон* бытуе ў беларускай, рускай, украінскай і польскай мовах.

Як сцвярджае І. Карловіч, у польскай мове *bałachon* з украінскай мовы (Карл., I, 89).

---

[41] Н. Горбачевский. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. Вильно, 1874, стр. 179.

А. Праабражэнскі адносіць *балахон* да запазычанняў з персідскай мовы (ЭСРЯ, I, 14).

У гаворках гэта слова ўжываецца вельмі рэдка, замест яго скарыстоўваецца састаўная назва **капота з башлыком**. *Бало адну капоту клалі ад дажджу, а цяперака капоту з башлыком, каб голаў ні мокла.* Св.

Разгледзім у гэтым раздзеле і словы *шалік, галстук, стужка.*

**Ша́лік.** м. *З пуху зьвязала шалік на зіму на шыю завязваць.* Пл. *Шалік, шаль* — кашнэ, шарф (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *шаль* — 'род вялікай хусткі'; укр. *шаль*, польск. *szalik* — тс.

А. Брукнер адносіць слова да франц. *châle*, якое з персідск. *šāl* — 'від шарсцяной тканіны, плашч з яе' (Брукн., 539; ЭСРЯ, II, 1226). У гаворкі слова трапіла, відаць, з польскай мовы.

**Га́лстук** (**і алстук**) м. Гальштук. *Галстук чорны аддаў Мішы, а белы сабе пакінуў.* Ст. С. *Бяз алстука ні пойдзя на сяло. От кавалер які!* Гр.

Пасля краўца маці сшыла мне *галстук* (З. Бядуля, IV, 530).

*Галстук* і *алстук* бытавалі ў такой форме і ў старабеларускай мове[42]. У сучаснай беларускай літаратурнай мове — *гальштук* (БРС-62).

— Руск. *галстук*, укр. *галстук*, польск. *halsztuk* (А. Брукнер).

---

[42] См.: Н. Горбачевский. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского.

Паходзіць слова ад нямецк. *Halstuci* (ЭСРЯ, I, 118) — 'хустка на шыю' [43].

У сучасных усходнеславянскіх мовах гэта слова захавала сваё першапачатковае значэн не толькі ў назве піянерскага гальштука.

**Сту́жка** (*стушка*) ж. устар. Гальштук. *Як паедзям на вяселё, то стушку завяжы.* Гр. Прадмет атрымаў сваю назву паводле формы (гл. стужка, стар. 145).

## Назвы жаночага адзення

**Су́кня** ж. 1. Сукенка, часцей з шарсцяной, дарагой тканіны. *Натто харошу сукню сабе справіла.* Пл. 2. узнёсл. Сукенка. *Усе ў сукнях на вечары былі.* Зл.

*Сукня* — 'сукенка, спадніца' (ЛП, 314), Случ. (Мал., БНП); *сукня* — "платье вообще из фабричной ткани, особенно мужское" (СБН). А тут якраз і гаспадыня, надзеўшы *сукню* для гасцей, шыбуе важна, як гусыня (Я. Колас, VII, 32).

У старабеларускай мове *сукня* мела шмат значэнняў: 1) ніжняе адзенне наогул (Акты, т. XVII, 987), 2) адзенне з сукна ніжэйшага гатунку (там жа), 3) тканіна з воўны, сукно, 4) кусок сукна пэўнага памеру, 5) вопратка з сукна (Хрэст., 502).

Слоўнікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы па-рознаму вызначаюць семантыку слова *сукня*: *сукня* — 'сукенка з моцнай шар-

[43] У рускай мове XVIII і I паловы XIX стст. ужывалася калька гэтага слова — *шейный платок.* См.: П. Я. Черных. Очерк русской исторической лексикологии. Древнерусский период. М., 1956, стр. 170.

сцяной і да яе падобнай тканіны (РБС-53); *сукня* — разм. 'плацце' (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *сукня* — "одежда, платье, цветной суконный сарафан" (Даль, IV, 358); укр. *сукня* — 'сукенка', польск. *suknia* — тс., чэшск. *suknĕ* — 'спадніца', славенск. *suknia*, балг. *сукман* — 'шарсцяная сукенка', н.- і в.-л. *suk'na* — 'род адзення'.

А. Будзіловіч лічыць слова праславянскім. Паходзіць ад *сукно*, суфік **-j-**: *сукнја*>*сукня*.

**Суке́нка** ж. Плацце. *Добро да цябе ідзе сукенка гэта, лепяй як спаніца з матроскаю.* Кр.

*Сукенка* — 'плацце больш сітцавае, чым суконнае' (СБН).

*Сукенка* — 'плацце' (БРС-62, РБС-53).

— Польск. *sukienka* — 'плацце'.

Слова прыйшло ў беларускую мову з польскай, фанетычная прыкмета паланізма — спалучэнне **ke** [44].

**Спані́ца** ж. Спадніца. *Спаніцэ̆ ўсялякія насілі: і суконныя, і зрэбныя, крамныя і свае работы.* Вар.

У такой форме — *спаніца* — гэта слова бытуе ў многіх гаворках Гродзеншчыны, на Брэстчыне (ЛП, 313); *спаніца*, Навагр. (МДСБМ), Івац. (МДАБМ, 711), Ганц., Лаг., Кап. (МДАБМ, 745), Клец. (МДАБМ, 745); *спанніца*, Рудз. (Ж.-МДК); *спадніца і спадняк*, Чэрв. (КСЧ); *спаднік*, Віц. (ВКС).

---

[44] Паланізмам лічаць гэта слова П. Я. Юргялевіч («Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі». Мінск, 1958, стар. 123) і М. Г. Булахаў («Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы». Мінск, 1961, стар. 154).

— Руск. (дыял.) *исподница* — "рубаха, надетая под сарафан", *исподничка* — 'исподни 'портки', 'подштаники' (Даль, II, 55); укр. *спідниця* — 'спадніца', польск. *spodnica* — тс.; чэшск. *spodky* — 'райтузы, кальсоны'; *spodnice* — 'пярына', *spodnička* — 'сподняя спадніца'.

Паходзіць слова ад *сподні*; суфіксальнае ўтварэнне: *спадн-іц-а*. Форма *спаніца* з ранейшага *спанніца*, якое ад *спадніца*; *спадн-іц-а*. Літаральнае значэнне слова — 'сподняе адзенне', параўн. *сподні* — 'кальсоны'.

**Га́лька** ж. Сподняя спадніца ці кашуля з фабрычнага матэрыялу з упрыгожанымі ніжнімі краямі. *Бало дзяўке галькі насілі так, каб зупчыкі відныя былі.* Гр.

*Галька* — 'сподняя спадніца', Радун., Навагр. (МДСБМ); *галька* — 'сподняя кашуля жанчыны', Малар. (МДСБМ).

— Польск. *halka* — 'кашуля ці спадніца, якую носяць пад сукенкай'; чэшск. *halena* — 'куртка, блузка, кофта'; старое *halena* (і *halina*) — 'спаднічка', сербск. *chalja*, *chalna* — 'спадніца', балг. *халіна* — 'сукенка', с.-х. *chaljka* — 'сукенка'.

Ф. Слаўскі лічыць этымалогію слова няяснай. А. Брукнер бачыць тут утварэнне ад турэцк. *chali* — 'дыван'. І. Карловіч мяркуе, што *halka* ад *hał*, *chał* — 'лахман', румынск. *chajna* — 'сукенка', старанямецк. *haljan* — 'акрываць' (Брукн., 168).

У гаворкі слова трапіла з польскай мовы; актыўным ва ўжыванні яно было на Зэльвеншчыне да 1939 г. Цяпер гэта слова пасіўнага лексікону, яго значэнне ведаюць толькі прадстаўнікі старэйшага і сярэдняга пакалення.

У некаторых гаворках Гродзеншчыны *галька* мае сінонімы: *споднік* — Навагрудчына (МДСБМ) ці *портачка* (гл. ніжэй).

**По́ртачка** ж. Тое, што і **галька** (гл.) *За Польскаю дзяўчата ў портачках зухаваліся, каб зупчыкі відныя былі с-пад спаніцы.* Едн.

*Порцяник*: 1) несуконная спадніца, летнік, фартух; 2) белая палатняная посцілка (ЛП, 307).

— Руск. (дыял.) *портище* — "платье, одежда" (Даль, III, 322). Паходзіць слова *портачка* ад *порт*, суфікс — **ачк**-а (параўн. *порткі*). Літаральнае значэнне слова — 'парцяное адзенне'.

**Ста́нік** м. Бюстгалтар. *Старыя жанке станікаў ні носяць, гэто адно маладыя, каб грудзі стрычалі.* Даўг.

З такім значэннем гэта слова бытуе на Гродзеншчыне; *станік* — 'бюстгалтар', Глушч. (ДС-59).

*Станік* — 'частка жаночай сподняй бялізны — без рукавоў, да пояса, ахоплівае грудзі' (РБС-53); *станік* — абл. 'ліфчык' (БРС-62).

— Польск. *stanik* — 'ліфчык'.

Паходзіць *станік* ад *стан* (пастава): *стан-ік.*

**Ко́фта** ж. Верхняе жаночае адзенне з рукавамі, да пояса, носяць паверх кашулі. *Мані кофту падарыла братавáя.* Зл.

*Копта* — 'кофта' (СБН); *кофта* (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *кофта*, дыял. *кофта* — "женская куртка разного покроя; шугай, телогрея" (Даль, II, 180), укр. *кофта*, польск. *kofta*.

А. Праабражэнскі лічыць магчымым пранікненне слова ў рускую мову з польскай, у якой яно з цюркскіх моў. Аўтары КЭСРЯ, не адмаўляючы польскага пасрэдніцтва, адносяць *кофта* да запазычанняў з германскіх моў: шведск. *kofta*, дацк. *kofte* — 'шырокая сукенка' або 'паліто'.

У гаворках Зэльвеншчыны сярод прадстаўнікоў традыцыйных гаворак яно скарыстоўваецца рэдка. Больш ужывальнае тут слова *матроска* (гл.).

**Матро́ска** ж. Кофта. *Купілі ў лаўцы тавару на матроску мацяры.* Гр.

У сучасных усходнеславянскіх літаратурных мовах слова *матроска* мае значэнне 'матроская блузка з вялікім адкладным каўняром'. Відаць, перанос назвы адбыўся на аснове падабенства формы, параўн. *майткі* — ад назвы штаноў у маракоў (Карл., II, 852).

**Са́чык** м. Кароткая жаночая вопратка ў выглядзе пінжака з фабрычнага матэрыялу. *У сачыку на кярмаш егдзімо, а дома які каптан насунуў на сябе і до́бро.* Св.

*Сачык*, *сачак* — тс., Слон., Радун. (МДСБМ); *сачак* — 'кофта на падкладцы', Ваўк. (Сцяшк.); *сачак* — 'летняя жаночая жакетка', Карэл. (Мат., 158); *сачак* — 'від жаночага адзення, кароткая (крыху ніжэй пояса) куртка на ваце або кудзелі, незалежна ад матэрыялу', Чырв. (Бір.); *сачок* — 'куртка (пінжак у жанчын) з даматканага сукна', Навагр. (МДСБМ); *сачок* — 'кароткая жаночая жакетка на ваце', Бых. (Мат., 89); *сачэк, сачик, сачок* — 'кароткае верхняе суконнае жаночае адзенне' (ЛП, 311—312).

*Сачок* — памянш. ад *сак* — 'жаночае адзенне — шырокае і доўгае' (БРС-62). У старабелар. мове *сак* мела шмат значэнняў [45]: 1) жаночае адзенне, 2) мяшок, 3) рыбацкая сетка, 4) пасудзіна — мера мёду.

— Руск. *сак* (устар.) — 'доўгае і шырокае жаночае паліто'; *сачок*: 1) памянш. ад *сак*; 2) сетка для лоўлі рыбы; укр. *сак* і *сачок* — тс., польск. *saczek* — 'прасторнае жаночае адзенне' (Карл., IV, 8), *sak* — 'летняе мужчынскае паліто'; 'дарожны мяшок'; чэшск. *sak* — 'сачок' (лавіць рыбу). А Праабражэнскі адносіць *сак* (*сачок*) да запазычанняў з грэчаскай мовы, дзе *sakkos*—'шарсцяная тканіна', 'адзенне', 'мяшок' (ЭСРЯ, I, 245—246). І. Карловіч лічыць *сак* агульнаславянскім, запазычаным з грэчаскай мовы, а ў апошняй з лац. *saccus*<сяміцк. *sag* (Карл., IV, 8).

**Ва́лянт** м. Спецыяльны дзявочы вясельны ўбор з лёгкай матэрыі, шоўку, мае выгляд доўгай белай сукенкі з пакрыццём на галаву. *Валянт кладзе маладая, да вянцу ўжэ едуць маладыя.* Гр.

*Вален* — 'вясельны вянок', Чырв. (Бір.).

Глядзела на сваю дачку ў вясельным *валене* (В. Вітка, гл. «Полымя», 1960, № 8, стар. 23). Прыбіралі, як да шлюбу, ў белю і *вэлёны*, запляталі буйны косы ў каснікі чырвоны (Я. Купала, V, 62).

*Вэлюм* — фата (РБС-53).

— Польск. *welon* — 'фата'.

*Валянт* — ад *вален* (<польск. *welon*) на узор слоў *дружбант* (дружко, шафер), *музыкант*.

---

[45] Н. Горбачевский. Словарь, стр. 321.

**Хварту́х** м. Адзенне з лёгкай квяцістай тканіны, якое носяць жанчыны паверх пярэдняй часткі спадніцы. *Цяпер мало хто хвартух носіць, а дайней усе захуваліся хвартухамі ў квятке.* Гр.

*Хвартух* — 'фартух', Чэрв. (КСЧ), (СБН), *хвартук* — тс., Мсцісл. (Юрч.). Паводле МДАБМ, *хвартух* найбольш пашырана на Гродзеншчыне і Брэстчыне.

Стары паклаў жалеза і абцёр аб *хвартух* рукі (К. Чорны); *хвартух* (М. Лобан).

*Фартух* → передник (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *фартук* — 'фартух', дыял. *хвартук* [46], укр. *фартух*, польск. *fartuch* — 'фартух, халат'.

Слова паходзіць з нямецкай мовы; нямецк. *Vortuch* (*vor* — 'перад', *Tuch*—'хустка'). У гаворкі слова трапіла з польскай мовы, на што паказвае арэал яго ў беларускіх гаворках: *фартух* — у гаворках, сумежных з польскімі, на астатняй тэрыторыі — *пярэднік* (МДАБМ).

**Хвартушо́к** м. Маленькі фартух; завязваюць дзецям пад бараду ў часе кармлення. *Ні скідай хвартушка, хай будзя, а то капчаніка папэцкаяш.* Ст. С.

Памяншальнае ўтварэнне ад *хвартух*: *хвартуш-ок.*

### Назвы дзіцячага адзення

Дзіцячае адзенне і галаўныя ўборы звычайна не маюць спецыяльнай назвы. Тут вы-

---

[46] Ф. Поликарпов. Женская крестьянская одежда в селе Истобном Нижнедевицкого уезда Воронежской губернии. — «Труды Воронежской архивной комиссии», вып. IV. Воронеж, 1908, стр. 35.

карыстоўваюцца памяншальныя ўтварэнні ад назваў адпаведнага мужчынскага ці жаночага адзення. Сюды можна аднесці словы **саро́чачка, руба́шачка, суке́начка, шта́нікі, ганавічкі, супо́льнічка, пінджачо́к, пальтачко́, капта́нік, ху́стачка, ша́пачка.**

## Назвы галаўных убораў

**Ша́пка** ж. *Бяс шапкі ўжэ халадно ў голаў.* Зл.

— Руск., укр., балг. *шапка*, польск. *czapka*, чэшск. *čapka*, славацк. *čiapka*, в.-л. *čapka*.

Думкі вучоных пра паходжанне слова спрэчныя. А. Праабражэнскі адносіць *шапка* да групы *капа*, *капка*, дзе **ка** змянілася ў **ча**(<**kja**), але адкуль узнікла **ша**, ён не растлумачвае; далей аўтар сцвярджае, што з балгарскай і сербскай моў слова трапіла ў цюркскія (ЭСРЯ, II, 1227—1228). Цюрколаг Н. К. Дзмітрыеў сцвярджае адваротнае: *шапка* запазычана рускаю мовай з цюркскіх: турэцк. *şapka* — 'капялюш, шапка, фуражка'[47]. Агіенка лічыць, што слова ўзята з польскай мовы, у якой яно з венгерскай. Ф. Слаўскі мяркуе, што *czapka* запазычана польскаю мовай са старафранцузскай (франц. *chape*) праз верхненямецк. *schapel* (Сл., I, 112). Франц. *chape* — 'шапка' — ад лац. *cappa* — 'галаўны ўбор' (КЭСРЯ, Брукн., 72).

**Башлы́к** м. Суконны, цёплы галаўны ўбор, што надзяваецца паверх шапкі. *Башлык можам аччапіць, як мяшая табе.* Св.

---

[47] Н. К. Дмитриев. О тюркских элементах русского словаря. — «Лексикографический сборник», вып. III, 1958, стр. 36.

Слова бытуе ва ўсходнеславянскіх, польскай мовах. Запазычана з цюркскіх моў: турэцк. *bašlyk* — 'пакрыццё на галаву' — ад *baš* — 'галава' (ЭСРЯ, I, 20).

**Кепка** ж. Летняя шапка з казырком. *Вушанка ні выйдзя, а кепку на лето пашыям.* Пл.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Паходзіць з франц. мовы. Франц. *képi* — 'ваенная фурашка' — аформлена пры дапамозе суфікса **-к-**а пад уплывам слова *шапка* (КЭСРЯ, 146).

Ужываецца ў гаворках і састаўная назва **летняя шапка**. Гр., Зл., Дзяр.

**Каўпа́к** м. Зімовы галаўны ўбор конусападобнай ці авальнай формы. *Да вайны і дзет твой у каўпаку хадзіў зімою.* Вар.

— Руск. *колпак*, укр. *ковпак*, польск. *kołpak*, балг. *калпак* і інш.

Запазычанне з цюркскіх моў: турэцк. *kalpak* — 'шапка, абшытая футрам' (ЭСРЯ, I, 338—339; Фасм., II, 297; Сл., II, 373).

**Капу́за** ж. 1. жартаўл., непахв. Пра завялікую шапку. *Капузу адзеў гэту і сьвету ні бачыш!* Св. 2. устар. Шапка з аўчыны (шэрсцю наверх) у выглядзе каўпака. *Капузу пашыў з аўчыны.* Едн.

Польск. *kapuza*. А. Брукнер лічыць з лац. *caputium*, франц. *capuce* (Брукн., 218). Ф. Слаўскі прыводзіць гэта слова з іншых славянскіх моў і адносіць да нямецк. *Kapuze*<італ. *cappuccio*<сярэднелац. *caputium*, адкуль і франц. *capuce* — 'каптур' (Сл., I, 63).

**Ярмо́лка** ж. 1. устар. Конусападобная суконная шапка накшталт каўпака. *Даўней і ярмолкі насілі, а цяпер німа ўжэ йіх.* Гр.

2. жартаўл., непахв. Шапка. *Нашто табе гэта ярмолка, бяс шапкі ідзі, цяпло ўжэ.* Дзяр.

*Ермолка* — "войлочная крестьянская шапка, более конусообразная" (СБН); *ярмолка* — 'маленькая круглая мяккая шапачка' (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *ермолка*, укр. *ярмулка*, польск. *jarmułka* — тс.

А. Праабражэнскі паходжанне слова лічыць няясным, у рускай мове — з польскай. Ён не згодзен, што *ермолка* ад уласнага імя *Ермолай, Ермак*. На яго думку, гэтыя словы не маюць ніякіх адносін між сабою (ЭСРЯ, I, 217). М. Фасмер адносіць да турэцк. *jarmurluk* 'дажджавік' (Фасм., II, 25).

**Магéрка** ж. Слова выкарыстоўваецца толькі як жартаўлівае, непахвальнае (пра шапку). *Кап ты згарэў з гэтаю магеркаю, ні можаш лепшае купіць, ці што?!* Гр.

*Маргелка* — "войлочная крестьянская шапка из тульи" (СБН); *магерка* — "войлочная шапка, шляпа" (БРС-62).

А. Праабражэнскі адзначае гэта слова толькі ў беларускай і польскай мовах: белар. *магерка* — "род белого колпака из белого войлока", польск. *magierka* — 'венгерская шапка'. Ён лічыць, што ў беларускай мове яно з польскай, у апошняй ад венгерск. *maguar* — 'мадзьяр, венгр' (ЭСРЯ, I, 500).

**Капялю́ш** (і **капе́люх**) м. *Цяпер і ў сяле ўжэ хто-бачачы капялюш кладзе.* Дзяр.

— Укр. *капелюх*, польск. *kapeluch, kapelusz.*

У беларускай мове *капялюш* — з польскай, у якой яно бытуе з канца XV ст. і паходзіць

ад лац. *capellus* — 'галаўны ўбор'<*capo* — 'галава' (Брукн., 217; Сл., I, 53, 54).

**Ху́стка** ж. *Бяс хусткі адно маладыя ходзяць у нас, а старыя хусткі завязваюць.* Ст. С.

*Хустка* — памянш. ад *хуста*, Чэрв. (КСЧ), Магіл. (СБН); *хустка* — 'ручнік на іконах', Увар. (ХДБ, 237); *хусце* — 'бялізна' (ПРБС-24); *хуста* — плат (РБС-53); *хустка* — платок (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *хуста* — 'палатно льняное, хустка' (Даль), укр. *хуста* (устар.), *хустка, хустина* (разм.), *хусточка* — 'насоўка', дыял. *фуста* (ЛАУГ, 56), польск. *chustka, chusta* — 'касынка', 'кусок палатна', *chusteczka* — 'насоўка', *chusty* — 'бялізна', славенск. *chust, chustka*, балг. *фуста* — 'спадніца', *фустан* — 'сукенка'.

Паходжанне слова нельга прызнаць высветленым. А. Брукнер адносіць яго да праславянскага **skut* —'адзенне' (Брукн., 186) і лічыць *chustka* ўласна польскім Ф. Слаўскі ўдакладняе гэту думку, паказваючы, што ў польскую мову слова трапіла з украінскай, у якой яно з румынскага *fustă* — 'хустка' (Сл., I, 89—90). Разам з тым Ф. Слаўскі лічыць магчымым набліжаць слова *хустка* да *хутаць*; першапачаткова *хустка* — 'тое, чым хутаюць'. Некаторыя аўтары адносяць *хустка* да ўласна беларускіх слоў [48].

**Ху́стачка** ж. 1. Дзіцячая хустка. *Завяжы, дзеткі, хустачку, а то халадно ў голаў будзя.* Св. 2. Насоўка. *Хустачку з кішэні дастань і выцірай нос, а ні рукавом.* Зл. 3. Трохкутнік

[48] Гл. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1961, стар. 147.

палатна з карункамі для ўпрыгожання (кладуць у верхнюю кішэньку). *У шафяроў усіх хустачке ў кішонках, як на вяселі.* Гр.

— Укр. *хусточка*, польск. *chusteczka* — 'насоўка'.

Г а л я. Лёня! Чаму ў цябе такая брудная *хустачка?* Вазьмі маю (Бярэ ў яго *насоўку*, дае яму чыстую.) Я с і к а ў (Глядзіць на *хустачку*, быццам успамінае нешта.) (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы — «Полымя», № 3, 1961, стар. 21).

Сучасныя беларускія слоўнікі падаюць састаўную назву **насавая хустачка** (як у руск. *носовой платок*).

*Хустачка* — памяншальнае ўтварэнне ад *хустка: хустач-к-а.*

**Канапля́нка** ж. Хустка сярэдняга памеру— не шарсцяная, якую завязваюць паверх лёгкай хусткі, каб было цяплей. *Канаплянка — моцна хустка, завязваям яе ўвосянь і ўвесну, як халадно ў голаў.* Гр.

Слова бытуе на Гродзеншчыне, Брэстчыне; *канаплянка* — 'цёплая хустка', Лях. (Мат., 124); *коноплянка, конопленка* — 'цёплая баваўняная хустка' (ЛП, 293).

Жанчына паспешліва паднялася, паправіла на галаве рабую *канаплянку.* (А. Васілевіч. Пасля вайны). Бабулька крывілася і хавала вушы ў хустку-*канаплянку.* (Б. Сачанка. Дарога ішла праз лес).

Зрэдку сустракаецца і састаўная назва — **канапляная хустка.** *І ў канаплянуй хустцы ні зьмерзьняш, нашто табе велька хустка!* Кр.

На пярэзвы з'явілася адна толькі маці. Заяц пасадзіў яе на покуць і пасля першай

чаркі падарыў цешчы цёплую *канапляную хустку*, каб не змерзла, у госці едучы. (Р. Тармола. Агатка).

Утворана слова ад *канапляны*: *канаплян-к(а)*. Хустка магла атрымаць сваю назву паводле матэрыялу ці падабенства да вырабу з канапель, параўн. *коноплянка* — 'канапляністая' (ЛАУГ, карта 200).

**Казьмяроўка** ж. Расквечаная кашаміравая хустка з прыгожым (з кутасамі) берагам, завязваецца паверх простай хусткі. *Бало адно багатыя дзяўке казьмяроўкі насілі.* Дзяр.

*Казьмірова хустка*, Чэрв. (КСЧ); *кашміроўка*, Віц. (ВКС); *кашымирка, кашмароўка* — тс. (ЛП, 290).

Слова паходзіць ад назвы матэрыялу — *кашамір*, ранейшае *казімір* з польск. мовы (Сл., І, 97): *казімір-аўка*>*казьмяроўка*.

**Мысліноўка** ж. Паркалёвая хустка невялікага памеру, у кветкі. *Мысліноўка на кажан дзень, а казьмяроўка адно на сьвято.* Св.

*Масліноўка* — 'паркалёвая ў кветкі хустка', Віц. (ВКС).

Паходзіць слова ад назвы матэрыялу — *муслін* (франц. *mousseline*): *муслін* → *муслінавая (хустка)* → *мусліноўка* → *мысліноўка*; **у** змянілася на **ы**, параўн. *штурхаць* — *штырхаць* (у гаворках).

**Дубальтоўка** *ж.* Вялікая фабрычнага вырабу суконная хустка, ёю ахутваюць і плечы. *Каб дубальтоўку ўзяла, то і ў плечы цяплей было б.* Гр.

Зрэдку адзначаецца і састаўная назва — **дубальтовая хустка.** *Пазычыла ў Ганны ду-*

*бальтовае хусткі, бо мая дубальтоўка ўжэ старая, брытко ў ёй на кярмаш ехаць.* Даўг.

*Дубальтоўка* ад *дубальтовая хустка; дубальтовы* ад франц. *double*<лац. *dupla* — 'падвойны' (Брукн., 101). Літаральнае значэнне слова *дубальтоўка* — 'падвойная хустка', г. зн. роўная велічынёю і таўшчынёю дзвюм хусткам.

**Ско́сак** м. устар. Невялікая на тры рагі хустка з лёгкай матэрыі, касынка. *Як летам, то і скосак добра на голаў завязаць.* Св.

*Скосак* ⟶ 'коса зрэзаны клін тканіны ці дрэва' (РБС-53, БРС-62).

— Руск. (дыял.) *косок* — 'касынка' (Пособ., 212).

Утворана *скосак* ад *касы*: *с-кос-ак*; прадмет атрымаў назву паводле сваёй формы.

**Касы́нка** ж. Слова ўсведамляецца як новае, часцей скарыстоўваецца ў мове інтэлігенцыі і моладзі. *Маці твая скосак кажа, а маладыя — касынка.* Гр. РБС-53 падае *касынка* як сінонім да слоў *хусцінка* і *хустка.*

— Руск. *косынка*, укр. *косинка.*

Аўтары КЭСРЯ адносяць *касынка* да ўсходнеславянскіх слоў; утворана *касынка* ад *касыня*: *касын-к(а)*.

У гаворкі трапіла слова з літаратурнай мовы.

**Ша́пачка** ж. Жаночы капялюшык ці іншы галаўны ўбор у выглядзе шапкі. *Натто шапачка да цябе ідзе. Ні завязвай ты гэтае хусткі!* Вальк.

Памяншальна-ласкальнае ўтварэнне лексікалізавалася, набыло тэрміналагічнае значэнне.

**Каптýрык** м. Тое, што і **шапачка**; ужываецца часцей сярод старых. *Ні любіш хусткі, усё у каптурыку ходзіш.* Дзяр.

*Коптурик* — 'жановая шапачка' (СБН); *каптур* — 'капор, чепец' (БРС-62).

— Стараруск. *каптур* — 'цёплая шапка' (КЭСРЯ, 141), укр. *коптур*, польск. *kaptur*, чэшск. *kaptour*.

*Каптурык* — ад *каптур*. А. Праабражэнскі адносіць *каптур* да лац. *cappa* — 'род галаўнога ўбору' (ЭСРЯ, I, 294). М. Фасмер лічыць гэту этымалогію спрэчнай, як і аднясенне да паўночнацюркск. *kaptur* — 'мяшок' (Фасм., II, 187—188). Ф. Слаўскі мяркуе, што слова магло быць запазычана з лац. *captūra* — 'лаўленне' (Сл., I, 61).

**Чапéц** м. Даўнейшы галаўны ўбор, які насілі пад хусткаю пажылыя жанчыны. *Ішчэ мая баба ў чапцы хадзіла.* Ст. С.

Агульнаславянскае слова, паходзіць ад кораня *чэп-* (<*kep*: літоўск. *kepure* — 'шапка'), суфікс **-ец** (КЭСРЯ).

## Назвы частак адзення

**Крылó** н. Бакавая частка вопраткі, крысо, пала. *У пінджакох цяперака ўсё круглыя крыла, ні гэдык, як даўней.* Гр. *Адно крыло ў пальце даўжэйшо, ці што?* Зл.

Прадмет атрымаў сваю назву на аснове падабенства да формы крыла птушкі, параўн. у Даля: *крылы* — 'прадметы, формаю ці выглядам падобныя да крылаў птушак або размешчаныя паабапал галоўнага прадмета, це-

ла' (II, 204). *Крыло* ад *крыць*: *кры-л-о* (ЭСРЯ, I, 398).

**Каўнéр** м. *Ад'елася, гаш каўнер у сарбцы ні сходзіцца.* Ст. С.

— Руск. (дыял.) *ковнер*, укр. *комир*, старое *ковнир* и *ковмир*, польск. *kołnież*, славенск. *kolêr*, с.-х. *кольер.*

У беларускую мову слова трапіла з польскай, дзе яно з сярэдневерхненямецк. *kolner*, сучасн. *Koller* — 'каўнер', якое з франц. *collier* — 'нашыйнік', лац. *collare* — тс. (ад *collum* — 'шыя' (Брукн., 247; Сл., II, 367).

**Кішэ́нь** ж. *Кішэнь дзіравая ў пінджаку, і капейкі выпадаюць.* Ст. С.

— Укр. *кишеня*, руск. (дыял.) *кишень*, польск. *kieszeń*, *kieszenia*, славацк. *kešena.*

Паходжанне слова не зусім яснае. I. Бярэзін супастаўляе яго з персідскім *киса* — 'кашэль' [49]. Я. Карскі разглядае яго як утварэнне ад турэцкага *k'ésé*, а ў беларускай мове — з польскай. А. Брукнер таксама сцвярджае, што слова ва ўсходнеславянскія мовы прыйшло з польскай, але, на яго думку, *kieszeń* не ад *kiesa*, бо першае больш старажытнае за другое, лепей спалучаць *kieszeń* з *kiszka* (Брукн., 229). Гэтай думкі трымаюцца М. Фасмер (II, 242) і Ф. Слаўскі (Сл., II, 158).

Калі набліжаць *кішэнь* да таго кораня, што і *кішка*, то можна меркаваць і пра ўласнае ўтварэнне (*кіш-энь*, як і *грэб-ень*,

---

[49] И. Н. Березин. Замечания о восточных словах в областном великорусском словаре. — Материалы для сравнительного и объяснительного словаря русского языка и других славянских наречий. СПб, 1853.

*пляц-ень*), а не запазычанне з польскай; да таго ж у польскай мове спалучэнне **ке**, а ў беларускай **кі**.

**Кішóнка** ж. Верхняя невялікая кішэнь у пінжаку ці камізэльцы. *У кішонку хустачку кладуць, кап харашэй было.* Пл. *Бало ўсе часікі ў кішонцы насілі, і цэпачка вісяла — зухаваліся.* Гр.

*Кішонка* — памянш. ад *кішэнь* (СБН); *кішонка* — 'маленькая сумачка захоўваць грошы', Віц. (ВКС); *кішэнька*, Чэрв. (КСЧ).

*Кішэнька* — *карманчик* (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *кишенька*, польск. *kieszonka.*

Утворана слова пры дапамозе памяншальнага суфікса **-к**(а) ад *кішэнь.* Форма *кішонка* ўзнікла, відаць, на ўзор: *печань — пячонка,* хоць магчымы і ўплыў польскай мовы.

**Кля́па** ж. Адварот на грудной частцы паліто, пінжака; штрыфель, борт. *Кляпы зашырокія ў пінджаку, такіх цяперака ні шыюць* Гр. *Мо прышыям кляпу, каб ні адварочвалася ў пальце?* Ст. С.

*Кляпа* — 'штрыфель', Ваўк. (Сцяшк.), Радун., Навагр. МДСБМ); *кляпа* — 'лацкан' (РБС-28); *кляп і кляпа* — 'борт' (ЛП, 291).

— Польск. *klapa* — 'штрыфель, борт', чэшск., славацк. *klapka* — тс., славенск. *klâpka* — тс., балг. *клапа* — тс.

Слова прыйшло ў гаворкі з польскай мовы (Сл., II, 1861), польск. *klapa* з нямецк. *Klappe* (Брукн., 232).

**Рукáў** м. *Задоўгія рукавэ пусьціла ў сачыку краўчыха.* Гр.

Агульнаславянскае слова, утворана ад *рука*: *рук-аў.* А. Праабражэнскі разглядае яго

як пераклад лацінскага *manica* (ЭСРЯ, II, 222—223).

**Гіцаль** (*гіццаль*) м. Пятля, прышытая да адзення, каб яго вешаць. *Гіццаль адарваўсё, то як ты павесіш пінджак?* Яр.

Слова малаўжывальнае, характэрнае для традыцыйных гаворак, часцей выкарыстоўваецца цяпер як жартаўлівае. З іншымі значэннямі ('сабакалоў', 'свавольнік') сустракаецца часцей.

*Гіцаль* — "петля из лоскутика для вешанья одежды"; "озорник", Чэрв. (КСЧ), Віц. (ВКС).

*Гіцаль*: 1) вешалка; 2) скуралуп, 3) свавольнік (БРС-62).

— Польск *hycel* → 'скуралуп; свавольнік; лотра, гультай' і інш. (Карл., II, 68).

А. Брукнер адносіць яго да нямецк. *Hitzel* — 'скуралуп; свавольнік' (Брукн., 174).

Са значэннем вешалка слова *гіцаль* — уласна беларускае, развіццё значэння ішло, відаць, такім чынам: 'гіцаль' → 'скуралуп' → 'лавец сабак' → 'пятля, якой ловяць сабак' → 'пятля ў адзенні'.

Доўгі гук **ц**, магчыма, паказвае на тое, што слова непасрэдна запазычана з нямецкай мовы (параўн. нямецк. *Hitzel*, чытаецца *гіццаль*).

**Во́чапка** ж. Слова бытуе з тым самым значэннем, што і разгледжанае *гіццаль*, але выступае як больш ужывальнае і нейтральнае. *Вочапку з раменю прышыў кажух вешаць.* Гр.

*Почапка* — 'вешалка' (РБС-28); *вочапка*: 1) вешалка, 2) ручка вядра, 3) раменьчык у цэпе (БРС-62).

Утворана слова ад *вочап* (суфікс **-к**(а), корань той, што і ў словах *счапіць, зачапіць, пачапіць*.

**Ве́шалка** ж. Тое, што і **вочапка.** Слова ўсведамляецца як новае, скарыстоўваецца ў афіцыйнай гаворцы. *Вешалку адарвалі, як жакет вешалі.* Зл. Бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Утворана ад *вешаць*: *веша-лка* (як і *сеялка*).

**Кле́шня** ж. Частка штаноў — калоша, калашына. *Як вускія клешні ў ганавіцах, то і нагі ні сагнеш.* Кр.

*Клешня* — 'калоша', Ваўк. (Сцяшк.); *калошня,* Шкл. (МДСБМ); *калоша*, Глушч. (ДС-60); *клашня*—'штаніна' (ЛП, 293), *клешня* — 'ниченка' (ЛП, 217).

*Калашына, калоша* — штанина (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *халоша*, руск. (дыял.) *калоша* — 'штанина' (Даль, II, 142), стараслав. *клашнѧ*, балг. *клашник*, сербск. *клашнья*, харвацк. *klasenja.*

А. Будзіловіч адносіць слова *калоша* да праславянскіх. М. Фасмер лічыць раманскім: франц. *galoche*, італ. *galoscia* (II, 170).

Форма *клешня* ўзнікла, відаць, у выніку пераносу: '*клешня*'→'нага рака'→'нага чалавека', →'калоша', параўн. у Даля: Взвалился на лошадь, так раскинь *клешни* (II, 118).

Магчыма, што раней гэта частка штаноў абазначалася ў гаворках словам *калоша*, якое цяпер бытуе са значэннем 'ануча вакол лыткі ў жняі'. Пазней з мэтай дыферэнцыяцыі калашыну маглі назваць словам *клешня*, параўн. *крыло* (гл.).

**Кліны́** (*клінэ*) толькі мн. Прарэх у штанах. *Нешто гапкі завелькія, гузікі ў клінох рашпіляюцца.* Кр.

*Кліны* — 'прарэх у штанах', Маст., Ваўк. (П. С.), Маладз. (Мат., 100); *клін*: 1) клін (у адзенні); 2) прарэх у штанах (ЛП, 291).

Прадмет атрымаў сваю назву па сумежнасці.

**Зако́ты** толькі мн. Адварот на канцы калошы ці рукава. *Бало ўсё з закотамі ганавіцы шылі, а цяперака без закотаў.* Гр. *Рубашка адно святэчная з закотамі, а будзённая без закотаў.* Ст. С.

*Закотки, закоты, закота*: 1) каўнер; 2) манжэта (ЛП, 287).

— Укр. *закота* — 'абшлаг у штаніне' (Грынч., II, 53). Паходзіць слова ад *закотваць* 'адварочваць рукаў, калошу', якое бытуе ў гаворках: *закотваць — закота, закоты.*

**Манке́т** м. Прышыты абшлаг у сарочцы ці блузцы. *Натто манкеты заношваюцца, хоць ты йіх атпорвай.* Кр.

*Манкат, манкэт* — тс. (ЛП, 297).

— Польск. *mankiet*. А. Брукнер адносіць гэта слова да італ. *manichetto* (Брукн., 321). У гаворкі слова прыйшло з польскай мовы, ужываецца рэдка.

**Манжэ́т** м. Тое, што і **манкет**; усведамляецца як новае. *Хоча, кап шыла сарочку без манжэтаў, бо ні любіць зашпіляць.* Кр.

*Манжэта* (БРС-62, РБС-53); руск., укр. *манжета.*

Слова паходзіць ад франц. *manchette* — 'рукаўчык' (ЭСРЯ, I, 58; Фасм. II, 568—569).

Прыйшло ў гаворкі з літаратурнае мовы. Сутыкнуўшыся з *манкет*, набыло родавую форму апошняга.

**Каўнéрык** м. Тое, што і **манкет, манжэт.** *Каўнер кругá шыі, а каўнерык, што круга рукі.* Едн.

*Коўнерык, коўнирац, комнирыць*: 1) манжэта, 2) каўнер (ЛП, 291).

Ад *каўнер: каўнер-ык,* памяншальны суфікс **-ык** набыў тэрміналагічнае значэнне.

**Плéчы** толькі мн. 1. Нашыўка на плечавую частку сарочкі. *Каб ні так дралася сарочка, плечы нашываям.* Св. 2. Верхняя частка адзення на стыку пярэдняй і задняй частак яго. *Плечы распароліся па шве.* Кр. 3. Падкладка (з ваты, кудзелі) пад плечы ў вопратцы; плячук. *Бяры вату і плечы рабі.* Пл.

Частка адзення атрымала назву ад часткі цела чалавека.

**Праéрх** м. Прарэх у кашулі, сарочцы. *Праерх ні зашпіліць і так расхрэстаны ходзіць!* Гр.

*Праерх* — 'прарэх', Слон., Навагр. (МДСБМ); *праех*, Глушч. (ДС-59).

*Праерх* ад *прарэх* у выніку перастаноўкі гукаў **е, р.** *Прарэх* А. Праабражэнскі адносіць да *рѣдхъ* 'рэдкі', суфікс **-хъ.**

**Лéі** (*лейі*) толькі мн. Настаўка з моцнага матэрыялу на калені і заднюю частку ў галіфэ. *Каб лейі даў, то ішчэ можно было б насіць галюфэ.* Дзяр.

Слова запазычана з французскай мовы; франц. *lé* — 'полка' (пала); першапачаткова — 'нашыўка са скуры, сукна на кавалерыйскіх штанах у месцах дотыку да сядла' (ТСРЯ, II,

41). З апошнім значэннем *леі* бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах.

**Хля́сцік** (*хлясьцік*) м. 1. Вузкая палоска тканіны, прышытая ці прышпіленая ззаду, каб сцягваць адзенне ў таліі. *У шынялі хлясьцік прышпіляяцца гузікамі.* Пл. 2. Стужачка на казырку летняй шапкі. *У шапцы хлясьцік адарваўсё.* Кр. 3. Накладка ў прарэсе адзення. *Гапак замного ў хлясьціку, надаядая клінэ зашпіляць.* Гр.

Слова *хлясцік* са значэннем 'палоска тканіны сцягваць адзенне ў таліі' бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх літаратурных мовах. Паходзіць, відаць, ад *хлястаць* : *хлясц-ік.*

**Паясні́ца** (*паясьніца*) ж. Частка адзення (штаноў і г. д.), якая ахоплівае паясніцу. *Ганавіцы зашырокія ў паясьніцы.* Пл. Прадмет атрымаў сваю назву ў выніку метанімічнага пераносу (адносіны: адно на адным). *Паясніца* ад *пояс: паяс-ніца* (ЭСРЯ, II, 120).

**Падо́лак** м. Ніжняя частка сукенкі, сарочкі, спадніцы; падол. *У сароццы падолак падраўсё.* Ст. С.

*Падолок, подол*—тс. (ЛП, 305); *подолок*—тс. (СБН).

Вось выплыла сонца і тчэ на *падолку* тканіны кужэльнай святло (Я. Колас, VII, 355).

*Падол* — 'ніжняя частка адзення' (КСЧ, ВКС). *Падол* — (платья) подол (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *подол* — тс., укр. *поділ,* памянш. *поділок*; польск. *podołek*, чэшск. *podołek* — тс.

*Падолак* — памяншальнае ўтварэнне ад *падол*, апошняе з *па долу* (КЭСРЯ).

*Падолак* адзначаецца і ў старабеларускай мове[50].

**Прыпо́л** м. 1. Прыпаднятая ніжняя (пярэдняя) частка адзення (сукенкі, спадніцы, кашулі), у якой што-небудзь нясуць; 2) Мера рэчыва, якое змяшчаецца ў прыполе. *У прыпол пазьбірай яблыкі.* Ст. С. *Цэлы прыпол яблыкаў за раз зьзелі*! Кр.

*Прыпол* — 'ніжняя частка палы' (СБН); *прыпол* — "передняя пола платья, в которой что-нибудзь несут" (БС).

*Прыпол* — подол (нижний передний край платья) (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *припол* — "полы одежи, а более пола, собранная кошелем и нагруженная чем-либо, как пригоршня"; *приполок, приполье* — "количество чего-либо, забранное в припол" (Даль, III, 435).

Паходзіць *прыпол* ад таго кораня, што і *пала* : *пры-пол.*

**По́лка** ж. Частка адзення — адна з дзвюх падоўжных палосаў у сарочцы, кашулі. *Сарочку з дзвёх полак шыям.* Гр.

*Полка* — 'прыпол', Чэрв. (КСЧ).

*Полка*: 1) полотнище (кусок ткани), 2) абл. пелёнка (БРС-62).

Утворана слова ад *пала*, памяншальны суфікс **-к**(а): *пол-ка.*

**Цві́кля** ж. Клін у пройме рукава. *У сароццы цвікля замалая.* Едн. *Цвыхэль, цвыхлык, цвыхаль* — 'цвікля' (ЛП, 317).

---

[50] И. Носович. Алфавитный указатель старинных белорусских слов, извлеченных из актов, относящихся к истории Западной России, изданных в 1853 г. (Архіў бібліятэкі АН СССР у Ленінградзе).

*Цвікля* — ласточица (БРС-62).

Запазычанне праз польскае *cwikiel* 'цвікля' з нямецк. *Zwickel*—'клін', ад *zwiken* — 'шчыпаць' (Брукн., 68).

Слова малаўжывальнае, бытуе толькі ў мове самых старых, моладзь не ўжывае і не разумее яго.

**Па́зуха** ж. Частка сарочкі (кашулі) ад грудзей да пояса. *Усю пазуху ў сароцци выдраў*. Кр.

Слова бытуе ў многіх славянскіх мовах. А. Брукнер адносіць яго да *паз* (суфікс **-ух**-а), параўноўваючы з чэшск. *podpažek* — 'паха'; *паха* — скарочанае ад *пазуха* (Брукн., 400).

**Абшэ́ўка** (апшэўка) ж. Вузкая палоска на канцы рукава ці каўняра. ў сарочцы. *Апшэўку даем, каб мацнейшы рукаў быў*. Св.

*Абшыўка* — тс. (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *обшивка*, укр. *обшивка*, польск. *obszywka*, старое *obszewka*.

У форме *абшэўка* слова, відаць, замацавалася пад уплывам польскай мовы[51], дзе *obszewka* ад *szew* (Брукн., 549).

**Падшэ́ўка** (*пачшэўка*) ж. Сподняя частка вопраткі, падкладка. *Вата паўлазіла с-пат пачшэўкі ў пальце*. Гр.

Гэта кароценькая вопратка была паношана: месцамі ўнізе ў ёй вісела, з-пад адпоратай *падшэўкі*, вата (К. Чорны. Раманы і аповесці, 1951, стар. 262).

---

[51] Параўн. у А. Шахматава: «Пскоўскае *адэнье* замест *одонье* таксама паказвае на польскі ўплыў (К вопросу о польском влиянии на древнерусские говоры. РФВ, т. XIX. Варшава, 1913, стр. 10, сноска).

*Падшэўка* — подкладка; *падшыўка* — подбивка (БРС-62); *падшэўка* абл.— подладка (РБС-53).

— Польск. *podszewka* (Карл., IV, 425).

Утворана слова ад *падшываць: падшыў-ка.* Форма *падшэўка* — відаць, пад уплывам польскай мовы.

**По́дбіўка** (і **подвіўка**) ж. Цёплая падкладка ў вопратцы. *У ясёнцы подбіўку танчэйшу трэба, як у пальце.* Ст. С. *Кап подвіўку выкінуў — ляхчэйшо пальто было п.* Кп.

*Подбіўка*—'цёплая падкладка', Бых (Мат., 89), Глушч. (ДС-59), Навагр. (МДСБМ).

*Падбіўка* — 'подбивка' (БРС-62), 'цёплая падкладка' (РБС-53).

Утворана слова ад *падбіваць* 'падшываць цёплую падкладку': *падбіў-ка.* Націск перацягнуты на прыстаўку пад уплывам слоў тыпу *затычка, засаўка*; параўн. *по́дкладка* — 'падкладка' ў РБС-37.

**Падбіцце** (*падбіцё*) н. Слова сустракаецца толькі спарадычна з тым самым значэннем, што і **по́дбіўка**. *Хай тую кудзелю бярэ на падбіцё ў пальто.* Св.

*Падбіццё* і *падбіцце* — 'падкладка', Чырв. (Бір.), Чэрв. (КСЧ).

— Укр. *підбіття* — 'падкладка', польск. *podbicie* — тс.

Утворана слова ад *падбіць*, суфікс -j -о: *падбіц-j-о>падбіцце*, параўн. *падшыццё* — 'падкладка' ў Насовіча (СБН).

**Падкла́дка** (*паткладка*) ж. Слова ўсведамляецца як новае. *Верх ішчэ цэлы, а паткладка ўся паляцела.* Кр. Слова бытуе ва ўсіх усход-

неславянскіх мовах. Утворана ад *падклад-ваць* : *падклад-ка.*

**Верх** м. Матэрыял, верхняя частка вопраткі, шапкі. *Верх ішчэ добры, а патклатка падралася ў пінджаку.* Св. *От харошы верх у шапцы!* Зл.

Агульнаславянскае слова. Частка адзення атрымала назву ў выніку метанімічнага пераносу.

**Казырóк** м. *Бяз казырка шапка зімова.* Пл.

Усходнеславянскае слова. Утворана ад *козыр* (суфікс **-ок**), якое спарадычна сустракаецца ў гаворках. *Козыр* ад старажытнага *козъ* — 'прадаўгаваты скураны аколушак' (КЭСРЯ).

**Рог** (*рох*) м. Адзін з двух канцоў хусткі, якімі яна падвязваецца вакол шыі. *Яг даўней, то ўсё рогі пад бараду завязвалі, а цяперака ўсё назат.* Пл.

Валасы яе густа выбіваліся з-пад сіняй хусцінкі, завязанай *рагамі* пад бараду (К. Чорны).

*Рог* — 1) рог (каровы), 2) угол платка, угол улицы, угол стола (БРС-62).

Прадмет атрымаў сваю назву на аснове падабенства формы (метафарычны перанос), параўн. ніжненямецк. *regен, ragen*—'тырчаць' (ЭСРЯ, II, 207).

**Бéраг** (*берах*) м. Каляровая палоска на краі хусткі. *У казьмяроўцы натто харошы берах.* Кр.

*Бераг*: 1) берег (реки), 2) край (сосуда), 3) край (ткани) (БРС-62).

Прадмет атрымаў сваю назву на аснове метанімічнага пераносу (сумежнасць).

## Назвы прыладаў, прыстасаванняў зашпільваць адзенне

**Гу́зік** м. *Гузік адарваўсё, таму і расхрэстаны хаджу.* Св.

*Гуз* — 'гузік', Малар. (МДСБМ); *гузѣк* — "пуговица" (АУСБС). *Гузік* — пуговица (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *гудзик* — 'гузік', руск. (дыял.) *гузик* — *тс.* (Даль, I, 406), польск. *guzik* — тс.

Ф. Слаўскі, спасылаючыся на Бернекера, адносіць слова *гузік* ва ўсходнеславянскіх мовах да запазычанняў з польскай мовы (Сл., I, 381). А. Брукнер разглядае яго як вытворнае ад *гуз* — 'нарасцень' (Брукн., 164).

**Гаплю́к** м. Металічны кручок зашпільваць адзенне. *Пальто пад барадою ні зашпіляяцца, гаплюк адарваўсё.* Св.

*Гаплюк* — 'гаплік' Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Жалуд. (ДС-60); *гаплюк, гоплюк, гаплык* (ЛП, 285); *гаплік*, Случ. (Серж.), Магіл. (СБН); *аплік*, Чэрв. (КСЧ). Глушч. (ДС-59). *Гаплік* — крючек (в одежде) (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *гаплик* — 'кручок у адзенні'; руск. (дыял.) *гаплик, гаплюк* — "проволочная петелька к одежде; петелька с крючком, застежка" (Даль, I, 344); *гаплюк* — "крючек", *гаплючек* — "крючек в шубе" (СОС, 16); польск. *heftlik, heflik* — 'гаплік'.

У форме *гаплюк* гэта слова Я. Карскі адносіў да запазычанняў з цюркскіх моў (відаць, на падставе элемента — **юк**, параўн. *каблук, капшук, сундук*). Даль, Брукнер, Фасмер лічаць слова нямецкім: нямецк. *Haftel, Heftel*—

'засцежка, шпілька' (Фасм., I, 392; Брукн., 167).

**Га́пка** ж. Металічная пятля для гапліка. *Гаплюк разагнуўсё, у гапку ні лезя.* Кр. 2. Прарэшак для гузіка. *Гапку зашыю, каб менша была, а то гузік рашпіляяцца.* Гр. 3. Пятля з іркі ў кажусе. *Для кажуха гапку доўгу робяць з йірхі.* Ст. С.

*Гапка* — 'разрэз, праз які праходзіць гузік пры зашпільванні', Глушч. (Мат., 112); *афтка* — тс., Радун. (МДСБМ); *гапліца* — тс., Случ. (Серж.); *гаплічка* — тс., Радашк. (МДСБМ); *аплічка* — (МДСБМ); *аплічка* — тс., Шкл. (МДСБМ); *гаптачка,* Чэрв. (КСЧ); *гапка, гапэлька, гаплічка, гаплечка*—тс. (ЛП, 284—285).

*Гафтачка* — 'пятля для гапліка' (РБС-53, БРС-62), *гаптачка* — тс. (БРС-62).

— Укр. *гапка*—'гафтачка' (Грынч., I, 271), руск. (дыял.) *гапелька* (Даль, I, 344), польск. *haftka, haptka, apťka, japtka;* 1) гафтачка, 2) клямарка, 3) кольца на слупе (Карл., II, 4).

Ф. Слаўскі адносіць *гафтка* і *гафтачка* ў беларускай мове да запазычанняў з польскай мовы, польск. *haftka* ад *hafťa*, якое з нямецк. *Heft*,< лац. *capio* — 'хапаю' (Сл., I, 390; Брукн., 167). Форма *гапка* з польск. *haptka* ў выніку выпадзення **т** пры збегу зычных.

**Біру́лька** ж. устар. Невялікая палачка (з зарубкай пасярэдзіне), якая пратыкалася ў прарэшак замест гузіка. *Ішчэ твой дзет бірулькаю ганавіцы затыкаў.* Гр.

*Бірка* — 'палачка, ужытая замест гузіка', Мсцісл. (Юрч.).

*Бірулька*: 1) брелок, 2) бирюлька (БРС-62).

А. Праабражэнскі і Гараеў адносяць слова *бірулька* да ранейшага *бирати*. У такім разе: *бір-уль-ка*. М. Фасмер выказвае сумненне ў правільнасці такой этымалогіі (Фасм., І, 168).

**За́панка** ж. Засцяжка, якая ўсаджваецца ў прарэшкі мужчынскай сарочкі, запінка. *Запанкі пагубяцца, а гузік не, таму і лепяй.* Дзяр.

*Запанка* (РБС-37), *запінка* — запонка (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *запонка*, укр. *запонка*, чэшск. *zapona, zaponka* — 'засцяжка, спражка', польск. *zapinka*, славенск. *zapona*, с.-х. *запонка* — 'засцяжка, пятля ў адзенні', в.-л. *spona*.

Агульнаславянскае слова, утворана ад *запона*, суфікс-**к**(а); *запона* ад *запнѧти* — 'затыкаць' (ЭСРЯ, II, 168).

**Кно́пка** ж. Металічная засцяжка з дзвюх частак, адна ўваходзіць у другую. *Матроска кнопкамі зашпіляяцца.* Пл.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах. Аўтары КЭСРЯ адносяць яго да галандск. *knoop*; перааформлена на ўзор назоўнікаў на **-ка** (*шапка* і пад) (КЭСРЯ, 153). М. Фасмер лічыць, што *кнопка* з новаверхненямецк. *knopf* — 'гузік, кнопка' (Фасм., II, 264).

**Мату́з** (*мо́тус*) м. Адзін з двух шырокіх палатняных шнуркоў для завязвання (зашпільвання) адзення. *Ганавіцы бало матузом завязвалі, а ні зашпілялі на гузікі.* Вар.

*Матуз* — тс., Докш., (Мат., 74); *мотузы* — "нитяные шнуры при юбке или кальсонах"

(БС); *мотуз* (СБН), *мотуз* (КСЧ); *матузіна*— 'асобны матуз', Мсцісл. (Юрч.). Слова сустракаецца ў многіх беларускіх пісьменнікаў (КТСБМ).

*Матуз*: 1) бечёвка, верёвочка; 2) завязки, тесёмки (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *мотоуз* — 'шнурок, завязка'; *мотузок* — 'завязка ў каўняры сарочкі' (Даль, II, 351). Даль разглядае слова як складанае; *матуз* — ад *матаць* і *вязаць* (II, 351).

**По́двязка** (*по́двяска*) ж. Матузок падвязваць панчохі. *Панчоха ападая, як подвяска разьвяжацца.* Св.

*Подвязка* — (принадлежность туалета) подвязка (БРС-62).

Утворана слова ад *падвязваць* (*падвяз-ка*) з перацягваннем націску на прыстаўку (параўн. *подбіўка*).

**Папру́га** ж. Скураная падпяразка да штаноў ці вопраткі. *Патпяражыся папругаю, усё цяплей будзя ў пальце.* Ст. С.

Паводле ДАБМ (карта 327), слова *папруга* бытуе на большай частцы Беларусі (поўдзень рэспублікі).

*Папруга* — 1) ремень, ременный пояс, 2) подпруга, трок, подседельник (РБС-53, БРС-62).

— Укр. *попруга* — 'рэмень у сядле'; *папруга* і *попруга*, памянш. *попружка* — 'папруга' (Лыс., СЛЛ, 40); руск. *подпруга* — 'частка шлеяў', дыял. *попруга* — 'рэмень' (Даль, III, 197), польск. *popręg*—'рэмень у сядле', чэшск. *popruh* — 'лямка, рэмень'.

А. Праабражэнскі адносіць слова да таго кораня, што і ў словах *пруг, пружына, запрагаць* (ЭСРЯ, II, 137).

**Папру́жка** ж. Слова бытуе з тым значэннем, што і **папруга**, хоць у асобных выпадках захоўвае яшчэ сваё ацэначнае адценне. *Цяперака і бяс папрушкі ганавіцы носяць.* Кр.

*Папружка* — памяншальнае ўтварэнне ад *папруга*, суфікс **-к**('а). Ацэначнае адценне знікае ў слове *папружка*, відаць, таму, што тут адбываецца дыферэнцыяцыя значэння: *папруга*: 1) рэмень і 2) частка вупражы, *папружка* — толькі 'падпяразка'.

**Папру́жачка** ж. Памяншальна-ласкальнае ад *папружка. Дай хлопцу папружачкі патпяразацца.* Яр.

**По́яс** м. 1. Жаночая падпяразка. 2. Спавівач. *Пояс выткала дзіця спавіваць.* Гр.

Агульнаславянскае слова; паходзіць ад *поясати* — 'апаясваць', якое з *ясати*, параўн. усходнесл. *ясало* — 'пояс' (ЭСРЯ, II, 120, КЭСРЯ, 265).

Разгледзім тут і спецыфічныя назвы дзіцячага пояса, а таксама назву спражкі.

**Спаві́віч** (і **спавіва́ч**) м. Пояс, якім спавіваюць малых дзяцей. *Бяс спавівіча ні хоча спаць малоё, рукі дастае, вочы трэ.* Кр. *Спавівачо́м як спры́ціш, то сьпіць* (*дзіця*). Гр.

*Спавівач* і *спавівіч* — тс. (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *сповивыш* — 'свивальник' (Даль, IV, 293), укр. *сповивач*, дыял. *повивач, уповивач, повуйник* (ЛАУГ, II, карта 154).

Утворана слова ад *спавіваць : спавів-ач, спавів-іч.*

**Спро́нжка** (*спроншка*) ж. Металічная частка папругі, спражка. *Спроншкаю здаў, як папругаю дзяжыў.* Ст. С.

*Спронжка* — 'спражка', Маладз. (Мат., 106), Радашк., Навагр. (МДСБМ); *спрондэжка* — 'спражка', Чэрв. (КСЧ); *спроншка, спражка, спрашка* (ЛП, 309).

На меднай *спронжцы* лось красуе і з жоўтай бляхаю фасуе (Я. Колас).

*Спражка* — пряжка (РБС-53, БРС-62).

— Руск. *пряжка,* укр. *пряжка,* польск, *sprączka,* ранейшае *sprąga pręga* (Брукнер), чэшск. *prežka* — 'спражка', засцяжка.

*Спронжка* ад польск *sprążka* з ранейшага *sprąga<pręga,* корань той, што і ў слове *папруга* (Брукн., 436).

## НАЗВЫ САМАРОБНАЙ ТКАНІНЫ

**Палатнó** н. Льняная тканіна, выраблёная ў дамашніх умовах. *Бало за дзень гібу палатна вытыкаяш.* Зл.

*Палатно* — агульнаславянскае слова, ва ўсходнеславянскіх помніках адзначаецца з XIII ст.

Палатно з *poltьno*, якое ад *плат-*; суфікс **-но** (<**-ьно**); корань *polt* мае значэнне 'тое, што складзена'[52], індаеўрапейскі корань **pelt*— 'складваць, згібаць, скручваць' (ЭСРЯ, II, 97).

**Плацéнка** (*плацéнко*) н. Тканіна з ільняных і суконных нітак (кужэльная аснова патыкаецца суконнымі ніткамі). *С плаценка шыям спаніцэ і верхнія ганавіцы.* Кр.

— Укр. *полотенко*, руск. (дыял.) *платёнко* — 'адзенне' (Даль, III, 121), польск. *płócienko*: 1) палатно, 2) палатно з каляровых нітак, якое ідзе на жаночае ўбранне (Карл., IV, 266).

Слова прыйшло ў гаворкі, відаць, з польскай мовы, на што паказвае семантычная блізкасць *płócienko* і *плаценко*, арэал апошняга ў беларускіх народных гаворках і няпоўнагалосная форма (*плаценка* замест усходнеславянск. *палаценка*).

---

[52] А. М. Селищев. Славянское языкознание, т. I. М., 1941, стр. 13.

**Сукно́** н. *Сукна наткала на пінджаке хлопцам.* Вар.

Агульнаславянскае слова, ва ўсходнеславянскіх помніках фіксуецца з XII ст. са значэннем 'кусок сукна пэўнай меры', а з XIII ст.— 'шэрсць, тканіна з шэрсці' (Сразн., III, 615).

Утворана слова *сукно* ад *сукаць* : *сук-но* (ЭСРЯ, I, 416), параўн. літоўск. *suku, sukti* — 'круціць'.

**Ку́жаль** м. Палатно вышэйшага гатунку— з чэсанага лёну. *С кужалю як што найлепшо шыюць.* Св.

Акрамя тканіны, слова *кужаль* абазначае і сам чэсаны лён, і пражу з яго. Гр., Зл., Кр.

*Кужаль*: 1) холст (тонкий), 2) лён (очёсанный) (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *кужель* (КЯОС, 98), укр. *кужіль*, польск. *kużel*, чэшск. *kužel*, балг. *къжел.*

А. Праабражэнскі адносіць *кужаль* да таго кораня, што і *кудзеля* (ЭСРЯ, I, 405).

У старабеларускай мове *кужаль* ужывалася са значэннем 'льняное палатно' (Гарбачэўскі. Слоўнік, стар. 189). Адсюль яно трапіла, відаць, у польскую мову: Карловіч разглядае слова *кужаль* у польскай мове як запазычанне з беларускай ці ўкраінскай моў. (Карл., II, 653).

Спарадычна сустракаецца ў гаворках і састаўная назва — **кужэльнае палатно** (*кужолно палатно*), відаць, з мэтай пазбегнуць мнагазначнасці слова *кужаль*. *Кужолнаго палатна пазыч, я сваё вытку, то аддам.* Гр.

**Зрэ́бі** толькі мн. Палатно ніжэйшага гатунку — з адыходаў лёну пры часанні. *Зрэбі добро і моцно палатно, аля коляцца трохі.* Кр.

Акрамя палатна, слова абазначае саму кудзелю з ачоскаў і ніткі з яе. *Зрэб'е* — веретье, посконина, посконь (БРС-62).

У старабеларускай мове *згребье* — 'вычаскі, ачоскі, пакулле' (Хрэст., 470).

*Зрэбі*—з райнешага *згрэб'е*, якое ад *згрэбці* : *згрэб-j-э*. Літаральнае значэнне — 'згрэбенае'. Палатно атрымала сваю назву ад кудзелі. Спарадычна сустракаецца і састаўная назва **зрэбнае палатно**, параўн. *згребница* ў старабеларускай мове [53].

**Радня́ніца** ж. Грубая тканіна з атрэпкаў лёну, з яе шыюць радно (гл.), мяшкі. *З радняніцы радзюшке́, ра́дна шыям, а з горшае — мяшке.* Ст. С. Слова абазначае таксама ніткі і кудзелю з атрэпкаў.

Спарадычна сустракаецца і састаўная назва — **раднянае палатно.** Гр.

*Радніна* і *радно* — мешковина, рядно, дерюга (БРС-62).

— Руск. (дыял.) *ряднина* — "грубый деревенский холст, по реденькой основе и с самым лёгким прибоем (бердом), идет на мешки и на подстилку и на застилку" (Даль, IV, 120).

Паходзіць слова *радняніца* ад *радняны* (*раднян-іца* параўн. аднаструктурнае *згребница* ў старабелар. мове), якое ад старажытнага *радно* — 'тоўстае палатно з канаплянай або льняной пражы' (Хрэст., 498).

---

[53] Закарьян З. М. Словарный состав «Статута Великого княжества Литовского» 1588 года. Канд. дисс. М., 1955, стр. 360.

## НАЗВЫ ПАСЦЕЛЬНЫХ ПРЫЛАДАЎ

**Сяльнік** м. Шырокі доўгі мяшок, напханы саломаю, на якім спяць. *У сяльніку салома пярацерлася, цвердо спаць, трэ новае напхаць.* Гр.

*Сяльнік* — 'сяннік', Слон., Маст., Ваўк. (П. С.), Глушч. (ДС-60), Чэрв. (КСЧ); *сельнік*, Случ. (Серж.), Малар. (МДСБМ); *сельнік* і *сцельнік*, Навагр. (МДСБМ); *сяньнік* і *сяднік*, Чэрв. (КСЧ); *сяннік* (СБН), Бых. (Мат., 90); *сяніца* — 'хлеў для сена', Мсцісл. (Юрч.); *сельнік* — 'будынак для сена' (Мацк., МДК, 74); *сяльник, сельник, сенник* — 'мешок, набитый сеном, соломой' (ЛП, 313).

*Сяннік*—сенник, тюфяк (БРС-62, РБС-53).

— Руск. *сенник*, дыял. *сельник* — "тюфяк, кладовая" (Даль, IV, 173), укр. *сінник* — 'сяннік', *селник* — тс. (Лыс.), польск. *sieńnik*, *ścielnik* — 'сяннік' (Карл., IV, 713), чэшск. *sieník* — 'адрына'.

Паходзіць слова *сяннік* ад *сена* : *сян-нік*; літаральнае значэнне — 'з сена' (мяшок). Форма *сяльнік* з ранейшага *сяннік* як вынік дысіміляцыі **нн>лн.**

**Сельнічо́к** (*сяльнічо́к*) м. Дзіцячы сяннік. *Малому сяльнічок саломаю напхалі.* Св.

*Сяннічок* — падушачка, напханая сенам, для дзіцяці (СБН).

— Укр.*сіннічок* — 'маленькі сяннік'.

Утворана слова *сяльнічок* ад *сяльнік*, суфікс памяншальнага значэння **-ок.**

**Радзю́жка** (*радзюшка*) ж. 1. Посцілка з грубай тканіны—радняніцы (гл.). *Па сяльніку радзюшку засьцілаям і так спімо.* Кр. 2. Коўдра свае работы. *Радзюжок наткала суконных.* Гр. 3. Узорчаты самаробны дыван, капа. *Харошая ў цябе радзюшка, і крамна капа ні дакажа.* Гр.

*Радзюшка*—тс., Слон., Ваўк., Маст. (П. С.), Малар., Слон., Зэльв. (МДСБМ) і інш.[54]; *радзюжка, радзюшка, радзюшко*—тс. (ЛП, 311).

— Руск. (дыял.) *радюга* — 'грубая тканіна і пашытае з яе адзенне', (Даль, IV, 120); укр. *рядюжка* — памянш. ад *рядюга* (Грын., IV, 93); *радюжка* і *редюжка*: 1) радніна, якой засцілаюць ложак; 2) дамаканы дыван на сцяну ў хаце (Лыс., СЛЛ, 47).

*Радзюжка* ад ранейшага *радзюга*, суфікс **-к-**а (параўн. аднаструктурнае з тым самым значэннем *дзяружка*), корань той (*рад-*), што і ў слове *радно.*

**Радзю́жачка** ж. Дзіцячая посцілка з грубай тканіны, а таксама свае работы дзіцячая коўдра. *Радзюжачку ні забуць, як на двор малоё панясеш.* Ст. С.

Памяншальнае ўтварэнне ад *радзюжка*: *радзюжач-ка.*

**Радно́** н. Падвойная самаробная коўдра з грубай тканіны. *Радно — гэто тая самая радзюшка, а́ля ў два ра́зы даўжэйша, і накры-*

---

[54] Пісьменнік М. Арочка сцвярджае, што слова *радзюжка* шырока бытуе ў народнадыялектнай беларускай мове. — «Полымя», 1961, № 7, стар. 184.

*ваямсё йім, згарнуўшы ў дзьве столкі; часам шшываюць яго.* Ст. С.

*Радно* — 'грубатканая пасцілка', Ваўк. (Сцяшк.); *радно* — 'від саматканага палатна', Чэрв. (КСЧ), Маладз. (Мат., 104); *радно, редно* — "полотняная постилка, сшитая из шести полотнищ, двойная" (ЛП, 311).

*Радно* — мешковина, дерюга, рядно (БРС-62).

— Руск. *рядно* —' шырокі мяшок з дзяружнага палатна' (ЭСРЯ, II, 240—241); укр. *ряднина, ряднинка* — 'радно, радніна', дыял. *радно* — 'вялікі мяшок для сечкі' (Лыс., СЛЛ, 47), польск. *radno* — 'вялікі кусок палатна ў рады з найгоршага валакна' (Карл., V, 463).

У старабеларускай мове слова *радно* мела значэнне 'тоўстае, грубае палатно с канаплянай або льняной пражы' (Хрэст., 498).

З беларускай мовы слова трапіла ў польскую (Карл., V, 463).

Даль і Гараеў звязваюць слова *радно* з *рэдкі*. Больш прыймальнай здаецца нам этымалогія гэтага слова ў Праабражэнскага, які адносіць *радно* да *рад* (ЭСРЯ, II, 240—241). Утварэнне: *рад-но* (як *сукно, палатно*), літаральнае значэнне — 'тканае ў рады'.

**Дыва́н** м. Самаробная капа пакрываць ложак, вытканая са стужак старога адзення. *Дыванэ ччэм так: па аснові патыкаям усякім стар'ём, парэзайшы на стушкі.* Гр.

*Дыван* — 'саматканая посцілка', Слон. (МДСБМ).

*Дыван* — ковёр (БРС-62).

— Руск. *диван* — 'канапа', укр. диван — тс., польск. *dywan* — 'дыван'.

А. Брукнер адзначае гэта слова ў сербскай і балгарскай мовах, дзе яно мае больш шырокае значэнне—і 'хата, завешаная дыванамі',— і адносіць слова да турэцк. *diwan*<персідск. *diwān* (Брукн., 107).

**Коц** м. Шарсцяная коўдра. *Коц і лёгкі і цёплы, натто выгода йім акрываццa.* Гр. Слова *коц* пашырана на ўсёй тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, яго адзначаюць Я. Карскі і І. Насовіч.

*Коц* — "байковое одеяло" (ЛП, 294).

У гаворкі слова трапіла з польскай мовы, дзе *koc* з нямецк. *Kotze* — 'коўдра' (Сл., II, 309).

**Адзіядла** (*адзіядло*) н. 1. Байкавая коўдра. 2. Ватовая коўдра. *Як халадней у хаці — ватнім адзіядлам акрываямсё, а як цяплей — байкавым.* Гр.

*Одияло:* 1) одеяло; 2) ватное одеяло (ЛП, 300).

— Руск. *одеяло*, укр. *одіяло* (паралельна з *ковдра, укривало*).

Слова прыйшло ў гаворкі з рускай мовы, спалучэнне **дл** узнікла па аналогіі з этымалагічна правільнымі выпадкамі (*кавадла, прасціраддла, павідла*), параўн. *тачыдло, матавідло* замест *тачыла, матавіла.*

**Адзіялка** (*адзіялко*) і н. Дзіцячая коўдра. *Як зімою, то адзіялкам укручваям дзіця, як на двор выносімо.* Ст. С.

— Руск. *одеяльце*, укр. *одіяльце.*

*Адзіялка* — памяншальнае ўтварэнне ад *адзіядла*, гук **д** пры збегу зычных выпаў: *адзіядлка*>*адзіялка.*

**Пяры́на** ж. *Пярынаю мало хто ў сяле акрываяцца, усё боляй мяшчаня.* Гр.

Помнікі ўсходнеславянскай пісьменнасці адзначаюць гэта слова з XII ст. Бытуе яно ва ўсіх усходнеславянскіх, польскай, балгарскай, чэшскай мовах.

Утворана ад *пяро* : *пяр-ына,* параўн. аднаструктурнае *аўчына.*

**Ка́па** ж. *У крамі капу на пасьцель купілі. Хай харашэй будзя.* Дзяр.

У беларускую народнадыялектную і літаратурную мову слова прыйшло з польскай: *kapa* мае 14 значэнняў (Карл., II, 238—239), паходзіць з лац. *cap(p)a* → 'галаўны ўбор, плашч з капюшонам' (Сл., I, 49—50).

**По́сцілка** (*посьцілка*) ж. рэдк. Кужэльная саматканая прасціна. *Самы́я сьпімо бяс посьцілкі, радзюшку падаслаўшы, а госьцю — посьцілку.* Кр.

Слова бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах, утворана ад *пасцілаць* : *пасцілка*>*посцілка* (як і *по́двязка, за́вязка* і г. д.).

**Про́стыня** ж. Прасціна фабрычнага вырабу. *Вучыцялю простыні мыя Гандзя.* Вальк.

*Просцинь, простынь, простыня* — тс. (ЛП, 309).

*Прасціна, прасцірадла* — простыня (БРС-62).

— Руск. *простыня*, укр. *простиня, простирало*, польск. *prześcieradło* — 'прасціна'.

Ва ўсходнеславянскай мове слова фіксуецца ў помніках з XI ст. са значэннем 'прастата'. У помніках XV ст. яно выступе са значэннем 'адзенне'. Улічваючы гэта, А. Праабражэнскі адносіць *прастыня* да *просты* (*прост-ыня*);

першапачатковае значэнне—'простае, нясшытае адзенне' (ЭСРЯ, II, 135, КЭСРЯ, 273).

У гаворкі слова прыйшло з рускай мовы і ўспрымаецца як новае.

**Пялю́шка** ж. Дзіцячая прасцінка, пялёнка, *Спаві дзіця ў новыя пялюшкі.* Гр.

*Пялюшка* — 'пялёнка', Слон., Маст., Ваўк. (П. С.), Малар. (МДСБМ).

Возьми жа моё дитяточко... Сповей яго в *пелюшечки* (П. Бессонов. Белорусские песни. М., 1874, стр. 4). Ці яго ў *полачкі* спавіці, ці яго ў люлечку ўлажыці (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы).

*Пялюшка* — пеленка (ПРБС-24); *пялёнка* і абл. *полка, пялюшкі—пеленки* (БРС-62).

— Руск. *пеленка*, дыял. *пелька* — 'пялёнка' (ЭСРЯ, II, 33—34), *пелька* — 'частка кашулі ці іншай адзежы'[55]; укр. *пелюшка* — 'пялёнка', польск. *pielucha, pieluszka* — тс., чэшск. *peluch* — 'бярлог', *plena*—'пялёнка'; балг. *пелена* — тс., в.-л. *pjeluch* — тс.

А. Праабражэнскі этымалогію слова лічыць няяснай. Як паказвае матэрыял славянскіх моў, *пялюшка* — суфіксальнае ўтварэнне (суфікс **-юшк**-а з **ух+ьк**-а) ад асновы *пел-* (*пял-*); корань той, што і ў літоўск. *plenė* — 'скура, плеўка'.

**По́душка** ж. Падушка. *Вельку подушку напхала с таго пер'я.* Кр.

*По́душка, паду́шка* — тс. (ЛП, 306).

— Руск. *подушка*, укр. *подушка*, стар. і дыял. *по́душка* (ЛАУГ, II, карта 157), чэшск.

---

[55] П. Ф. Филин. Проект словаря русских народных говоров. М., 1961, стр. 178.

*poducha* (стар.) і *poduška*, польск. *poduszka*, *duchna* — 'пярына' 'дух', 'душа'.

А. Праабражэнскі разглядае слова як утварэнне: *под-уш-ка*. Аўтары КЭСРЯ бачаць тут суфіксальнае ўтварэнне ад зніклага *подуха* (*подух+ька>подуш-ка*), якое ад кораня *дух-* (параўн. польск. *duchna*—'пярына', 'дух'). Літаральнае значэнне слова — 'надутае'. Набліжэнне да слова *ухо* з'яўляецца народнай этымалогіяй. (КЭСРЯ, 256).

**По́душачка** ж. Дзіцячая падушка. *Подушачкі ні ўзяла, як дзіця спацімя*? Ст. С.

Слова бытуе ў многіх славянскіх мовах. Утворана ад *подушка* з дапамогаю памяншальна-ласкальнага суфікса **-к**-а: *подушк+ +ьк-а>подушач-ка.*

**Ясек** (*я́сяк*) м. Невялікая падушка, што кладзецца наверх падушак, каб упрыгожыць пасцель. *От харошы ясяк у Мані на падушкох.* Ст. С.

*Ясяк, ясек, ясік* — тс., Слон., Маст., Ваўк. (П. С.); *ясік* — 'маленькая падушачка', Докш. (Мат., 82); *ясик* — тс., (ЛП, 319). На сярэдзіне палка ляжалі высока ўзбітыя падушкі, на самым версе якіх пакоіўся *ясік* (П. Галавач. Збор тв., т. III, 196).

— Укр. *ясик* (стар.), дыял. *ясік* — 'маленькая падушачка' (Лыс., СЛЛ, 60), польск. *jasik* — тс.

Ф. Слаўскі тлумачыць паходжанне слова *jasik* як запазычанне з турэцк. *jastyk* — 'падушка', якое пры пасрэдніцтве ўкраінскай мовы дало *jasik*, у народнай этымалогіі звязваецца з імем *Jaś*, памянш. ад *Jan*. Турэцкае слова было запазычана таксама балканскімі

мовамі — балгарскай, сербскай, албанскай (Сл., I, 511).

**Ссы́пка** ж. Мяшочак, у які насыпаецца пер'е, зверху на ссыпку нацягваецца навалачка. *Натто пер'ё лезя з ссыпкі, як навалачкі німа.* Кр.

*Ссыпка* — 'насыпка', Маст., Ваўк., Слон. (П. С.), Навагр., Малар., Радун. (МДСБМ), Лях. (Мат., 128); *насыпка* (КСЧ).

*Насыпка* — 'ніжняя навалачка' (БРС-62).

— Укр. *насипка* — тс.

*Ссыпка* ад *ссыпаць* : *ссып-ка*; літаральнае значэнне слова ссыпка — 'тое, у што ссыпаюць' (пер'е).

**По́шва** ж. Навалачка. *Нацягнула пошву на ссыпку і подушка гатова.* Яр.

*Пошва*—'навалочка', Маст., Бераст., Ваўк., Слон. (П. С.); *пошыўка* — тс., Маладз. (Мат., 103), Карэл. (Мат., 157); *по́шоўка* — тс. (ЛП, 308), *пошво́, пушво́* — 'рубец, шво' (ЛП, 318).

Там доўга і ціха спрачаюцца дзеці за нейкую падушку з чырвонаю *прошваю* (К. Чорны).

— Укр. *пошивка* — 'навалочка', польск. *poszewka* — тс., *poszwa* — 'навалачка, чахол, похва' (Карл., IV, 784—785).

Паходзіць слова *пошва* ад *пашыць* : *пош-в-а* (параўн. *шво*, аднаструктурнае *варыва*).

**На́валачка** ж. Слова ўспрымаецца як новае з тым самым значэннем, што і **пошва** (гл.). *Навалачку замалую пашыла на подушку.* Гр.

*Наволочка, наволка, навалака* — 'навалачка' (ЛП, 297).

*Навалка* — тс., Мсцісл. (Юрч.).

*Навалочка* — наволочка (БРС-62).

